ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ, ЗАЎЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕЦКАЯ КРАІНА





ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

[К]РАСАВІК

№ 4 (18)

1932

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ
БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

КРАСАВІК
№ 4 (18)

МЕНСК — 1932

# Аб культурным будаўніцтве БССР

## Пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б

Рабочая кляса БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, пасьлядоўна і няўхільна ажыцьцяўляючы генэральную лінію партыі, дабілася рашаючых посьпехаў ва ўсіх галінах социялістычнага будаўніцтва БССР.

З краіны прамыслова адсталай, з дробнай саматужнай і паўсаматужнай прамысловасьцю, з надзвычай адсталай, дробнай і найдрабнейшай сельскай гаспадаркай, БССР—пры дыктатуры пролетарыяту, дзякуючы брацкай актыўнай дапамозе пролетарыяту ўсяго Савецкага саюзу,—ператварылася ў краіну са шпарка ўзрастаючай прамысловасьцю, адносная вага прамысловай продукцыі ва ўсёй продукцыі народнай гаспадаркі БССР узрасла з 38,7 проц. у 1929-30 г. да 50 проц. у 1931 г. Агуловая продукцыя ўсёй прамысловасьці ў 1931 г. складае каля 703,8 млн., руб. Пабудаваны і ўведзены ў эксплёатацыю рад буйных перадавых прадпрыемстваў (БелДРЭС, Гомсельмаш, Магвалакно, заводы будматар'ялаў, дрэваапрацоўчы комбінат і г. д.).

У сельскай гаспадарцы БССР, як ва ўсім Савецкім саюзе, адбыўся карэнны пералом, які выявіўся ў канчатковым павароце да соцыялізму бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Пануючае становішча ў сельскай гаспадарцы занялі соцыялістычныя формы (колгасы, савгасы). Колектывізацыяй ахоплена каля 50 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, адносная вага засеўнай плошчы савгасаў узрасла за апошнія два з паловай гады ў тры разы, значна ўзрасла адносная вага тэхнічных культур—ільну і канапель у агульнай засеўнай плошчы, трактарны парк узрос да 2.000 трактараў, значна павялічылася колькасьць малочна-таварных і сьвінагадоўчых фэрм.

На аснове разгорнутага гаспадарчага будаўніцтва, цьвёрдага і няўхільнага правядзеньня ленінскай нацыянальнай політыкі, БССР дабілася буйнейшых посьпехаў у галіне культурнага будаўніцтва.

З краіны да Кастрычніцкай рэволюцыі нацыянальна прыгнечанай, адсталай, няпісьменнай, з 70 проц. няпісьменнага працоўнага насельніцтва, БССР ператвараецца ў краіну суцэльнай пісьменнасьці, з забясьпечаньнем культурных запатрабаваньняў працоўных мас усіх нацыянальнасьцяў на іх роднай мове. Праведзена вялікая работа па ліквідацыі няпісьменнасьці і ёсьць усе рэальныя магчымасьці для таго, каб да 1 мая 1932 г. БССР стала краінай суцэльнай пісьменнасьці. Уведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне, праведзен рад мерапрыемстваў па падрыхтоўцы разгортваньня ўсеагульнага навучаньня на базе сямігодкі.

Рознымі зьвеньнямі першапачатковай школы ахоплена каля 650 тыс. дзяцей—97 проц. школьнага ўзросту, школамі другога кон-

цэнтру (сямігодкай) ахоплена звыш 120 тыс. дзяцей. Школамі граматы для дарослых няпісьменных і малапісьменных ахоплена 412 тыс. чал.

У той час, калі да Кастрычніцкай рэволюцыі ў БССР ня было ні аднэй як вышэйшай навучальнай установы, так і навукова-дасьледчай установы, за гады савецкай улады ў БССР створана 27 вышэйшых навучальных устаноў, 94 тэхнікумы з агульнай колькасьцю студэнтаў 32 тысячы чалавек. У ФЗВ і профтэхнічных школах навучаецца каля 20.000 чалавек. Разгорнута значная навукова-дасьледчая работа, створана 27 навукова-дасьледчых інстытутаў, выраслі кадры навуковых работнікаў і асьпірантуры (звыш 500 чалавек асьпірантаў рыхтуюцца да навуковай і пэдагогічнай работы).

Разгорнута вялікая работа па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў для прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, падрыхтавана звыш 20 тысяч чалавек.

Шпарка расьце кніжная продукцыя. У 1931 г. на беларускай мове выдана звыш 10 млн кніг супроць і 1 млн 400 тыс. у 1924 г. і 33 тыс. у 1913 г. Значна ўзрасло выданьне кніг на яўрэйскай, польскай, літоўскай і інш. мовах.

Растуць тыраж і сетка цэнтральных газэт БССР—з 284 тыс. у 1930 г. да 343 тыс. экзэмпляраў у 1931 г. Тыраж 64 раённых газэт узрос да 600 тыс. экзэмпляраў. Значна вырас тыраж газэт нацменшасьцяў (яўрэйскіх, польскіх, літоўскіх і інш.).

У галіне разьвіцьця беларускага мастацтва і літаратуры таксама дасягнуты буйныя посьпехі. За гады рэволюцыі створаны беларускі тэатр, кіно. Значна павялічылася сетка мастацкіх устаноў (тэатры, кіно, музыка, выяўленчае мастацтва, выстаўкі, музэі і г. д.), значна вырасла беларуская пролетарская літаратура.

Вялізарнейшыя перамогі на фронце гаспадарчага і культурнага будаўніцтва БССР зьяўляюцца рэзультатам надзвычайнага росту актыўнасьці найшырэйшых рабочых, колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас БССР, рэзультатам цьвёрдага і няўхільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі, разгорнутага наступленьня на капіталістычныя элемэнты па ўсім фронце.

КП(б)Б дабілася гэтых рашаючых посьпехаў у бязьлітаснай барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам, які ператварыўся зараз у перадавы атрад міжнароднай буржуазнай контррэволюцыі, у бязьлітаснай барацьбе з правым опортунізмам—галоўнай небясьпекай на даным этапе, „левымі“ загібамі, прымірэнцтвам, а таксама непрымірымай барацьбе з ухіламі ад ленінскай нацыянальнай політыкі партыі, з ухілам у бок вялікадзяржаўнага шовінізму як галоўнай небясьпекай на даным этапе, а таксама з ухілам у бок мясцовага шовінізму, з нацыянал-опортунізмам, контррэволюцыйным нацдэмократызмам.

* * *

Аб‘яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б лічыць, што ажыцьцяўленьне ў другой пяцігодцы сусьветна-гістарычных задач, пастаўленых XVII усесаюзнай партконфэрэнцыяй—„канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і кляс наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва“—патрабуе бальшавіцкага разгортваньня і ажыцьцяўленьня задач культурнай рэволюцыі.

„Аўладаньне тэхнікай гаспадарчымі кадрамі, стварэньне шырокіх новых кадраў уласнай тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочых і сялян, рашучае ўзьняцьце культурнага ўзроўню ўсёй масы працоўных... Усямернае паскарэньне ажыцьцяўленьня ўсеагульнай пісьменнасьці насельніцтва, хутчэйшае ўзьняцьце ўсёй справы тэхнічнай асьветы і ўзмоцненае матар'яльнае падтрыманьне дзяржавай разьвіцьця навукі ў СССР" (з рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі)—такавы важнейшыя задачы ў галіне культурнага будаўніцтва, рэалізацыя якіх патрабуе рашучага ўзмацненьня партыйнага кіраўніцтва, увагі і дапамогі з боку партыйных, савецкіх, профэсіянальных, коопэрацыйных організацый да пытаньняў культурнага будаўніцтва БССР.

Будаўніцтва беларускай пролетарскай культуры праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Абвастрэньне клясавай барацьбы на радзе вучасткаў социялістычнага будаўніцтва яскрава праяўляецца і на ідэолёгічным, культурным фронце як у форме процідзеяньня разгортваньню нацыянальна-культурнага будаўніцтва, так і асабліва навакол ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі.

Ухіл у бок вялікадзяржаўнага шовінізму як галоўнай небясьпекі на даным этапе праяўляецца ў барацьбе супроць будаўніцтва нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьмесьце беларускай культуры, у ігнараваньні яе нацыянальнай формы. Вялікадзяржаўныя ўхілісты (нацыянал-опортуністы таксама) разьвіваюць „тэорыю" аб нямінучасьці барацьбы „дзьвюх культур" (рускай і беларускай), формальна адносяцца да правядзеньня беларусізацыі, пашыраюць шовіністычныя, вялікадзяржаўныя погляды аб „штучнасьці" беларусізацыі і г. д.

У апошні час вялікадзяржаўны шовінізм, у сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы, значна актывізаваўся, у асаблівасьці на культурным і тэорытычным фронце БССР, што праяўляецца ў пагардлівых, гіронічных адносінах да асаблівасьцяў беларускай культуры, быту (Вольфсон, Выдра), у трактаваньні беларускай культуры як культуры „сялянскай", адсталай, у процістаўленьні нацыянальнай формы беларускай культуры яе пролетарскаму зьместу і г. д.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б лічыць першачарговай задачай КП(б)Б павышэньне і ўзмацненьне пільнасьці да вылазак і праяўленьняў ухілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму як галоўнай небясьпекі на даным этапе. Партыя павінна організаваць яшчэ больш актыўную барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам, выкрываць перад шырокімі працоўнымі масамі ўсю яго рэакцыйнасьць, карэньні, гістарычнае паходжаньне і г. д., а таксама нанесьці рашучы ўдар опортуністычнаму прымірэнству да праяўленьняў вялікадзяржаўнага ўхілу.

Рашуча змагаючыся з вялікадзяржаўным вялікарасійскім шовінізмам, КП(б)Б павінна адначасова ўзьмацніць барацьбу супроць беларускага шовінізму. Разьбіты і цалкам скомпромэтаваны ў вачох шырокіх працоўных мас контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм працягвае як у старых, так і ў новых, больш прыкрытых, замаскаваных формах выступаць супроць дыктатуры пролетарыяту.

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б адначасова адзначае актывізацыю беларускага шовінізму і патрабуе рашучага ўзмацненьня барацьбы і пільнасьці да ўсякіх праяўленяняў нацыянал-опортунізму і нацыянал-дэмократызму, рашучай барацьбы з прымірэнчымі адносінамі да беларускага шовінізму.

Разам з тым пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б указвае на рад фактаў праяўленьня яўрэйскага, польскага і інш. шовінізмаў, з якімі таксама павінна весьціся рашучая і неаслабная барацьба.

Адзначаючы буйныя посьпехі ў галіне беларусізацыі партыйнага, савецкага, профэсіянальнага, коопэрацыйнага апаратаў, значныя дасягненьні ў справе вылучэньня падрастаючых беларускіх кадраў, пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б адзначае разам з тым наяўнасьць паасобных фактаў супраціўленьня беларусізацыі.

Пленум ЦК і ЦКК прапануе парторганізацыям падняць работу ў галіне беларусізацыі на больш высокую ступень, забясьпечыўшы вывучэньне ня толькі беларускай мовы, але і экономікі, гісторыі, культуры, быту, літаратуры БССР шляхам арганізацыі гурткоў, сэмінараў, узмацненьня работы па беларусізацыі клюбаў, палацаў культуры, чырвоных куткоў, бібліотэк і г. д.

Прапанаваць Наркамасьветы і ўсім наркаматам, пад ведамам якіх знаходзяцца ВНУ, тэхнікумы, навучальныя ўстановы, павялічыць у навуковых плянах вывучэньне асноў нацыянальнай політыкі.

Адзначаючы наяўнасьць раду фактаў, якія сьведчаць аб скажэньні нацыянальнай політыкі ў адносінах да нацменшасьцяў (закрыцьцё школ, хат-чытальняў і г. д.), пленум прапануе парторганізацыям у корані зьнішчыць падобныя зьявішчы, узмацніць пролетарскае кіраўніцтва культурным будаўніцтвам сярод нацменшасьцяў і ўзмацніць матар'яльную базу (памяшканьні, сталоўкі, інтэрнат, падручнікі і г. д.).

Адзначаючы значныя посьпехі ў галіне карэнізацыі апарату, падрыхтоўкі і вылучэньня пролетарскіх кадраў карэнных нацыянальнасьцяў (беларусоў, яўрэяў, палякаў і інш.),—пленум ставіць перад парторганізацыямі, профсаюзамі і гаспадарчымі організацыямі задачу— яшчэ больш узмацніць работу па вылучэньні рабочых і колгасьнікаў з карэнных нацыянальнасьцяў (беларусоў, яўрэяў, палякаў і інш.) на кіруючую гаспадарча-тэхнічную, культурна-асьветную, савецкую, коопэрацыйную, профсаюзную работу. Зьвярнуць пры гэтым асаблівую ўвагу на вылучэньне беларускіх пролетарскіх кадраў.

Пленум ЦК і ЦКК падкрэсьлівае, што правільнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай політыкі партыі абавязковай сваёй умовай уключае ў сабе сыстэматычнае і штодзеннае інтэрнацыянальнае выхаваньне шырокіх працоўных мас.

Пленум ЦК і ЦКК указвае, што на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва асноўнай і першачарговай задачай усіх партыйных, культурна-асьветных організацый на фронце культурнай рэволюцыі зьяўляецца барацьба за павышэньне якасьці культурнай работы, за рэалізацыю 6 ўказаньняў правадыра партыі тав. Сталіна, за марксысцка-ленінскую мэтодолёгію. Пленум адзначае, што парторганізацыі і ў асаблівасьці органы Наркамасьветы, профсаюзныя організацыі ўсё яшчэ не перабудаваліся на рэалізацыю гэтых важнейшых задач.

## 1. У галіне ўсеагульнага навучаньня

Адзначаючы буйнейшае політычнае і народна-гаспадарчае значэньне ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, пленум ЦК і ЦКК прапануе партыйным, профсаюзным, комсамольскім організацыям і органам Наркамасьветы забясьпечыць выкананьне дырэктыў ЦК КП(б)Б аб ператварэньні БССР да 1/V-1932 г. у краіну суцэльнай пісьменнасьці.

Забясьпечыць у 1932-33 г. увядзеньне ўсеагульнай ліквідацыі малапісьменнасьці і ўсеагульнага навучаньня ў БССР на базе сямігодкі.

Пленум даручае бюро ЦК распрацаваць рад падрыхтоўчых мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьню програмы партыі аб політэхнічнай асьвеце для ўсіх дзяцей да 17 год.

Адзначаючы некаторыя зрухі ў рабоце школы ў рэзультаце практычнага выкананьня пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе, пленум ЦК і ЦКК разам з тым лічыць, што наяўныя зрухі ў рабоце школы зусім невыстарчальны і тэмпы выкананьня пастановы ЦК аб школе застаюцца зусім нездавальняючымі.

Карэнныя недахопы школы—невыстарчальны аб'ём агульнаадукацыйных ведаў, у радзе выпадкаў формальны характар правядзеньня політэхнізацыі, невыстарчальная ўвязка тэорыі з практыкай—усё яшчэ не ліквідаваны. Ёсьць у практыцы работы школ праяўленьні як правaопортуністычнага характару—адрыў тэорыі ад практыкі, зьвядзеньне работы школ да слоўнай толькі вучобы, так і „левыя“ загібы і мэтодычнае прожэктэрства і г. д.

Пленум завастрае ўвагу ўсіх парторганізацый і органаў народнай асьветы на задачах цьвёрдага і няўхільнага ажыцьцяўленьня пастаноў партыі аб школе, на барацьбу за палепшаньне якасьці пастаноўкі ўсёй работы школ, за павышэньне ўзроўню агульнаадукацыйных ведаў вучняў, за ўмацаваньне матар'яльнай базы школ і ўзмацненьне політэхнізацыі школ, палепшаньне мэтодычнага кіраўніцтва, узмацненьне сьвядомай дысцыпліны і адказнасьці за работу як з боку настаўнікаў, так і школьных організацый.

Пленум прапануе Наркамасьветы і Дзяржвыдавецтву БССР на працягу гэтага году выпусьціць у першую чаргу па грамадазнаўству і грамадзкіх дысцыплінах ідэолёгічна-вытрыманыя падручнікі, для чаго мобілізаваць аўтарскія кадры з ліку марксысцка-вытрыманых навуковых работнікаў і настаўнікаў; марксысцкім т-вам, профорганізацыям і ў першую чаргу ЦП саюзу асьветы аказаць у гэтай рабоце максымальную дапамогу Наркамасьветы і Дзяржвыдавецтву БССР.

Задача выкананьня пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе патрабуе рашучага ўпарадкаваньня ўсёй навучальнавытворчай і грамадзкай работы вучняў.

Пленум прапануе Наркамасьветы і Наркамаховы здароўя неадкладна распрацаваць і правесьці ў жыцьцё мерапрыемствы, якія рэгулююць нагрузку вучняў, рацыяналізацыю ўсёй іх работы, узмацненьне фізычнага аздараўленьня дзяцей, а таксама ўзмацненьне гігіены і чыстаты ў дзіцячых і культурна-асьветных установах.

Пленум адзначае, што ва ўмовах практычнага ажыцьцяўленьня культурнай рэволюцыі роля і значэньне настаўнікаў надзвычай узрасла, а работа сярод іх набывае асабліва важнае політычнае значэньне. Пленум адзначае палепшаньне соцыяльнага складу настаўніцтва і актыўны ўдзел асноўнай яго масы ў соцыялістычным будаўніцтве.

Прапанаваць усім партыйным організацыям, Наркамасьветы і профорганізацыям узмацніць работу па політычным выхаваньні і ўзьняцьці вытворчай кваліфікацыі настаўнікаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на разгортваньне завочнага навучаньня. Забясьпечыць далейшае палепшаньне соцыяльнага складу настаўнікаў.

Пленум ЦК і ЦКК абавязвае ўсе партыйныя організацыі ўзмацніць барацьбу са скажэньнем лініі партыі ў адносінах да настаўнікаў, рашуча зьнішчаць усякія парушэньні праўнага і матар'яльнага становішча настаўнікаў. Пленум падкрэсьлівае важнейшае значэньне поўнага і няўхільнага ажыцьцяўленьня дырэктыў ЦК УсеКП(б) і бюро ЦК КП(б)Б аб матар'яльным забесьпячэньні настаўнікаў і даручае

Колгасцэнтру, Белкоопсаюзу правесьці ў бліжэйшы час праверку забесьпячэньня настаўнікаў.

Аднэй з першачарговых задач парторганізацый і органаў Наркамасьветы зьяўляецца неадкладная і поўная ўкомплектаванасьць кадраў выкладчыкаў і палепшаньне іх матар'яльнага становішча.

Пленум адзначае абсолютна нездавальняючы стан капітальнага будаўніцтва культурных устаноў, асабліва масавай школы, і прапануе бюро ЦК забясьпечыць выкананьне ў гэтым годзе ўсяго пляну будаўніцтва культурна-асьветных устаноў, а таксама скончыць ужо пачатыя будаўніцтвам масавыя школы.

Адначасова пленум катэгорычна пацьвярджае раней даныя дырэктывы аб аслабаненьні ўсіх школ і іншых культурна-асьветных памяшканьняў, занятых іншымі ўстановамі, і катэгорычна прапануе ў далейшым спыніць займаньне і скарыстаньне для іншых мэт школ і культурна-асьветных памяшканьняў.

Прапанаваць СНК распрацаваць пытаньне аб стварэньні організацыі, якая-б клапацілася аб забесьпячэньні навуковым і навуковадасьледчым абсталяваньнем і школьнымі прыладамі школ і ўсіх культурна-асьветных устаноў.

## 2. У галіне падрыхтоўкі кадраў

Улічваючы, што: „ажыцьцяўленьне задач поўнай тэхнічнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі непарыўна зьвязана са справай аўладаньня тэхнікай нашымі гаспадарчымі кадрамі, са стварэньнем шырокіх новых кадраў уласнай тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочых і сялян“,— пленум ЦК адзначае, што тэмпы і якасьць падрыхтоўкі кадраў не здавальняюць узросшых патрабаваньняў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва БССР.

Пленум лічыць неабходным:

а) разгарнуць падрыхтоўку тэхнічных і культурных кадраў такімі тэмпамі, каб да канца другой пяцігодкі гаспадарчае і культурнае соцыялістычнае будаўніцтва было цалкам задаволена неабходнымі кадрамі спэцыялістаў. Абавязкова ўлічыць падрыхтоўку як кадраў тэхнічных, так і масавых кадраў нацменшасьцяў.

б) Палепшыць якасьць работы навучальных устаноў, якія падрыхтоўваюць кадры, ліквідаваць пануючую ў навучальных установах абязьлічку. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на падрыхтоўку кадраў выкладчыкаў па лініі грамадазнаўства і аўладаньня навейшымі дасягненьнямі тэхнікі і навукі.

в) Організаваць у 1933 г. інстытуты па павышэньню кваліфікацыі, у першую чаргу для тэхнічных кадраў прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Даручыць бюро ЦК прапрацаваць пытаньне аб адкрыцьці ў БССР аддзяленьня Ўсесаюзнай прамакадэміі.

г) Для падрыхтоўкі кадраў масавых профэсій, уздыму агульнакультурнага і тэхнічнага ўзроўню працоўных мас перабудаваць зьмест работы ўсёй сыстэмы вячэрняга навучаньня для дарослых, пачынаючы са школы малапісьменных, у такім напрамку, каб побач з атрыманьнем агульнаадукацыйных і політычных ведаў было забясьпечана павышэньне кваліфікацыі слухачоў.

Прапанаваць Наркамасьветы, гаспадарчым органам і профорганізацыям разгарнуць работу па забясьпечаньні поўнага мінімуму агульнаадукацыйных і тэхнічных ведаў кадрам масавых профэсій шляхам організацыі курсаў, гурткоў і г. д.

д) Надаючы выключнае значэньне падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў праз сыстэму завочнага навучаньня і адзначаючы нездавальняючую пастаноўку апошняй у БССР,—пленум прапануе ўсім органам, якія праводзяць завочнае навучаньне, на працягу бліжэйшых двух год ахапіць сыстэмай завочнага навучаньня ўсе тэхнічныя кадры, якія ня маюць належнай падрыхтоўкі, адначасова разгарнуць работу па ўцягненьню ў сыстэму завочнага навучаньня шырокіх рабочых, колгасных мас.

Пленум з асаблівай катэгорычнасьцю падкрэсьлівае неабходнасьць у найбліжэйшы час аўладаньня тэхнікай справы ўсімі кіруючымі работнікамі, у першую чаргу комуністамі.

е) У мэтах забясьпечаньня кадрамі выкладчыкаў для ўсіх зьвеньняў школы адкрыць не пазьней 1933 г. у БССР інстытут іншакраінных моваў.

У сувязі з вялізарным ростам сеткі польскіх і яўрэйскіх масавых навучальных і культасьветных устаноў і насьпеўшай неабходнасьцю павышэньня кваліфікацыі пэдагогічных кадраў, разгарнуць падрыхтоўчую работу да адкрыцьця ў 1933 г. польскага і яўрэйскага пэдагогічных інстытутаў.

## 3. У галіне работы сярод інтэлігенцыі

Пленум ЦК і ЦКК адзначае значныя дасягненьні ў справе падрыхтоўкі кадраў пролетарскай інтэлігенцыі з рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, якія адыгрываюць ужо значную ролю ва ўсім соцыялістычным будаўніцтве. Рашаючыя посьпехі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, выкрытыя і ўскрытыя шкодніцкія і нацдэмаўскія справы—стварылі паварот у бок савецкай улады асноўнай масы старой тэхнічнай і інш. інтэлігенцыі. Адначасова ў сувязі з абвостранай клясавай барацьбой актывізуецца ў барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту частка клясава-варожай нам інтэлігенцыі. Пленум ЦК, завастраючы ўвагу ўсёй КП(б)Б на барацьбу супроць клясава-варожых, шкодніцкіх элемэнтаў сярод інтэлігенцыі, адначасова з гэтым прапануе парторганізацыям стварыць адпаведныя ўмовы для работы адданай рабочай клясе інтэлігенцыі, прыцягваць яе да яшчэ больш актыўнага ўдзелу ў справе будаўніцтва соцыялізму, дапамагчы інтэлігенцыі аўладаць марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй, „праяўляць да іх больш увагі і клопатаў, сьмялей прыцягваць іх да работы“ (Сталін).

Пленум адзначае нездавальняючае выкананьне дырэктыў партыі і ўраду аб матар'яльным забесьпячэньні тэхнічных і навуковых кадраў і катэгорычна прапануе ўсім парторганізацыям неадкладна праверыць, як праводзіцца забесьпячэньне, прыцягваючы да суровай адказнасьці вінаватых у невыкананьні дырэктыў партыі і ўраду па гэтым пытаньні.

Даручыць бюро ЦК і СНК:

а) заслухаць даклады адпаведных органаў аб выкананьні дырэктыў партыі і ўраду па пытаньні аб палепшаньні матар'яльна-бытавога становішча навукова-тэхнічных работнікаў.

б) Забясьпечыць будаўніцтва ў 1932-33 г. чатырох жыльлёвых памяшканьняў для навуковых і тэхнічных кадраў згодна пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР.

в) Пабудаваць і адкрыць у 1932 г. дом адпачынку для навуковых работнікаў.

## 4. У галіне навукова-дасьледчай работы

Ня гледзячы на значнае пашырэньне навукова-дасьледчых устаноў і на некаторае набліжэньне навукова-дасьледчай работы да выкананьня конкрэтных задач социялістычнага будаўніцтва, усё-ж да гэтага часу навукова-дасьледчыя ўстановы сваёй работай не здавальняюць узросшых запатрабаваньняў социялістычнага будаўніцтва.

Адным з асноўных недахопаў работы навукова-дасьледчых устаноў зьяўляецца: адарванасьць, невыстарчальнае ўключэньне іх у практыку гаспадарчага будаўніцтва, несваечасовая рэалізацыя ў народнай гаспадарцы вынікаў дасьледчай работы, невыстарчальная популярызацыя і концэнтраваньне навакол гэтай работы ўвагі працоўных, што ў значнай ступені тлумачыцца маючымі месца перажыткамі старых буржуазных традыцый, замкнутасьцю, акадэмізмам і г. д.

Пленум ЦК і ЦКК лічыць неабходным:

а) Дэцэнтралізацыю навукова-дасьледчай работы паводле галіннага прынцыпу прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, з дакладным разьмежаваньнем функцый кожнай навукова-дасьледчай установы. Адначасова з гэтым пленум папераджае аб недапушчальнасьці зьвядзеньня навукова-дасьледчай работы да вузкага практыцызму.

З тым, каб унікнуць дубліяваньня ў рэалізацыі навукова-дасьледчай продукцыі, за БАН пакінуць агульнае плянаваньне і нагляд за навукова-дасьледчай работай, а таксама праверку выкананьня плянаў работы навукова-дасьледчых устаноў.

б) Пленум падкрэсьлівае, што асноўнымі задачамі, якія стаяць перад навукова-дасьледчай работай, зьяўляюцца: досьледы сыравінных рэсурсаў БССР, організацыя працы ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы (савгасы, МТС, колгасы), проблемы энэргетыкі, рацыяналізатарская і вынаходніцкая работа, пытаньні разьвіцьця жывёлагадоўлі, пытаньні разьвіцьця тэхнічных культур у БССР, вывучэньне экономікі, культуры, гісторыі рэволюцыйнага руху ў БССР, Заходняй Беларусі і г. д.

Даручыць бюро ЦК разгледзець пытаньне аб стане падрыхтоўкі навуковых кадраў і намеціць рад мерапрыемстваў па палепшаньні гэтай работы.

Абавязаць Дзяржплян і зацікаўленыя організацыі палепшыць плянавую падрыхтоўку і разьмеркаваньне навукова-тэхнічных кадраў.

в) Даручыць бюро ЦК прапрацаваць пытаньне аб выданьні пры БАН спэцыяльных запісак па пытаньнях навукова-дасьледчай работы.

г) Забясьпечыць далейшае разьвіцьцё лябораторый пры фабрыках, заводах і ўвядзеньне дасьледчых вучасткаў у МТС і савгасах.

д) Даручыць бюро ЦК устанавіць каляндарны плян будаўніцтва будынкаў БАН з пункту гледжаньня паскарэньня сканчэньня будаўніцтва.

## 5. У галіне тэорытычнай работы

Адзначаючы буйнейшае агульнапалітычнае і агульнатэорытычнае значэньне ліста тав. Сталіна „Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму“, пленум ЦК і ЦКК разам з тым падкрэсьлівае, што ў выніку разгорнутай прапрацоўкі ў КП(б)Б ліста тав. Сталіна, на тэорытычным фронце БССР быў выкрыт рад фактаў працягваньня контррэволюцыйнай трацкісцкай контрабанды (Югаў і інш.), а таксама рад адкрытых антымарксысцкіх вылазак і рад праяўленьняў недапушчальнага гнілога лібэралізму.

Пленум завастрае ўвагу ўсёй КП(б)Б на задачах умацаваньня бальшавіцкай пільнасьці на тэорытычным фронце, на задачах аўладаньня марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй ва ўсіх галінах навукі, на ўмацаваньні праверaных бальшавіцкіх кадраў, працуючых на тэорытычнай, выкладчыцкай рабоце, на задачах рашучай барацьбы за партыйнасьць навукі, бязьлітаснай барацьбы з правым опортунізмам, контррэволюцыйным трацкізмам, „левымі“ загібамі і гнілым лібэралізмам на навукова-тэорытычным фронце.

Констатуючы некаторыя посьпехі ў тэорытычнай рабоце—правядзеньне значнай барацьбы з клясава-варожымі тэорыямі ў розных навуковых працах, выданых як БАН, так і інш. навукова-дасьледчымі ўстановамі, ачышчэньне БАН ад нацдэмаускіх элемэнтаў і ўмацаваньне яе партыйнымі сіламі, падрыхтоўку праз асьпірантуру новых навуковых пролетарскіх кадраў з партыйным і соцыяльным складам асьпірантуры, які паступова паляпшаецца,—адначасова з гэтым ЦК і ЦКК КП(б)Б адзначаюць, што работа тэорытычнага фронту яшчэ значна адстае ад задач соцыялістычнага будаўніцтва. Марксысцкія таварыствы дагэтуль слаба актывізаваны ў барацьбе супроць розных шкодных антыленінскіх тэорый у навуковай рабоце.

Пленум ЦК і ЦКК прапануе:

а) Завастрыць увагу ўсёй парторганізацыі на задачах узмацненьня палітычнай пільнасьці да ўсякіх варожых праяўленьняў у навуковых работах, артыкулах і г. д. Гэта ў сваю чаргу патрабуе ад усіх комуністаў, у першую чаргу партыйнага активу, аўладаньня марксысцка-ленінскай тэорыяй.

б) Даручыць бюро ЦК паскорыць выпуск 12-томніка Леніна, падрыхтаваць выпуск поўнага збору твораў Леніна і паскорыць пераклад на беларускую мову і выданьне асноўных твораў клясыкаў марксызму—Маркса, Энгельса, Сталіна. У першую чаргу павінна быць забясьпечана выданьне масавай бібліотэкі, а таксама „Капіталу“ Маркса.

в) Улічваючы ўзросшыя культурныя кадры БССР, востры яшчэ недахват навуковай беларускай кнігі, пленум ЦК і ЦКК лічыць неабходным разгарнуць работу па выданьні энцыклёпэдыі БССР шляхам прыцягненьня да гэтай работы лепшых навукова-тэорытычных кадраў БССР і ўсяго Савецкага саюзу. Забясьпечыць не пазьней 1933 году выданьне гісторыі Беларусі, гісторыі КП(б)Б і гісторыі беларускай літаратуры.

г) Паставіць пытаньне перад ЦК УсеКП(б) аб выданьні ленінскага 6-томніка на яўрэйскай і польскай мовах.

д) Прапанаваць БАН паскорыць выданьне беларускай тэхнічнай тэрміналёгіі і слоўніка.

Надаючы вялізарнае значэньне тэорытычнаму фронту, прапанаваць бюро ЦК усямерна ўзмацніць партыйнае кіраўніцтва ўсімі зьвеньнямі тэорытычнай работы.

### 6. У галіне выдавецтва

Пленум ЦК і ЦКК лічыць нездавальняючым выкананьне пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаньнях выдавецкай работы. Ня гледзячы на шпаркі рост кніжнай продукцыі як на беларускай мове, так і на мовах нацменшасьцяў,—пленум ЦК і ЦКК лічыць, што гэта продукцыя зусім яшчэ не здавальняе таго ўзросшага попыту, які ёсьць з боку працоўных мас. Якасьць кнігі ўсё яшчэ застаецца нізкай. На працягу апошніх год, ня гледзячы на праведзеную ачыстку кніжнай

продукцыі ад нацдэмаўскай літаратуры, былі выданы палітычна-шкодныя кнігі, дзе працягвалася трацкісцкая контрабанда і фальсыфікацыя гісторыі партыі (Валасевіч „Самая краткая история ВКП(б)“, Поташ і інш.).

Пленум лічыць неабходным значна палепшыць якасьць выдавецкай работы і патрабуе большай палітычнай пільнасьці да зьместу выдаваных кніжак, пашырэньня выданьня палітычна-вытрыманай літаратуры нацыянальных меншасьцяў, што ў сваю чаргу патрабуе ад выдавецтва падбору ідэолёгічна-вытрыманых аўтарскіх кадраў.

Пленум прапануе партыйным, савецкім і профэсіянальным органам аказаць у гэтай справе ДВБ належную дапамогу.

Даручыць бюро ЦК палепшыць склад рэдактарскіх кадраў за кошт падрыхтаваных, палітычна-вытрыманых работнікаў, павялічыўшы іх адказнасьць за рэцэнзаваньне і выпуск кнігі.

### 7. У галіне разьвіцьця мастацтва

Пленум ЦК і ЦКК адзначае значныя дасягненьні ў галіне разгортваньня мастацтва ў БССР: мастацкая літаратура, тэатр, кіно, выяўленчае мастацтва, музыка і г. д., некаторае, праўда, зусім яшчэ невыстарчальнае набліжэньне мастацтва, у асаблівасьці мастацкай літаратуры, тэатру да задач соцыялістычнага будаўніцтва, а таксама ўзрослы ўдзел шырокіх працоўных мас у будаўніцтве пролетарскага мастацтва БССР, атрымаўшых сваё выяўленьне як у закліку ўдарнікаў-рабочых і колгасьнікаў у літаратуру, так і ў тэй вялізарнай узрастаючай зацікаўленасьці шырокіх працоўных мас да беларускай літаратуры, тэатру і г. д.

Адначасова пленум катэгорычна падкрэсьлівае, што тэмпы перабудовы работы ў галіне мастацтва адстаюць яшчэ ад запатрабаваньняў цяперашняга этапу соцыялістычнага будаўніцтва.

Выходзячы з гэтага, пленум ЦК у далейшым лічыць неабходным:

а) Сконцэнтраваць увагу ўсёй КП(б)Б на задачах барацьбы з клясава-варожымі тэорыямі і вылазкамі на фронце мастацтва, накіроўваючы агонь супроць правага і „левага“ опортунізму, дабіцца большага набліжэньня мастацтва і літаратуры да актуальных задач соцыялістычнага будаўніцтва.

б) Разгарнуць сетку мастацкіх, тэатральных, эстрадных, музычных адзінак з такім разьлікам, каб да канца другой пяцігодкі было ня менш аднэй адзінкі на 2 адміністрацыйныя раёны.

в) Забясьпечыць адкрыцьцё ў 1933 г. тэатру музычнай драмы, а таксама вышэйшай музычнай школы.

г) Забясьпечыць адкрыцьцё на працягу 2-х год ня менш як аднаго стацыянарнага кіно ў кожным раёне.

д) Пачаць у гэтым годзе будаўніцтва кіно-фабрыкі з такім разьлікам, каб скончыць яе на працягу 2-х бліжэйшых год.

е) Забясьпечыць будаўніцтва ў Менску тэатральнага будынку са сканчэньнем пабудовы не пазьней першай паловы 1934 г.

ж) Аднэй з першачарговых задач у літаратурным руху паставіць ажыўленьне работы ўсіх організацый, у прыватнасьці БелЛАЧАФ і пролетарска-колгасных пісьменьнікаў.

Пленум указвае на неабходнасьць узмацненьня барацьбы супроць клясава-варожых плыняў у літаратуры, мобілізуючы пісьменьнікаў на аўладаньне марксысцкім сьветапоглядам, на набліжэньне да рабочай

клясы папутнікаў і саюзьнікаў, на стварэньне магнітабудаў літаратуры, за вялікае мастацтва бальшавізму. Пленум падкрэсьлівае, што неабходнай умовай выкананьня задач партыі ў галіне мастацтва, у асаблівасьці ў галіне літаратуры—зьяўляецца разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі ў мастацкіх арганізацыях.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК указвае, што далейшае пасьпяховае разьвіцьцё беларускай культуры, мастацтва, літаратуры патрабуе шырокага выкарыстаньня і крытычнай пераапрацоўкі будуючайся беларускай соцыялістычнай культурай, усіх каштоўнасьцяў сусьветнай культуры, рашучага разрыву з перажыткамі провінцыяльнай абмежаванасьці, цеснага і брацкага супрацоўніцтва з працоўнымі масамі ўсіх нацыянальнасьцяў СССР, стварэньня новых культурных каштоўнасьцяў, вартых нашай вялікай эпохі, вартых творчасьці вялікай клясы пролетарыяту.

## 8. У галіне масавай культурна-асьветнай работы

1. Выкананьне задач соцыялістычнага будаўніцтва і асабліва задач, высунутых другой пяцігодкай, патрабуе ўзьняцьця масавай культурнай і політыка-асьветнай работы на значна вышэйшую ступень, карэннай перабудовы гэтай работы, перанясеньня яе ў цэх, прадпрыемствы, МТС, саўгас, колгас, чыгуначнае дэпо і большага падпарадкаваньня непасрэдным задачам соцыялістычнага будаўніцтва. Адзначаючы зусім нездавальняючы стан масавай політыка-асьветнай работы, асабліва ў вёсцы, пленум лічыць неабходным:

Пашырыць сетку політычна-асьветных устаноў праз будаўніцтва хат-чытальняў, клюбаў, чырвоных кутков, асабліва ў МТС, саўгасах і колгасах. Абавязаць Наркамасьветы, райвыканкомы, профсаюзы і гаспадарчыя організацыі забясьпечыць будаўніцтва політасьветных устаноў сродкамі і будматар'ялами. Катэгорычна забараніць заняцьце памяшканьняў культурных і політасьветных устаноў пад іншыя ўстановы. Прапанаваць ГК і РК КП(б)Б і райвыканкомам у месячны тэрмін аслабаніць занятыя пад іншыя мэты клюбы і чырвоныя куткі, або прадаставіць у замену іншыя адпавядаючыя рабоце клюбу, чырвонага кутка памяшканьні.

2. Абавязаць партортанізацыі, профсаюзы і Наркамасьветы ў месячны тэрмін правесьці масавы агляд работы клюбаў, хат-чытальняў, чырвоных кутков у мэтах узмацненьня работы ў іх і накіраваньня ўсёй масавай політасьветнай работы на перавыхаваньне колгасьніка ў сьвядомага ўдзельніка соцыялістычнага будаўніцтва, выхаваньня новых соцыялістычных адносін да работы, узьняцьця працоўнай дысцыпліны і перамаганьня прыватнаўласьніцкіх перажыткаў, выхаваньня вытворчага саўгаснага і колгаснага актыву. Організаваць пры хатах-чытальнях гурткі па аўладаньню тэхнікай, узьняцьцю ўраджайнасьці, агро- і зоотэхнікі, вайсковыя, антырэлігійныя і інш., прыцягваючы да работы ў хатах-чытальнях, клюбах культурныя, тэхнічныя і аграномічныя кадры. Наркамасьветы, профсаюзам і РВК забясьпечыць хаты-чытальні і клюбы газэтамі, пэрыодычнымі выданьнямі і адпаведным абсталяваньнем. Даручыць Наркамасьветы і профсаюзам павялічыць падрыхтоўку політасьветных кадраў. Органам Наркамасьветы і РВК неадкладна забясьпечыць усе хаты-чытальні хатнікамі з адпаведнай падрыхтоўкай.

3. Абавязаць Наркамасьветы і ДВБ пашырыць сетку бібліотэк у саўгасах, колгасах, папоўніўшы апошнія тэхнічнай, аграномічнай,

масавай кніжкай, а таксама пролетарскай мастацкай літаратурай. Палепшыць работу дзяржаўных і клюбных бібліотэк і ўзмацніць укараненьне кнігі ў асноўныя масы рабочых і колгасьнікаў.

Абавязаць кнігагандлёвыя організацыі забясьпечыць палепшаньне кнігагандлю, гандлю культтаварамі—апаратурай і інш. прыладамі па тэхнічным абслугоўваньні радыё, кіно і інш. Даручыць упаўнаважанаму Наркамсувязі і кіраўніку Белрадыёцэнтру забясьпечыць палепшаньне работы радыё.

4. Культурна-масавая работа профсаюзаў павінна быць накіравана галоўным чынам на выкананьне конкрэтных паказальнікаў прамфінпляну, організацыю працы, павышэньне продукцыйнасьці працы, дысцыпліны, барацьбу за павышэньне якасьці продукцыі, за зьніжэньне сабекошту, за соцыялістычныя адносіны да працы (да варштату, абсталяваньня, сыравіны і інш.). Вытворча-клясавае выхаваньне, асабліва новых рабочых, узмацненьне абароназдольнасьці краіны, вайсковая падрыхтоўка працоўных, узмацненьне інтэрнацыянальнага выхаваньня, выкананьне шасьці ўмоў т. Сталіна—такавы асноўныя задачы масавай культурнай работы профсаюзаў. Абавязаць парторганізацыі і профсаюзы ўзмацніць увагу і конкрэтнае кіраўніцтва культурна-масавай работай профсаюзаў, коопэрацыі, уцягваючы ў яе шырокія пласты культурнай арміі, разгортваючы масавыя формы культасьветработы—культпаходы, эстафэты, агляды, спаборніцтва і інш., рашуча змагаючыся з аполітычнасьцю і голым „культурніцтвам“ у культурна-масавай рабоце.

Адзначаючы аслабленьне антырэлігійнай работы, пленум ЦК і ЦКК абавязвае парторганізацыі, комсамол, профсаюзы разгарнуць работу па сыстэматычнай антырэлігійнай пропагандзе—стварэньне антырэлігійных гурткоў, куткоў бязбожніка і г. д.

Пленум зьвяртае асаблівую ўвагу парторганізацый, комсамолу профсаюзаў на неабходнасьць усямернага разгортваньня і актывізацыі работы па ўзмацненьні абароназдольнасьці краіны, па вайсковай падрыхтоўцы працоўных праз наладжаньне сыстэматычнай работы вайсковых гурткоў і куткоў у клюбах, хатах-чытальнях, штодзеннай работы з пераменьнікамі, палепшаньня культурна-бытавога абслугоўваньня Чырвонай арміі. Даручыць бюро ЦК, райкомам і гаркомам узмацніць кіраўніцтва работай Асоавіяхіму, Аўтодору, Чырвонага Крыжу і фізкультурных організацый.

5. Надаючы асабліва сур'ёзнае значэньне тэхнічнай пропагандзе і адзначаючы слабае яе разгортваньне, прапанаваць парторганізацыям, комсамолу, профсаюзам, гаспадарчым організацыям і Наркамасьветы забясьпечыць шырокае разгортваньне тэхнічнай пропаганды як на прадпрыемствах, так і ў саўгасах, МТС, колгасах, шляхам організацыі гурткоў тэхнікі, курсаў, разгортваньня завочнага навучаньня, організацыі паходаў за тэхніку, выставак, куткоў тэхнікі і інш.

Адзначаючы значнае аслабленьне работы сярод жанчын і недаацэнку гэтай работы з боку раду організацый, пленум прапануе ГК і РК забясьпечыць рашучае палепшаньне работы ў гэтай галіне. Прапанаваць Наркамасьветы і Наркамату аховы здароўя, профсаюзам, Колгасцэнтру зьвярнуць вялікую ўвагу на дашкольнае выхаваньне, забясьпечыць выкананьне дырэктыў партыі па разгортваньні дашкольных устаноў. Бюро ЦК распрацаваць пытаньне аб разгортваньні работы па ўвядзеньню ўсеагульнага дашкольнага выхаваньня.

### 9. У галіне друку і партыйнага выхаваньня

Пленум адзначае, што пролатарскі друк БССР—„самая вострая, самая моцная зброя партыі“—расьце і загартоўваецца ў бязьлітаснай барацьбе за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, у барацьбе за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, у барацьбе за шырокае разгортваньне самакрытыкі. За апошнія гады значна вырас і ўзмацніўся рабселькораўскі рух БССР.

Пленум прапануе цэнтральным і раённым газэтам БССР паставіць больш опэрацыйна барацьбу за рэалізацыю 6 умоў тав. Сталіна на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва, за ажыцьцяўленьне задач культурнай рэволюцыі, узмацніць увагу пытаньням перабудовы партработы, марксысцка-ленінскага выхаваньня, яшчэ больш разгарнуць самакрытыку, узмацніць барацьбу за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі і ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны. Культпропу ЦКО КП(б)Б і райкомам узмацніць опэрацыйнае кіраўніцтва газэтамі, асабліва раённымі.

Даручыць бюро ЦК забясьпечыць пашырэньне і рэконструкцыю поліграфічнай базы БССР, забясьпечыць павялічэньне тыражу газэт, у першую чаргу ЦО КП(б)Б—„Зьвязды“.

Прапанаваць парторганізацыям і рэдакцыям газэт у найкарацейшы тэрмін дабіцца ўзмацненьня штодзеннага сыстэматычнага кіраўніцтва рабселькораўскім рухам.

Для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі газэтных і журнальных работнікаў, асабліва з падрастаючых рабселькораўскіх кадраў, адкрыць у БССР не пазьней 1933 году комуністычны інстытут журналістыкі.

Цяперашні пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва, які характарызуецца вялізарным пашырэньнем яго маштабаў як у галіне гаспадарчага, так і культурнага будаўніцтва, у абстаноўцы абвостранай клясавай барацьбы, прад'яўляе павышаныя патрабаваньні да якасьці кіраўніцтва і работы на ўсіх вучастках соцыялістычнай будоўлі. У гэтых умовах асабліва важнае значэньне набывае далейшая работа па павышэньню ідэйна-політычнага ўзроўню, па ўзмацненьню марксысцка-ленінскага выхаваньня ўсіх членаў партыі, комсамолу, у першую чаргу маладых, новаўступаючых у партыю і комсамол, шляхам больш глыбокага вывучэньня і асваеньня імі гісторыі нашай партыі, асноўных прынцыпаў ленінізму, асваеньня вучэньня Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна.

Пленум ЦК і ЦКК прапануе парторганізацыям зьвярнуць асаблівую ўвагу пры разгортваньні марксысцка-ленінскай вучобы на поўны ахоп кандыдатаў партыі, старанны падбор пропагандысцкіх кадраў, рашучае палепшаньне якасьці партыйнай вучобы і спалучэньне партвучобы з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва.

Адзначаючы вялікую ролю Комвузу і інстытуту гісторыі партыі як цэнтраў па падрыхтоўцы кадраў і распрацоўцы пытаньняў гісторыі КП(б)Б і Кастрычніцкай рэволюцыі на Беларусі, пленум ЦК КП(б)Б лічыць неабходным:

а) узмацніць штодзеннае кіраўніцтва і конкрэтную дапамогу Комвузу і Інстытуту, забясьпечыўшы далейшае разгортваньне іх работы;

б) рэорганізаваць Інстытут асьпірантуры ў філіял гісторыка-партыйнага ІЧП, забясьпечыўшы пашырэньне колькасьці і паляпшэньне складу асьпірантуры;

в) для падрыхтоўкі высокакваліфікаваных кадраў партыйных, савецкіх, профэсіянальных работнікаў арганізаваць у 1933 г. у БССР філіял курсаў марксызму.

Пастаўленыя пленумам ЦК і ЦКК задачы далейшага паглыбленьня і станоўчага вырашэньня задач культурнай рэволюцыі магчымы толькі пры ўмове непрымірымай барацьбы за генэральную лінію партыі, рашучай барацьбы на два фронты і патрабуюць ад усёй КП(б)Б, ад усёй рабочай клясы яшчэ большага кіраўніцтва, актыўнага і непасрэднага ўдзелу ў справе культурнага будаўніцтва, памятаючы, што далейшыя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў значнай ступені залежаць ад вырашэньня гэтых задач.

---

# Міхаіл Мікалаевіч Пакроўскі

Сьмерць заўчасна вырвала з нашых радоў Міхаіла Мікалаевіча Пакроўскага, старога бальшавіка і вялікага вучонага. Сьмерць абарвала яго жыцьцё ў поўным росквіце навуковай дзейнасьці, калі ясная галава Міхаіла Мікалаевіча знаходзілася ў поўнай супярэчнасьці з яго фізычным станам. Да саміх апошніх дзён М. М., прыкаваны каля двух год да ложка, уважліва сачыў за разьвіцьцём гістарычнай навукі і даў цэлы рад бліскучых прац. Цяжка ў якой-небудзь меры зараз даць падрабязную ацэнку яго ролі, як рэволюцыянэра і вучонага. Цяжка гэта зрабіць і таму, што асоба М. М. Пакроўскага вельмі многагранна. Яго галава высока выдзялялася сярод многіх вучоных. Глыбіня і рознабаковасьць яго ведаў патрабуе гадоў работы, каб у поўнай меры ацаніць тыя заслугі, якія ўнёс М. М. Пакроўскі ў арсэнал марксызму. Мы не зразумеем таксама заслуг М. М. Пакроўскага, калі не прасочым яго дзейнасьць у цеснай сувязі з разьвіцьцём грамадзкага жыцьця і рэволюцыйнай барацьбы канца XIX і пачатку XX стагодзьдзя. М. М. іменна належыць да разраду тых вялікіх розумаў чалавецтва, якія, будучы прадстаўнікамі перадавой клясы, у даным выпадку пролетарыяту, як губка паглынаючы яго волю і мысьлі, уласна станавілася „безасабовымі“ і ў гэтай „безасабовасьці“ заключалася найвялікшая асабовасьць.

Асоба М. М. Пакроўскага яшчэ тым больш цікавая, што ён прышоў да пролетарыяту з другога асяродзішча, парваў з асяродзішчам лібэральна-буржуазнай профэсуры, разам з пролетарыятам змагаўся на сьнежаньскіх барыкадах у 1905 г. і разам з ім ва ўсе наступныя гады цярпеў ссылкі, паражэньні і перамогі. Гэта было таму, што М. М. Пакроўскі, імкнучыся быць сапраўдным вучоным, пераканаўся, што такім можна стаць толькі зьвязаўшы свой лёс з пролетарыятам, што толькі пролетарыят, які змагаецца за зьнішчэньне эксплёатацыі чалавека чалавекам, забясьпечвае разьвіцьцё об'ектыўнай навукі, у сапраўдным сэнсе слова якой зьяўляецца толькі пролетарская, клясавая навука.

Рабочы трохгорнай мануфактуры тав. Куклін, удзельнік сьнежаньскіх баёў 1905 г., на 60-цігадовым юбілеі М. М. Пакроўскага метка падкрэсьліў гэту рысу М. М. Пакроўскага. Успамінаючы, што ў 1905 г. інтэлігенцыя ў большасьці была буржуазна настроена, тав. Куклін указаў, што „была, праўда, у меншасьці і інтэлігенцыя, якая дыхала чыста пролетарскім паветрам. Гэта інтэлігенцыя ў асобе М. М. ішла паперадзе рабочае клясы. Тав. М. М. Пакроўскі і да яго падобныя прыходзілі да рабочых і будзілі іх рэволюцыйную мысьль. Дзякуючы ім мы і перамаглі ў Кастрычніку 1917 г“.

У працах М. М. Пакроўскага, якія адносяцца да 90 гг., ня цяжка прасачыць, як гэты, потым сусьветны пролетарскі вучоны ачышчае аўгіевы стайні навукі ад лібэральна-буржуазнага хламу. У артыкуле „Хозяйственная жизнь Западной Европы в конце средних веков“ (1899 г.) М. М. Пакроўскі робіць рашучы паварот ад легальнага марксызму, ушчыльную падыходзячы да рэволюцыйнага марксызму, завяршыўшы сваю эволюцыю ў 1905 г., як рэволюцыянэр-бальшавік. Сам М. М. Пакроўскі, характарызуючы сваё разьвіцьцё ў пэрыод да 1905 г., піша, што яго „можна ахарактарызаваць, як пэрыод дэмократычных ілюзій і экономічнага матар'ялізму. Свае демократычныя ілюзіі М. М. Пакроўкі схільны ў першую чаргу тлумачыць тым, што ён ня быў зьвязан з шырокімі рабочымі масамі. „Клясавай барацьбы ня было вакол нас, а з масамі мы, акадэмікі, сутыкаліся мала“. Важнейшая заслуга М. М. Пакроўскага ў пэрыод да 1905 г. заключаецца ў пракладваньні дарогі марксысцкай гістарычнай навукі. Канчаткова на марксысцкі шлях М. М. вывела рэволюцыя 1905 г. У той час, як многія яго ўчарайшыя колегі адварочваліся ад пролетарыяту, М. М. наадварот, свой лёс беспаваротна і назаўсёды зьвязаў з рабочымі масамі, стаўшы членам бальшавіцкай партыі.

Трэба адзначыць, што М. М. сваімі гістарычнымі працамі мог пракладваць шлях марксызму, толькі будучы ўзброеным уласьцівым яму вельмі крытычным бальшавіцкім чуцьцём, М. М. уважліва вывучае сучасную філёзофію і крытычна яе перааапрацоўвае. Крытыка суб'ектыўнай тэорыі Рыкерта дазваляла М. М. Пакроўскаму і крытычна аднесьціся да так званага экономічнага матар'ялізму, популярнасьць якога ў пачатку XX стагодзьдзя М. М. тлумачыць, як рэакцыю на панаваўшыя ідэалістычныя школы.

„Марксызм ня толькі тлумачыць гісторыю экономічнымі прычынамі,—заключае М. М.,—але і прадстаўляе сабе гэтыя экономічныя прычыны ў пэўнай форме клясавай барацьбы. Гэта рэволюцыйны гістарычны матар'ялізм“. Да пытаньня аб узаемазалежнасьцях і ўзаемаадносінах паміж „базісам“ і „надбудовай“, ня гледзячы, здавалася-б, на тое, што гэта пытаньне ўжо вырашана ў марксысцкай навуцы, М. М. вяртаўся ня раз. У сваіх апошніх выступленьнях ён нават падкрэсьліваў, што барацьба супроць абаронцаў „экономічнага матар'ялізму“ ня можа быць зьнята з парадку дня. „Ніколі ня трэба забываць слоў Маркса і Энгельса, — піша ён, — яны абодва неаднаразова на гэтым настойвалі, што хоць гісторыя і робіцца ў пэўнай экономічнай абстаноўцы, на пэўнай экономічнай базе, без разуменьня якой і сама гісторыя застанецца нам незразумелай, — але робяць гісторыю ўсё-такі людзі, якія *непасрэдна* могуць кіравацца і неэкономічнымі мотывамі. Аналіз гэтых мотываў, нават зусім індывідуальных (Маркс гэта наўмысна падкрэсьліваў), зусім ня зводзіць нас з глебы мэтоду гісторыка-матар'ялістычнага і неператварае нас у „псыхолёгістаў“.

Гэтыя заявы М. М. цалкам ідуць з цьвярджэньнямі Маркса, што „адзін і той-жа экономічны базіс, адзін і той-жа з боку галоўных умоў, дзякуючы бясконцым акалічнасьцям, натуральным умовам, расавым адносінам і гістарычным уплывам звонку і г. д. можа выкрываць у сваіх праявах бясконцыя варыяцыі і градацыі, якія можна зразумець толькі пры дапамозе даных акалічнасьцяў“.

Завастрэньне ўвагі М. М. на барацьбе з прадстаўнікамі вульгарнага экономізму зусім зразумела. Усьлед за Леніным, М. М. Пакроўскі няўхільна вёў змаганьне са схематызмам і вульгарызацыяй

дыялектычнага матар'ялізму, ня раз на жывых прыкладах гісторыі паказваючы, што многія гістарычныя зьявішчы ня могуць быць зразумелы шляхам простай экономічнай арытмэтыкі. Як вядома, Троцкі з уласьцівым яму схематызмам у сучасны момант выконвае социяльны заказ рэакцыйнай буржуазіі.

Вялізарная крытычная работа, праробленая М. М. Пакроўскім у крытыцы рыкертыянства і „экономічнага матар'ялізму", дазволіла М. М. у гады паміж дзьвюма рэволюцыямі напісаць чатырохтомную работу „Русская история с древнейших времен", якая зрабіла поўны пераварот у гістарычнай навуцы. Гэтай работай М. М. Пакроўскі ўстае перад намі як буйнейшы гісторык марксыст. Гэта работа, як вядома, і дагэтуль зьяўляецца асноўнай марксысцкай работай па гісторыі Расіі. У ёй М. М. рашуча выкрыў пануючую да яго лібэральна-кадэцкую схему Ключэўскага. Бліскуча была выкрыта клясавая прырода тэорыі „барацьбы са стэпам" і „па-заклясавага паходжаньня самаўладзтва". У гэтай рабоце вычарпальна выкрыты сапраўдныя прычыны паходжаньня „прыгоньніцкага права" і клясавая сутнасьць рэформы 1861 году. Ня дзіва, што бліскучы аналіз гэтых гістарычных проблем прымусіў ворагаў ня весьці з ім полемікі, а ўсяляк замоўчваць яго працу. У гэтай-жа рабоце М. М. Пакроўскім была выразна сформулявана яго концэпцыя гандлёвага капіталу і яго роля на разьвіцьцё прыгоньніцтва. Да ліку буйных заслуг чатырохтомніка трэба аднесьці, што разгледжаньне расійскага гістарычнага процэсу М. М. узяў на шырокім палатне сусьветнай гісторыі і паказаў, што ўсякія разважаньні аб самабытнасьці разьвіцьця Расіі—ня больш як нацыналістычныя брэдні. Заслуга М. М. заключаецца і ў тым, што ён упяршыню навочна паказаў, што царскі ўрад, накшталт сваіх заходня-эўропейскіх суседзяў, вядзе бязьлітасную колёніяльную політыку. Яго разьдзелы, якія адносяцца да гісторыі Украіны, дагэтуль зьяўляюцца асновай, на якой можна весьці далейшую работу па стварэньню марксысцкай схемы гісторыі Украіны.

Такія ў самым кароткім выглядзе заслугі чатырохтомніка. Ня дзіва, што ў свой час Ленін вельмі цікавіўся гэтай работай, гутарыў аб ёй з М. М. Гэта праца М. М. магла зрабіць рэволюцыю на гістарычным фронце толькі таму, што М. М. у сваёй працы выходзіў з агульных установак бальшавізму, конкрэтызуючы іх на прыкладах жывой гісторыі.

Наступнай буйнейшай працай М. М. прыходзіцца лічыць яго „Русскую историю в самом сжатом очерке". У ёй М. М. мастацка праявіў уменьне карыстацца марксысцкім мэтодам і намаляваць шырока палатно гісторыі, паказаўшы, што Кастрычніцкая рэволюцыя была падрыхтавана ўсім ходам гістарычнага разьвіцьця. Недарма адзін рабочы тав. Буданцаў на 60-м юбілеі М. М. Пакроўскага, закранаючы гэту кнігу, сказаў, што „мы часта заглядаем у яго падручнік гісторыі таму, што ён правільна адбівае шляхі нашай барацьбы. Нам неабходна такая гісторыя таму, што калі мы сустракаем перашкоды на сваім шляху, нам неабходны гэты прожэктар, каб асьвятляць наш шлях".

Я думаю, няма патрэбы гаварыць аб гэтай працы М. М. Пакроўскага, якая стала настольнай кнігай амаль кожнага комуніста. „Русская история в сжатом очерке" вытрымала шмат выданьняў і пераведзена на многія мовы. Хацелася-б толькі ўскрыць крыніцу такой шырокай популярнасьці гэтай кнігі.

М. М. Пакроўскі сам пастаянна падкрэсьліваў, што гэта кніжка не зьяўляецца продуктам яго асабістай творчасьці, што ён змог разабрацца ў радзе складаных гістарычных проблем, толькі ўзяўшы ў аснову ленінскія работы. Як вядома, Ленін вельмі станоўча адазваўся аб „Сжатом очерке". і вітаў М. М. з посьпехам. Такая блескучая работа М. М. магла зьявіцца толькі ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту.

Мы ня ставім сваёй задачай разгляд іншых работ М. М. Яго пяру належаць такія бліскучыя кнігі, як „Очерки революционного движения" (радыкальна перарobленыя ім ужо ў часе хваробы для новага выданьня), „Очерки по истории русской культуры", „Борьба классов и русская историческая литература", „Марксизм и особенности исторического развития России", „Империалистическая война" і інш. Мы не гаварылі ўжо аб шматлікіх артыкулах М. М., кожны з якіх павінен быць самым уважлівым чынам вывучан намі. Яго работы прадстаўляюць каштоўнейшы ўклад у навуку, і невыпадкова Ленін гаварыў аб М. М. як аб чалавеку „з заданьнямі выключнай уласьцівасьці".

Хацелася-б толькі адзначыць, што работы М. М. ня звычайныя „акадэмічныя" працы, а вастрэйшыя палітычныя дакумэнты, якія бічуюць клясавага ворага. Сучаснасьць у работах М. М. б'е крыніцай, ці гаворыць ён аб Ноўгарадзкай Русі, ці аб Кастрычніцкай рэволюцыі, і ў гэтым выпадку кожны артыкул М. М. павінен вучыць нас, як павінен да гісторыі падыходзіць гісторык-марксыст.

У кожным радку М. М. адчуваецца стойкі барацьбіт за інтарэсы сваёй клясы—пролетарыяту. Гаворачы аб тым, што задачы гісторыі павінны быць падпарадкаваны сучасным задачам пролетарыяту, М. М. пастаянна падкрэсьліваў неабходнасьць гісторыкам-марксыстам быць пастаянна цесна зьвязанымі з шырокай рабочай масай.

Іменна гэта сувязь з масамі выкавала ў асобе М. М. Пакроўскага ваяўнічага гісторыка-марксыста. Навуковая дзейнасьць М. М.—гэта бязупынная барацьба з буржуазнымі скажэньнямі гісторыі і ў барацьбе з імі выкоўвалася марксысцкая схема. Яго схема загартоўвалася як у барацьбе з адкрытай буржуазнай гісторыяграфіяй (Мілюкоў, Ключэўскі і інш.), так з тэй буржуазнай гісторыяграфіяй, якая, маскуючыся пад марксызм, на справе выконвала соцыяльны заказ свайго гаспадара (Ражкоў, Троцкі і інш.). М. М. быў бязьлітасным і да найменшых спроб рэвізіі марксызму і сярод сваіх паплечнікаў. Інтарэсы партыі, інтарэсы пролетарыяту заўсёды былі вышэй асабістых, самых прыяцельскіх сувязяй. У гэтым была моц М. М. вернага ленінізму.

Моц М. М. была яшчэ ў яго вялізарнай самакрытычнай рабоце. М. М. не належыў да ліку тых „акадэмічных" працаўнікоў, якія ўсякае напісанае імі слова лічылі канчатковым і бясспрэчным. „Навука расійскай гісторыі рухаецца наперад і я з ёю", — гаварыў ён. Гэта правільная заўвага М. М. глыбока ўскрывае і тлумачыць яго разьвіцьцё. Стойкая абарона таго, што ён лічыць правільным і адсутнасьць упартасьці ў прызнаньні памылковасьці таго, што ён лічыць няправільным—самая характэрная рыса ва ўсёй дзейнасьці М. М. Іменна гэты рух разам з жыцьцём прымушаў яго пераглядаць свае палажэньні, удакладняць і выпраўляць іх.

М. М. сам добра ўлічваў, што пэрыод нашага разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва востра паставіў перад гістарычнай навукай новыя задачы і новыя проблемы. М. М. у апошняй гутарцы са мною выказваў вялікае задавальненьне з прычыны артыкулу тав. Сталіна

„Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму". Ён разглядаў яго як артыкул, які адкрывае новую эру ў сучаснай гістарычнай навуцы і асабліва захапляўся ўдалым выразам тав. Сталіна—контрабанда трацкізму—лічачы, што гэтымі двума словамі метка схвачана тактыка сучаснага клясавага ворага.

Падводзячы вынікі барацьбы на гістарычным вучастку, у апошні час М. М. пісаў, што „на новым этапе выкрываць нам ужо прыходзілася ня буржуазных спэцыялістаў, за выключэньнем заходніх, тут наша выкрываўчая работа вельмі спазьнілася, і, напрыклад, разгляд тэорыі Донша закончылася толькі ў гэтым годзе, — а іх прыяцеляў і пасьлядоўцаў сярод партыйных ухілістаў—правых і „левых". У той час, як буржуазныя гісторыкі больш ці менш выразна формулявалі свае погляды,—опортуністы з партыйных ухілаў, за адзінкавым выключэньнем, усяляк гэта ўнікалі, апраўдываючы выдатную характарыстыку ў Леніна: „Калі гаворыцца аб барацьбе з опортунізмам, ня трэба ніколі забываць характэрныя рысы ўсяго сучаснага опортунізму ва ўсіх і ўсялякіх галінах, яго неакрэсьленасьць, расплыўлівасьць, неўлавімасьць. Опортуніст па самой сваёй прыродзе ўхіляецца заўсёды ад пэўнай і беспаваротнай пастаноўкі пытаньня, адшуквае роўнадзейную, уецца гадзюкай паміж пунктамі гледжаньня, што выключаюць адзін другога, стараючыся „быць згодным" і з тым і з другім, зводзячы свае рознагалосьсі да паправак, да сумненьняў, нявінных пажаданьняў і інш. і інш.

Барацьба за партыйнасьць у гістарычнай навуцы, бязьлітаснае выкрыцьцё опортунізму павінна быць у цэнтры нашай увагі і гэта прымушае нас быць вельмі пільнымі да мэтодаў барацьбы нашых клясавых ворагаў, таму што, як піша М. М., „нашы сучасныя опортуністы асабліва любяць хавацца за Леніна, робячы з ленінскіх цытат іншы раз такую страву, што ад гэтай стравы не адмовіўся-б ні адзін меншавік. Словы—сапраўды ленінскія, але *зьместу* ленінскага ў іх не засталося ні кроплі, таму, што словы вырваны з контэксту і таму, што пільна схаваны ад чытача іншыя словы Леніна, якія тлумачаць цытаваныя словы зусім у іншым сэнсе. На нявопытных людзей, асабліва на нявопытную моладзь гэты град цытат бясспрэчна робіць пэўнае ўражаньне. Прыходзіцца напомніць, што вядомая кніга Бернштэйна—эвангельле опортунізму — таксама ўсеяна цытатамі з Маркса і Энгельса, хаця яе асноўнай задачай было абвергнуць рэволюцыйны марксызм".

М. М. палаў жаданьнем прыняць самы актыўны ўдзел у вырашэньні тых новых задач, якія партыя паставіла зараз перад нашай гістарычнай навукай. Асабліва ён зацікавіўся і надаваў выключнае значэньне напісаньню работ па гісторыі грамадзянскай вайны. Раптоўная сьмерць, аднак, пазбавіла яго магчымасьці выканаць свае пажаданьні. Тым больш адказнасьці паўстае зараз перад яго вучнямі, якіх управе М. М. налічваць сотнямі і тысячамі, каб пад кіраўніцтвам партыі выканаць сучасныя задачы марксысцкай гістарычнай навукі.

**П. Горын.**

# М. М. Пакроўскі, як пролетарскі вучоны

*Стэнаграма выступленьня Прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук П. О. Горына на жалобным мітынгу Комакадэміі СССР 13 красавіка*

Сьмерць Міхаіла Мікалаевіча Пакроўскага, выклікаўшая глыбокі жаль сярод шырокіх мас Масквы, глыбока таксама ўсхвалявала і шырокія масы Беларусі. Атрымаўшы весткі аб канчыне Міхаіла Мікалаевіча, многія заводы БССР, ВНУ і навучальныя ўстановы склікалі лятучыя мітынгі. Мне, як блізка працаваўшаму з Міхаілам Мікалаевічам на працягу дзесятка год, у гэтыя дні жалю прышлося пераканацца, што Міхаіл Мікалаевіч для шырокіх мас зьяўляецца больш дарагім, чым мы сабе ўяўлялі. Трэба прызнацца, што пры жыцьці Міхаіла Мікалаевіча мы бадай што не ўпаўне ацанілі яго буйную ролю, як рэволюцыянэра і як вучонага, мабыць таму, што асоба Міхаіла Мікалаевіча вельмі шматбаковая і толькі з яго канчынай адчулі горач утраты Міхаіла Мікалаевіча, утраціўшы ў яго асобе старога бальшавіка, вялічайшага вучонага і тэорэтыка марксызму, выдатнага організатара і талянавітага популярызатара. Шматбаковасьць Міхаіла Мікалаевіча і зараз затрудняе даць поўную ацэнку яго асобы, таму што Міхаіл Мікалаевіч з якім-та недасягаемым мастацтвам, нават будучы прыкованым да пасьцелі, праяўляў кіпучую дзейнасьць на многіх вучастках работы. Усё гэта прымушае адносіцца да асобы Міхаіла Мікалаевіча з найвялікшаю ўвагаю і вучыцца ў яго, якім павінен быць рэволюцыянэр і вучоны і як злучыць тэорыю і практыку.

Для нашага пакаленьня, як вядома, Міхаіл Мікалаевіч адыграў выдатнейшую ролю. Мне прышлося слухаць яго лекцыі ў Сьвярдлоўскім унівэрсытэце, якія потым былі выданы ў выглядзе шырока вядомай кнігі „Руская гісторыя ў самым сьціслым нарысе“. Я прыпамінаю, з якою прагнасьцю мы лавілі кожнае слова Міхаіла Мікалаевіча. Гэта было зімою 1919 году. Большасьць з нас прыбылі з фронту. Мы прывыклі да гучнага голасу і спачатку нас неяк зьдзівіла мяккасьць, мэлёдычнасьць і спакойнасьць голасу Міхаіла Мікалаевіча. Аднак, гэта першае ўражаньне было хутка расьсеяна, калі мы адчулі, што словы Міхаіла Мікалаевіча глыбока западаюць у наша сэрца. Міхаіл Мікалаевіч пачаў з далёкага мінулага, але так умела зьвязаў яго з сучаснасьцю, што мы асабліва адчулі вялікасьць перажываемых намі рэволюцыйных падзей. Ня дзіва, што лекцыі Міхаіла Мікалаевіча заўсёды слухалі з напружанай увагай і гэта таму, што ён даваў нам тую тэорэтычную базу, якая закаляла нас для далейшай барацьбы, дазваляла разглядаць падзеі на шырокім палатне гісторыі

і навучыла перамагаць цяжкасьці і перапынкі, якія сустракаліся на нашым шляху. На мяне гэтыя лекцыі зрабілі выключнае ўражаньне і трэба проста сказаць, што Міхаіл Мікалаевіч адыграў рашаючую ролю ў тым, што я стаў потым займацца вывучэньнем гісторыі. Зьдзівіла нас і тая ўвага, якую ўдзяляў нам Міхаіл Мікалаевіч у перапынках. Міхаіл Мікалаевіч заўсёды знаходзіў час пагаварыць з намі. У гэтых адносінах ён праяўляў выключную чуласьць, уласьцівую старым бальшавікам, якая дазваляе ўстанавіць некую інтымнасьць паміж прамоўцам і аўдыторыяй і неяк зьліцца ў адно з ёю. Прычым для яго аўдыторыя ня была нечым аднастайным. Міхаіл Мікалаевіч уладаў асаблівасьцю разумець кожнага слухача і праяўляў да яго некую асаблівую ўвагу і чуласьць, уласьцівую толькі чалавеку высокай культуры. Памятую, напрыклад, такі выпадак. Пасьля аднэй лекцыі я зьвярнуўся да Міхаіла Мікалаевіча з просьбай указаць мне літаратуру па гісторыі Беларусі. Гэты факт, па-мойму, заслугоўвае ўвагі. Зварачаецца некі студэнт, які невядома ці будзе займацца вывучэньнем гісторыі, да і ў абставінах вастрэйшай грамадзянскай вайны аб гэтым і ня прыходзілася сур'ёзна думаць,—і тым ня менш Міхаіл Мікалаевіч знайшоў час, каб задаволіць цікавасьць гэтага студэнта. На мой погляд, такую чуласьць могуць праяўляць вялікія людзі, умеючыя злучыць сваю буйную работу з паўсядзённымі буднічнымі справамі. У процэсе супольнай работы я не адзін раз зьдзіўляўся таму, што Міхаіл Мікалаевіч знаходзіў час пагаварыць з кожным жадаючым. Я ня памятую ніводнага выпадку, каб Міхаіл Мікалаевіч адмовіў каму-небудзь у разгаворы. Ён заўсёды быў чулым да зварачаючыхся да яго нават па самых дробных пытаньнях, якія, здавалася, не маглі займаць увагі вялікага вучонага. У архіве ДВС (Дзяржаўнага Вучонага Савету) мабыць захаваліся шматлікія заявы з скаргамі, напрыклад, аб няправільным выключэньня ці няправільным прыёме ў ВНУ. Мне прыходзілася зьдзіўляцца, як Міхаіл Мікалаевіч заўсёды чула да іх адносіўся, прымаючы актыўны ўдзел у іх разглядзе і заўсёды сам сачыў за тым, як выканана яго распараджэньне. Паўтараю, гэта відаць уласьціва толькі вялікім людзям, вялікім рэволюцыянэрам і людзям з вялікай культурай. Нядзіва, што гэтая чуласьць дастаўляла Міхаілу Мікалаевічу шчырую адданасьць з боку шырокіх мас.

Сустракаючыся штодзённа з Міхаілам Мікалаевічам на працягу многіх гадоў, неяк не заўважаліся тады гэтыя яго якасьці, бо яны былі систэмай яго работы, рэзка-ж выдзяляюцца яны толькі тады, калі прыходзіцца параўнаць Міхаіла Мікалаевіча з цэлым радам іншых асоб. Таму шмат можна гаварыць аб Міхаіле Мікалаевічы, але гэта бадай-што ляпей будзе зрабіць у другі раз, а зараз толькі ўспомніць тое спатканьне з Міхаілам Мікалаевічам, якое неяк вельмі яскрава ўстала ў маёй памяці. Гэта было ў дні сьмерці Уладзіміра Ільліча. Я выпадкова сустрэў Міхаіла Мікалаевіча каля МК УсеКП(б), адкуль ён ішоў з паседжаньня, на якім паведамілі аб вялікай утраце, якая здарылася ў сувязі з сьмерцю Ільліча. Міхаіл Мікалаевіч, ня гледзячы на люты мароз і буран адзінока ішоў пеша дамоў на Валхонку. Як відаць, ён проста хацеў трохі расьсеяць сум ад таго цяжкага ўражаньня, якое зрабіла на яго вестка аб сьмерці Леніна. Я памятую, з якім выключным замілаваньнем Міхаіл Мікалаевіч гаварыў пра Уладзіміра Ільліча. Гаворка гэта зрабіла глыбокае ўражаньне і на быўшага са мною аднаго старога паліткатаржаніна тав. Лугінца. Мы ўразумелі, што так гаварыць аб Уладзіміры Ільлічы мог толькі чалавек, які зьяўляецца найвялікшым умом чалавецтва, чалавек,

які бязьмежна адданы партыі, чалавек з гарачым бальшавіцкім сэрцам.

Міхаіл Мікалаевіч выяўляў асаблівае нездавальненьне тым, што мы не захавалі Уладзіміра Ільліча і дапусьцілі, што яго мозг дачасна згарэў на рабоце.

У сувязі са сьмерцю Міхаіла Мікалаевіча, я думаю, мы яго бліжэйшыя супрацоўнікі ў першую чаргу нясем віну за яго заўчасную ўтрату. Мы незаўсёды захоўвалі Міхаіла Мікалаевіча так, як гэта было патрэбна партыі. Пры нашых больш беражлівых адносінах да Міхаіла Мікалаевіча, я думаю, што сэрца не згарэла-б так рана.

У сувязі з утратаю Міхаіла Мікалаевіча, я думаю, нам зараз асабліва неабходна завастрыць увагу на захаваньні старых партыйных кадраў, якія ў нашых умовах адказнага пэрыоду соцыялістычнай будоўлі павінны быць у цэнтры нашай увагі і клапот. Але к вялікаму нашаму жалю за апошні час сьмерць няшчадна вырывае з нашых радоў прадстаўнікоў старое ленінскае гвардыі. Нядаўна мы ўжо ўтрацілі тав. Стучка, сёньня хаваем Міхаіла Мікалаевіча—такіх бальшавікоў, якія даюць яскравейшыя прыклады злучэньняў адданых пролетарскіх рэволюцыянэраў і вялікіх вучоных. Такія рэволюцыянэры, як Міхаіл Мікалаевіч, павінны служыць прыкладам таго, як асабістыя інтарэсы старога прыяцельства не павінны адыгрываць аніякай ролі тады, калі ідзе барацьба за чыстату ленінскай рэволюцыйнай тэорыі. Мне прыходзілася не адзін раз быць сьведкай таго, як бязьлітасьны быў Міхаіл Мікалаевіч да бліжэйшых супрацоўнікаў і вучняў, хоць выступленьні супроць іх суб'ектыўна прыносілі вялікую боль Міхаілу Мікалаевічу. Але інтарэсы партыі і інтарэсы рэволюцыйнай тэорыі заўсёды бралі верх над асабістымі настроямі, і Міхаіл Мікалаевіч быў бязьлітасны да тых, хто адхіляўся ад правільнага шляху марксызму. За гэтую рысу ўсе мы, і нават яго супраціўнікі, вельмі любілі Міхаіла Мікалаевіча таму, што ведалі, што Міхаіл Мікалаевіч, як гаворыцца, „не прыдзіраецца напрасна". Гэтая рыса бальшавіцкай непрымірымасьці Міхаіла Мікалаевіча павінна быць намі ацэнена і нам патрэбна шмат і шмат вучыцца ў Міхаіла Мікалаевіча таму, як патрэбна полемізіраваць і быць добрасумленным у полеміцы са сваім супраціўнікам. Характэрная для Міхаіла Мікалаевіча рыса бальшавіцкай непрымірымасьці цалкам вынікала з усяго аблічча, аб якім можна сказаць, што будучы яркім прадстаунікам пролетарскага руху, ён быццам-бы ўпітываў волю і думы рабочае клясы, асабіста будучы „бязьлічным", але гэтая бязьлічнасьць рабіла яго вялічайшай асобай. Усім, мне здаецца, добра вядома, як настойліва і стала Міхаіл Мікалаевіч падкрэсьліваў неабходнасьць вучоным мець сталую сувязь з шырокімі масамі. Многія, мне здаецца, памятуюць выступленьне Міхаіла Мікалаевіча на сходзе, прысьвечаным ушанаваньню яго 35-цігадовай навуковай работы ў 1928 годзе. Міхаіл Мікалаевіч, кажучы аб сваёй эволюцыі ад буржуазнага дэмократа да бальшавіка-марксыста, з усёй рашучасьцю падкрэсьліваў, што яго асноўным настаўнікам быў пролетарыят. Ён з усёй упэўненасьцю заяўляў, што менавіта рабочыя масы ў 1905 годзе зрабілі яго бальшавіком, што ўсёй сваёй рабоце ў пасьледуючыя гады ён абавязан рабочай масе і лічыў, што найвялікшым няшчасьцем для кожнагв зьяўляецца адрыў ад мас. Гэтае імкненьне не аслабіць сувязі з масамі чырвонай рысай праходзіла ва ўсёй дзейнасьці Міхаіла Мікалаевіча. Гэтым-жа можна вытлумачыць, што яго работа, „Руская гісторыя ў самым сьцісл ым нарысе", якая з навуковага боку ўяўляе

вялікую каштоўнасьць, у той-жа час зьяўляецца зразумелай самым шырокім масам. Нездарма адзін з рабочых, ушаноўваючы 35-цігадовую навуковую дзейнасьць Міхаіла Мікалаевіча, сказаў аб гэтай кнізе так: „мы часта заглядаем у яго падручнік гісторыі, таму што ён правільна адбівае шляхі нашай барацьбы. Нам неабходна такая гісторыя таму, што калі мы сустракаем перашкоды на сваім шляху, нам неабходны гэты прожэктар, каб асьвяціць нам шлях“. Міхаілу Мікалаевічу ўвесь час было ўласьціва імкненьне зрабіць навуковыя дасягненьні багацьцем шырокіх мас. Па рабоце таварыства гісторыкаў-марксыстаў мы ўсе добра памятуем Міхаіла Мікалаевіча, як сталага ініцыятара ў організацыі і правядзеньні мерапрыемстваў па популярызацыі гістарычных ведаў. Міхаіл Мікалаевіч пры гэтым ніколі ня лічыў дастатковымі посьпехі ў гэтай галіне, хаця популярызацыйная работа ў галіне гісторыі ў свой час была пастаўлена лепш, чым у іншых таварыствах. Вядома, з якою глыбокаю ўвагаю адносіўся Міхаіл Мікалаевіч да выданьня масавага популярна-гістарычнага часопісу „Барацьба клясаў“, думку аб якім ён выхоўваў на працягу раду год і лёсам якога жыва цікавіўся аж да самых апошніх дзён свайго жыцьця.

Што яшчэ кідаецца ў вочы ў дзейнасьці Міхаіла Мікалаевіча? Я не кажу аб тым, што Міхаіл Мікалаевіч няўстанна падкрэсьліваў, што калі ён і зрабіў што-небудзь каштоўнае ў галіне гісторыі, то толькі выключна таму, што вывучэньне гістарычнага процэсу ён вёў на падставе ленінскіх палажэньняў, конкрэтызуючы іх на конкрэтным гістарычным матар'яле.

Для Міхаіла Мікалаевіча вельмі ўласьціва адна рыса, адрозьніваючая яго ад старых вучоных—гэта самакрытыка ў рабоце. Міхаіл Мікалаевіч, апрача таго, што падыходзіў дыялектычна да вывучэньня гісторыі, ён дыялектычна падыходзіў і да сваёй работы. У гэтым сэнсе Міхаіл Мікалаевіч быў прыкладам таго, якім павінен быць бальшавіцкі вучоны. Заўвагі Міхаіла Мікалаевіча, што ён рухаецца разам з разьвіцьцём марксысцкай гістарычнай навукі—зусім правільны і ацэньваюць яго ролю ў гістарычнай навуцы. Міхаіл Мікалаевіч сапраўды нагадвае сабою падарожніка, які, падымаючыся на гару і аглядаючыся на пройдзены шлях, бачыў, якія промахі ён дапусьціў пры ўзыходжаньні. Адсюль і наглядалася ў Міхаіла Мікалаевіча імкненьне выправіць дапушчаныя раней памылкі, імкненьне самому крытыкаваць свае ранейшыя работы. Міхаіл Мікалаевіч у поўным сэнсе гэтага слова ўладаў уменьнем карыстацца самакрытыкай і ў гэтым зьмяшчалася адна з умоў посьпехаў яго работы і яго разьвіцьця. Рашучая абарона таго, што ён лічыць правільным, і ня менш рашучае адмаўленьне ад таго, што ён лічыць памылковым—такія характэрныя рысы ў дзейнасьці Міхаіла Мікалаевіча. Прычым, зразумела, Міхаіл Мікалаевіч не належыў да пароды тых людзей дробна-буржуазных пластоў, якія ў любую хвіліну гатовы адмовіцца ад усяго. Да прызнаньня сваіх памылак Міхаіл Мікалаевіч падыходзіў як бальшавік-рэволюцыянэр. Гэта значыць, прызнаваў свае памылкі, калі яны былі глыбока ім прадуманы і ўсьвядомлены. Гэтаю бальшавіцкаю якасьцю тлумачыцца тое, што часам Міхаіл Мікалаевіч, ня глядзячы на моцны націск на яго, гэтак-жа рашуча абараняў палажэньні, у правільнасьці якіх ён быў перакананы.

Я закрануў толькі некаторыя рысы характару асобы Міхаіла Мікалаевіча. Паўтараю: асоба Міхаіла Мікалаевіча была шматбаковая для таго, каб зараз-жа папрабаваць намяляваць яго пэўнае аблічча.

Па рабоце ў таварыстве марксыстаў-гісторыкаў, у інстытуце гісторыі і ў многіх іншых устаноў Міхаіл Мікалаевіч пакінуў яркі крок свае дзейнасьці, і я ўпэўнен, што яшчэ шмат будзе сказана аб гэтым рэвалюцыянэры і вучоным. У заключэньні я хацеў-бы падзяліцца сваім апошнім спатканьнем з Міхаілам Мікалаевічам.

За апошні час з прычыны маёй работы ў Беларускай Акадэміі Навук я быў пазбаўлен магчымасьці сустракацца з Міхаілам Мікалаевічам так часта, як гэта было ў пэрыод нашай супольнай работы ў Маскве. Праўда, мы з Міхаілам Мікалаевічам перапісваліся, але лісты, зразумела, не маглі замяніць таго, што можна было-б атрымаць ад Міхаіла Мікалаевіча пры спатканьні з ім асабіста. Гэта было тыдні два-тры таму назад. Калі я зайшоў да яго, Міхаіл Мікалаевіч, лежачы ў пасьцелі быў заняты работаю—праглядаў нейкія матар'ялы і ў гэтых абставінах мяне вельмі зьдзівіла першая фраза, з якою ён зьвярнуўся да мяне: „Ведаеце, Павел Осіпавіч, відаць, я дажываю апошнія дні"! Нейк было дзіўна бачыць чалавека, ясная галава якога знаходзілася ў поўнай супярэчнасьці з уміраючым організмам. Яго першыя словы, з якімі ён зьвярнуўся да мяне, прагучэлі нейкім сарказмам над бесталковіцаю, якая існуе ў прыродзе. Усе мы добра ведалі пра цяжкую хваробу Міхаіла Мікалаевіча. Мы ведалі, што на працягу апошніх паўтара год сьмерць кожную хвіліну пагражала вырваць яго з нашых радоў і зьдзіўляліся як упарта Міхаіл Мікалаевіч вёў змаганьне з навісшаю над ім небясьпекаю. І гэты раз ня верылася, што словы Міхаіла Нікалаевіча могуць спраўдзіцца. Я, як толькі мог, стараўся расьсеяць яго настрой, хоць сам Міхаіл Мікалаевіч пра сваю сьмерць гаварыў спакойна. Ён бедаваў толькі пра тое, што ня збыліся мары, калі ён разам з лепшым сваім прыяцелем І. І. Сьцяпанавым-Скварцовым спадзяваліся дажыць да таго, калі чалавецтва сваімі ведамі пераможа сьмерць. Хутка Міхаіл Мікалаевіч перайшоў да размоў пра становішча на гістарычным фронце. З яго размовы я вынес уражаньне, што Міхаіл Мікалаевіч вельмі ўважліва сачыў за падзеямі і я быў зьдзіўлены, калі ён паведаміў мне цэлы рад дробных дэталяў. Міхаіл Мікалаевіч даволі падрабязна выкладваў перад мною сваю ацэнку становішча на гістарычным фронце, даючы падрабязную характарыстыку раду нашых работнікаў. У гэтай ацэнцы мяне вельмі зьдзівіла выключнае і глыбокае разуменьне людзей, якое магчыма толькі пры тэй выключнай назіральнасьці, якая была ўласьціва Міхаілу Мікалаевічу.

Гаворачы пра ўпартую барацьбу, якую патрэбна будзе хутка павесьці з вылазкамі рэакцыйнай, дробна-буржуазнай гісторыяграфіі, Міхаіл Мікалаевіч з выключнаю ўвагаю аднёсься да ліста т. Сталіна „Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму", разглядаючы яго як буйнейшы докумэнт нашай эпохі, які пачынае новую эру ў разьвіцьці марксысцкай гістарычнай навукі. Асноўнае значэньне ліста т. Сталіна ён бачыў у завостраньні належнай увагі партыі на значэньні гістарычных навук, якія маюць вялізарнае значэньне ў барацьбе за бальшавіцкую рэволюцыйную тэорыю.

Апрача таго, Міхаіл Мікалаевіч вельмі лічыў удалай і меткай фразу тав. Сталіна—контрабанда трацкізму, якая ў поўнай меры вызначае сучасную тактыку нашага клясавага ворага, які часта маскуецца за вельмі рэволюцыйныя фразы і нават прабуе схавацца за цытаты Леніна, каб, няправільна інтэрпрэтуючы іх, даводзіць палажэньні, чужыя ленінізму. На гэты бок Міхаіл Мікалаевіч зварочваў асаблівую ўвагу, паказваючы, што ў свой час рэнэгаты марксызму—Бернштэйн, Каўцкі і інш. таксама хаваліся за Маркса, імкнучыся пазбавіць рэво-

люцыйнага зьместу марксызм. Агульную ацэнку становішча на гістарычным фронце Міхаіл Мікалаевіч даваў, прыкладна, наступную: „Мы дабіліся разгрому і разаблачэньня відавочнай буржуазнай гісторыяграфіі, але яшчэ далёка не разграмілі дробна-буржуазную гісторыяграфію, якая выконвае социяльны заказ рэакцыйнай буржуазіі. Міхаіл Мікалаевіч асабліва падкрэсьліваў, што наперадзе ўпартае змаганьне з вылазкамі дробна-буржуазнай гісторыяграфіі, якая для абароны сваіх позыцый не пагарджае ніякімі прыёмамі барацьбы. У той час, як сіла бальшавізму—у выразнасьці пастаноўкі пытаньня, у прастаце і непрымірымасьці і, наадварот, для дробнага буржуа політычная няўстойлівасьць, двурушніцтва, слугаваньне „нашым“ і „вашым“, беспрынцыповае комбінатарства зьяўляюцца характэрнымі прыёмамі барацьбы. Асабліва Міхаіл Мікалаевіч адзначаў спробы нашых ворагаў зблытаць карты, ашальмаваць сапраўдныя бальшавіцкія кадры, каб у каламутнай вадзе палавіць рыбку. Міхаіл Мікалаевіч таму лічыў, што пра кожнага нашага работніка трэба меркаваць не па яго рэволюцыйнай вопратцы, у якую могуць убірацца сучасныя опортуністы, а па яго практычнай рабоце.

Міхаіл Мікалаевіч у прыватнасьці аддаваў шмат увагі ажыцьцяўленьню работы па гісторыі Кастрычніцкай рэволюцыі і грамадзянскае вайны. Работу па напісаньню бальшавіцкай гісторыі грамадзянскае вайны ён разглядаў як адну з буйнейшых зброй, якая зробіць руйнуючы ўдар на дробна-буржуазнай гісторыяграфіі. Міхаіл Мікалаевіч вельмі шкадаваў, што ён ня зможа прыняць актыўны ўдзел у гэтай рабоце, але выказаў упэўненасьць, што гэта работа будзе працягнута і скончана яго вучнямі.

Я думаю, што гэтае пажаданьне Міхаіла Мікалаевіча павінна быць справаю кожнага з многіх соцень і тысяч яго вучняў. Я думаю, што сьмерць Міхаіла Мікалаевіча заставіць нас яшчэ вастрэй ацаніць якасьці гэтага рэволюцыянэра і вучонага і браць з яго прыклад у справе бязьлітаснай барацьбы з усякім, хто паспрабуе рэвізаваць справу Леніна. Толькі ідучы па шляху Міхаіла Мікалаевіча, мы ажыцьцяўляем яго заветы і апраўдаем назву яго вучняў, вучняў ленінскай гістарычнай думкі.

# Толькі соцыялістычная сыстэма забясьпечвае нячуваны росквіт навукі і тэхнікі

*Прамова Прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук тав. П. Горына на IV-м зьезьдзе ІТС*

Дазвольце мне ад імя Беларускай Акадэміі Навук вітаць IV усебеларускі зьезд інжынэрна-тэхнічных работнікаў і выказаць упэўненасьць, што ў далейшым паміж Акадэміяй Навук і інжынэрна-тэхнічнымі кадрамі будзе ўстаноўлена неабходная цесная сувязь. Я думаю, гэта пажаданьне ня можа быць простай дэкларацыяй.

### Задачы, што магла паставіць толькі пролетарская рэволюцыя

Бурныя тэмпы разьвіцьця нашай навукі і тэхнікі патрабуюць самага дружнага адзінства работнікаў Акадэміі і інжынэрна-тэхнічных кадраў. Разрыў паміж Акадэміяй і інжынэрна-тэхнічнымі кадрамі асабліва недапушчальны ў сучасны пэрыод, калі бурны рост соцыялізму забясьпечвае ўступленьне ў паласу найвялікшых навуковых адкрыцьцяў і тэхнічных дасягненьняў.

Што наша соцыялістычная сыстэма дала магутны штуршок разьвіцьцю навуковай і тэхнічнай мысьлі—гэта зараз зусім відавочна. Перад намі пастаўлен цэлы рад проблем, якія няздольна вырашыць капіталістычная сыстэма. Узяць, напрыклад, такія проблемы, як устаноўку адзінай усесаюзнай высокавольтавай электрычнай сеткі, пабудову магутных заводзкіх гігантаў, буйных савгасаў і г. д. Гэтыя задачы магла паставіць толькі пролетарская рэволюцыя.

Да некаторай ступені напрошваецца гістарычная паралель з рэволюцыяй пачатку XIX стагодзьдзя, якая ў свой час дала штуршок разьвіцьцю тэхнічнай мысьлі. Як усякая гістарычная паралель, зразумела, яна вельмі ўмоўная, патрабуе ўліку і разуменьня тых розных задач, што стаялі ў канцы XVIII і пачатку XIX стагодзьдзяў у часе буржуазнай рэволюцыі і ў XX стагодзьдзі—у часе нашай рэволюцыі, як пролетарскай, соцыялістычнай.

Тэхнічная рэволюцыя канца XVIII і пачатку XIX стагодзьдзя цясьнейшым чынам была зьвязана з палітычнай рэволюцыяй і зьнішчэньнем фэўдальных адносін. Падобна да таго, як у канцы XVIII і пачатку XIX стагодзьдзя ўжываньне паравой машыны Д. Уайта, прадзільнай машыны Харкгрэўса і Крамптона, чаўнака—Кея і мэханічнага варштату Картрайта было немагчыма пры наяўнасьці фэўдальных адносін, таксама для сучасных тэхнічных дасягненьняў у галіне электрычнасьці, хэміі, авіяцыі і г. д. капіталістычная сыстэма зьяўляецца

зьлейшым ворагам, які скоўвае далейшае разьвіцьцё навукова-тэхнічнай мысьлі. Гэта добра адчуваюць на сабе многія вучоныя, інжынэры і тэхнікі, якія жывуць у капіталістычных краінах.

Ня дзіва, што сярод замежнай прогрэсыўнай тэхнічнай інтэлігенцыі з кожным днём растуць сымпатыі да Савецкага саюзу. Яна наглядна пераконваецца, што соцыялізм—сапраўдная рэальнасьць, якая забясьпечвае разьняволеньне чалавецтва ад капіталістычнай эксплёатацыі. Яна бачыць, як наш соцыяльна-палітычны лад, дыямэтральна-процілеглы капіталістычнаму, адкрывае перад навукай і тэхнікай нябывалыя кругавіды і магчымасьці. Напрыклад, пабудова такіх гігантаў як Днепрабуд, Кузьнецкабуд, Сталінградзкі трактарны завод і г. д. зусім немагчыма ў сучасных капіталістычных дзяржавах. Як вядома Днепрабуд зьяўляецца самай магутнай гідраэлектрастанцыяй у сьвеце.

## Капіталістычны лад скоўвае разьвіцьцё тэхнікі

Заграніцай для шырокіх пролетарскіх мас і тэхнічнай інтэлігенцыі з кожным днём становіцца ўсё больш відавочным, што капіталізм ня ў стане скарыстаць навейшых тэхнічных дасягненьняў, што ў гістарычны пэрыод, які намі перажываецца, продукцыйныя сілы ўступілі ў рэзкі конфлікт з соцыяльна-палітычным ладам капіталізму, выхадам з якога зьяўляецца толькі пролетарская рэволюцыя. Гэтыя супярэчнасьці адчуваюцца, літаральна, на кожным кроку, выліваючыся часамі ў зьявішчы зусім, здавалася-бы, незразумелыя чалавечаму розуму. Напрыклад, у краіне, дзе пшаніцай топяць печы, адзін беспрацоўны зьвярнуўся да дырэктара цырку з прапановай прадаць сябе на публічнае разарваньне тыграм, каб выратаваць ад галоднай сьмерці сваю сям'ю. Усім вам добра вядомы факты зьнішчэньня ў Амэрыцы вялізарных запасаў кавы, або выдатныя проекты амэрыканскага ўраду аб абавязковым скарачэньні пасеўных плошчаў у той час, як мільёны людзей літаральна галадаюць.

У пошуках выхаду з тупіку, які стварыўся, трацяць галовы нават людзі, якія нядаўна прэтэндавалі на годнасьць „прогрэсыўных элемэнтаў". Напрыклад, чаго варта прапанова Жоржа Дзюамэля забараніць усякія вынаходзтвы на пяць год. Ён мімаволі нагадвае азьвярэлых абатаў, якія калісьці паравую машыну лічылі „исчадием ада". Жорж Дзюамэль далёка ня так арыгінальны ў сваёй прапанове. Яго паны — буржуазія — ужо даўно практычна рэалізуюць гэты „плян" і скупляюць патэнты вынаходцаў для таго, каб іх ніхто ня ведаў і каб яны як мерцьвякі ляжалі ў сэйфах трэстаў і банкаў.

Я думаю, сусьветная пролетарская рэволюцыя адкрые перад намі цэлы рад гатовых важнейшых навуковых адкрыцьцяў, аб якіх буржуазія, купіўшы аўтараў гэтых адкрыцьцяў, забараніла сказаць хоць адно слова. Усё гэта, вядома, нам дзіка чуць. Але гэта факт, бо на зямной кулі мы маем дзьве сыстэмы. У той час, як у капіталістычных краінах ужываюцца ўсе меры, каб затрымаць разьвіцьцё навуковай і тэхнічнай мысьлі, мы, наадварот, змагаемся за кожнае наша вынаходзтва. Толькі наша соцыялістычная сыстэма магла выклікаць нячуваны ўздым навукова-тэхнічнай мысьлі, масавую зацікаўленасьць у тэхніцы, якая ўжо выявілася ў трыста тысячах вынаходзтваў у СССР, зарэгістраваных на сёнешні дзень у бюро вынаходзтваў. Пры гэтым характэрна, што галоўная маса вынаходцаў—рабочыя і сяляне.

## Новы тып вучонага і спэцыяліста

Калі мы гаворым аб набліжэньні эпохі новых адкрыцьцяў і тэхнічных дасягненьняў, мы нямінуча павінны мець на ўвазе, што актыўным удзельнікам гэтай эпохі можа быць толькі новы тып вучонага і тэхніка. Пролетарская рэволюцыя востра паставіла пытаньне аб новым вучоным, зусім розным ад вучонага эпохі капіталізму. У той час, як капіталізму патрэбен вучоны па сваіх ведах і слуга капіталу па сваім становішчы, нам неабходны палітычна-сьвядомы інжынэр і тэхнік, сьвядомы будаўнік соцыялізму, які ўмее зразумець значэньне сваёй работы ў справе барацьбы за зьнішчэньне эксплёатацыі чалавека чалавекам. Як вядома, буржуазія сьвядома імкнулася кастрыраваць палітычнае пачуцьцё інжынэраў. Са школьнай лаўкі яна цьвердзіла, што палітыка і тэхніка—гэта розныя рэчы і ў гэтым быў яе мэтод выхаваньня сваіх інжынэрна-тэхнічных кадраў.

Для нас такая сыстэма зусім не падыходзіць. Падобна да таго, як мы можам пасьпяхова спраўляцца з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, толькі маючы кадры свядомых рабочых, таксама мы павінны мець палітычна-сьвядомых і адданых справе пролетарыяту інжынэраў і тэхнікаў. На гэты бок у свой час звярачалі ўвагу заснавальнікі навуковага соцыялізму Маркс і Энгельс, адзначаючы, што ва ўмовах соцыялізму навука ставовіцца новай продукцыйнай сілай. Вядома таксама, з якой увагай Маркс і Энгельс сачылі за разьвіцьцём прыродазнаўчых навук і дасягненьнямі тэхнікі. Па-мойму, гэты бок дзейнасьці Маркса і Энгельса павінен заслужыць асаблівай увагі, таксама як і тое, што найвялікшыя вучоныя ў галіне прыродазнаўчых і тэхнічных навук маглі даць свае каштоўныя адкрыцьці выключна таму, што ўважліва сачылі за разьвіцьцём філёзофскай, экономічнай і гістарычнай мысьлі. Вазьмеце, напрыклад, такіх вучоных-прыродазнаўцаў, як Лявуазье, Карно, Дарвін і інш. Я думаю, што нашы вучоныя і інжынэры, якія хочуць быць сьвядомымі будаўнікамі соцыялізму, хочуць упісаць сваю старонку ў гісторыю надыходзячых адкрыцьцяў і вынаходзтваў, выканаць гэта змогуць толькі спалучаючы ў сабе вялізарныя веды ў галіне сучасных марксысцка-соцыяльных навук з глыбокімі ведамі па сваёй вузкай спэцыяльнасьці.

## Па-бальшавіцку асвоіць замежную тэхніку

Калі гавораць, што мы павінны аўладаць дасягненьнямі тэхнічна перадавых капіталістычных краін, дык гэта зусім ня значыць, што мы павінны вывучыць толькі колькасную суму ведаў. Асваеньне дасягненьняў заходня-эўропейскай і амэрыканскай тэхнікі павінна весьціся па-бальшавіцку, г. зн. неабходна мець на ўвазе ня толькі колькасны бок, але і якасны, г. зн. уменьне скарыстаць тэхнічныя дасягненьні ў нашай соцыялістычнай сыстэме. Можна было-б прывесьці цэлы рад прыкладаў, калі буйныя заходня-эўропейскія і амэрыканскія інжынэры аказаліся бездапаможнымі ў нашых умовах. Яны пры тым часта аказваліся бездапаможнымі таму, што наша сыстэма высоўвае цэлы рад проблем, якіх ня ў стане паставіць капіталістычная сыстэма. Вядома, напрыклад, якое замяшаньне праявіў буйнейшы амэрыканскі спэцыяліст у галіне сельскай гаспадаркі Кемпбэль, трапіўшы ў наш збожжасаўгас „Гігант“. Гэта сьведчыць аб тым, што мы павінны мець, не гаворачы аб якасным баку, больш кваліфікаваныя, больш ведаючыя кадры. Вось чаму перад намі як актуальная задача стаіць штодзен-

нае павышэньне нашых ведаў. Гэта неабходная ўмова, каб перагнаць перадавыя ў тэхнічных адносінах капіталістычныя краіны. У гэтых адносінах для нас можа служыць прыкладам малады 28-гадовы савецкі інжынэр тав. Захараў, які змантаваў нядаўна Бярэзьнікаўскую ЦЭЦ, самую магутную ў сьвеце, вывучаць якую цяпер едуць да нас замежныя інжынэры і тэхнікі. Тав. Захараў не адзіны. Можна было-б назваць яшчэ многа слаўных прозьвішчаў нашых савецкіх інжынэраў, якія, у сілу таго, што спалучаюць у сабе якасьці спэцыяліста і бальшавіка, упарта асвойваюць і ўмела крытычна перааапрацоўваюць дасягненьні замежнай тэхнікі—даюць узоры, якім павінен быць і што можа даць савецкі інжынэр.

Калі мы гаворым аб нашай тэхнічнай рэволюцыі, я хацеў-бы адзначыць адзін надзвычай істотны момант, які павінен прыцягваць пастаянную ўвагу інжынэрна-тэхнічных сіл. Гэта—пытаньне аб хутчэйшай рэалізацыі нашых тэхнічных дасягненьняў. Па-мойму, мы мала гаворым аб гэтым. Мы маем цэлы рад буйнейшых адкрыцьцяў і вынаходзтваў, якія часта злачынна доўга залежваюцца ў нашых установах, у той час, як іх рэалізацыя ў практыцы соцыялістычнага будаўніцтва дала-б нам вялікія рэзультаты. Мне думаецца, што барацьба за хутчэйшую рэалізацыю нашых адкрыцьцяў, вынаходзтваў і рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў павінна быць аднэй з галоўных задач інжынэрна-тэхнічных сэкцый. Трэба з усёй рашучасьцю падкрэсьліць, што злачынства перад справай будаўніцтва соцыялізму робіць той, хто сьвядома ці несьвядома адцягвае тэрмін практычнай рэалізацыі нашых вынаходзтваў і рацыяналізатарскіх прапаноў.

## Выкарчоўваць рэшткі някультурнасьці

Пытаньне аб тэхнічнай рэволюцыі, з другога боку, цесна зьвязана з нашай барацьбой за культурную рэволюцыю. Выступіўшы перада мною таварыш прывёў прыклад, як на аднэй цагельні з-за няўважлівых адносін да машыны была сарвана вытворчая програма. Аб выпадках пагардлівых адносін да машын маглі-б расказаць многія з прысутных. Я думаю, нам трэба ўскрыць асноўную прычыну гэтага зьявішча. Для ўсіх бясспрэчна, што асноўная прычына — гэта някультурныя адносіны да машыны. Мы ня справімся з задачамі індустрыялізацыі краіны, калі нашы машыны будуць хутка выбываць з строю. Паглядзеце, як часта мы наглядаем пагардлівыя адносіны да трактара, аўтомобіля або варштату. Усё гэта прымушае нас разгарнуць шырокую кампанію па ўкараненьню любасьці да машыны, бярэжлівых, культурных адносін да яе, на самай рашучай барацьбе з абязьлічкай у карыстаньні абсталяванянем (пашпартызацыя машын, прэміяваньне за добры догляд іх і г. д.).

Ленін невыпадкова ў сваіх апошніх артыкулах аддаваў выключную ўвагу барацьбе за культурную рэволюцыю, бо гэта ёсьць барацьба за соцыялізм. Мы ня можам да барацьбы за культурнасьць падыходзіць ведамсьцьвенна, бо гэта, моў, справа Наркамасьветы або культурных устаноў. У гэту барацьбу павінны быць уцягнуты шырокія масы і ў першых радох сярод іх павінны знаходзіцца інжынэрна-тэхнічныя кадры. Пры гэтым неабходна памятаць, што барацьба за культурную рэволюцыю ня можа абмяжоўвацца „дэкаднікам“ або „месячнікам“. Патрабуецца ўпартая, штодзенная, штогадзінная праца па выкарчоўваньні рэштак някультурнасьці, гэтага небясьпечнага ворага соцыялістычнага будаўніцтва. Змаганьне гэта надзвычай цяжкае. У кожным

з нас ёсьць яшчэ многа абломаўшчыны і коснасьці. Паглядзеце, як часта мы барбарскі адносімся да нашага часу і трацім яго злачынна нерацыянальна. Прыкладаў нашай някультурнасьці можна падаць сотні з кожнай галіны нашай работы. Іменна гэта акалічнасьць патрабуе ад нас настойлівасьці і ўпартасьці ў барацьбе з рэшткамі някультурнасьці, што, як гразь, занадта прыліпаюць да нас і тармозяць наша разьвіцьцё.

Таварышы, мінулыя гады рэволюцыі характарызуюцца вялізарнымі перамогамі пролетарыяту. Наперадзе яшчэ вялікія посьпехі, вялікія перамогі. Што-ж забясьпечвае заваяваньне гэтых посьпехаў? Яны сталі магчымымі выключна таму, што мы маем комуністычную партыю, Ленінскі ЦК УсеКП(б) на чале з т. Сталіным, якая, дзякуючы бязьлітаснай барацьбе з опортунізмам, з найменшымі адхіленьнямі ад ленінскай лініі, забясьпечыла правільнае кіраўніцтва масамі. Правільнае партыйнае кіраўніцтва—аснова і нашага далейшага соцыялістычнага разьвіцьця. Толькі пад кіраўніцтвам партыі нашы інжынэрна-тэхнічныя кадры могуць быць актыўнымі будаўнікамі соцыялізму, толькі кіраўніцтва комуністычнай партыі забясьпечвае нячуванае ў гісторыі разьвіцьцё навукі і тэхнікі.

---

В. А. Самцэвіч і А. Д. Палеес

# Вывучэньне мінэральнай сыравіны і задачы краязнаўчых організацый

„Забесьпячэньне разьвіцьця народнае гаспадаркі выклікае неабходнасьць прыдаць такія тэмпы геолёга-разьведачнай справе, якія павінны значна апярэдзіць тэмпы разьвіцьця прамысловасьці, з мэтай заўчаснай падрыхтоўкі мінэральнай сыравіны. Да гэтага трэба зрабіць рашучы пералом у геолёга-разьведачных работах і поўнасьцю забясьпечыць гэту справу матар'яльнай базай". (З пастаноў XIV зьезду УсеКП(б)).

На аснове дырэктыў XVII конфэрэнцыі УсеКП(б) Дзяржплян СССР, а таксама і Дзяржплян БССР прыступілі да распрацоўкі конкрэтных проблем другой пяцігодкі. Пасьпяховае завяршэньне пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі ў першай пяцігодцы дало магчымасьць партыі паставіць проблему аб поўнай тэхнічнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі ў другой пяцігодцы. Вырашэньне гэтай проблемы патрабуе соцыялістычнага разьмяшчэньня продукцыйных сіл СССР яшчэ ў больш шырокіх разьмерах, чым у першай пяцігодцы, на працягу якой былі створаны новыя індустрыяльныя цэнтры ў Сярэдняй Азіі, Сібіры, на Урале, у Мурманску, Закаўказьзі, Далёкім Усходзе, БССР і інш.

Соцыялістычнае разьмяшчэньне продукцыйных сіл на тэрыторыі Савецкага саюзу ставіць задачу перад партыяй, рабочай клясай і ўсімі навукова-дасьледчымі ўстановамі СССР вывучэньне і асваеньне магутных энэргетычных рэсурсаў і найбагатшых запасаў мінэральнае сыравіны, скрытай у нетрах нашай Савецкай краіны. Для вырашэньня вялізарных задач, пастаўленых партыяй у другой пяцігодцы, неабходна глыбокае веданьне магчымасьцяў далейшага разьвіцьця продукцыйных сіл нашай краіны і тых нязьлічоных прыродных багацьцяў, „якія павінны быць уключаны ў орбіту вытворчае працы, пастаўлены на службу будуючамуся соцыялізму" (В. Куйбышаў).

У СССР пасьля Кастрычнікаўскае рэволюцыі партыяй і ўсёй рабочай клясай разгорнута надзвычайна шырокая дасьледчая работа: адкрыты хібінскія апатыты, калі у раёнах Солікамску і Туркменістану, каляровыя мэталы ў Сярэдняй Азіі і Казакстане, новыя месцы заляганьня жалезнай руды, каменнага вугалю, нафты і г. д. Аднак, „толькі нязначная частка прыродных багацьцяў нашых нетраў добра вывучана і падрыхтавана да эксплёатацыі. Мы яшчэ вельмі мала ведаем сваю краіну. Другая пяцігодка будзе будаваць новыя гіганты соцыялістычнай індустрыі там, дзе яшчэ сёньня прасьціраюцца белыя плямы на картах геолёгаў... Перад намі паўстае важнейшая ўмова для

стварэньня другой пяцігодкі: мы павінны пазнаць сваю краіну. Гэта задача ня можа быць выканана толькі сіламі спэцыялістаў-геолёгаў, пашуковымі партыямі, якія пасылаюцца навуковымі і гаспадарчымі органамі. Вывучэньне нашых прыродных багацьцяў у найкарацейшы тэрмін нямысьліма без прыцягненьня шырокіх мас добраахвотнікаў з радоў рабочае клясы і колгасьнікаў... У кожным раёне нашай краіны будзем шукаць жалеза, медзь, нафту, вугаль, торф, сыравіну для хэмічнае прамысловасьці, новыя глебы, новыя расьліны. І ня толькі шукаць і ведаць, але і вучыцца скарыстоўваць гэтыя багацьці для будаўніцтва соцыялізму" (В. Куйбышаў. Ліст у рэдакцыю „Комсамольской Правды" № 66, 1932 г.).

У складаньні другой пяцігодкі БССР і ў першую чаргу ў глыбокім і дэталёвым вывучэньні ўсіх прыродных багацьцяў кожнага раёну, на аснове якога магчыма будзе лепш правесьці соцыялістычнае разьмяшчэньне ўсіх продукцыйных сіл нашай краіны, самы актыўны ўдзел павінны прыняць усе краязнаўчыя організацыі БССР, пачынаючы ад ЦБК і канчаючы кожнай ячэйкай. ЦБК, усе раённыя краязнаўчыя організацыі і ячэйкі на заводах, фабрыках, у колгасах, пры школах і інш. у 1932 г. павінны організаваць масавы дасьледчы краязнаўчы паход па адшуканьню і выяўленьню ўсіх карысных выкапняў і ўсіх відаў сыравіны для нашае прамысловасьці. Не павінна быць ніводнае краязнаўчае організацыі, ніводнае ячэйкі, якая-б засталася ў баку ад удзелу ў вырашэньні найважнейшай задачы соцыялістычнага будаўніцтва—вывучэньня энэргетычных рэсурсаў і сыравіннай базы для прамысловасьці БССР у другой пяцігодцы. Удзел у масавым суцэльным вывучэньні прыродных багацьцяў нашай краіны—баявы экзамен для ўсіх краязнаўчых організацый, які павінен паказаць, наколькі і ў якой меры краязнаўства ў нас перабудавалася і ўключылася ў соцыялістычнае будаўніцтва.

XIV зьезд КП(б)Б у сваіх пастановах даў яскравую ўстаноўку па разгортваньню навукова-дасьледчае работы для забесьпячэньня сыравінай нашай прамысловасьці. Для разьвіцьця прамысловасьці на мясцовай сыравіннай базе зьезд даручыў ВСНГ і Дзяржпляну БССР „шырока разгарнуць вышукальныя работы па выяўленьню новых відаў мясцовага сырцу, увязваючы работу навукова-дасьледчых устаноў з практычнымі задачамі конкрэтнага разгортваньня прамысловасьці, якая базуецца на мясцовым сырцы (гліны, пяскі для шкляной прамысловасьці, сапрапэліты, вапна, фосфарыт і інш.)". На адшуканьні і вывучэньні гэтых відаў сыравіны для прамысловасьці павінна быць сконцэнтравана ўся ўвага краязнаўчых організацый. Адначасна з гэтым трэба разгарнуць работу і па выяўленьню лекавых і дзіка-растучых расьлін прамысловага значэньня, дубіцеляў і інш.

БССР дагэтуль вельмі мала дасьледвана з геолёгічнага боку. Праўда, у БССР мы ня маем такіх каштоўных мінэралаў, як золата і медзь, ня маем нафты і вугалю, але наша рэспубліка багата на вялікую колькасьць іншых мінэральных выкапняў, роля якіх у народнай гаспадарцы вялізарна. Напрыклад: на базе мясцовай сыравіны ў БССР ужо пабудаваны Крычаўскі цэмантны завод усесаюзнага значэньня і намечана пабудова другога цэмантнага заводу. Беларускія вапнякі, апрача вырабу з іх вапны, прыгодны таксама і пры выплаўцы жалеза (флюсы),—гэта давялі спробы на менскім чыгуна-ліцейным заводзе імя Варашылава (спробы з дараганаўскімі вапнякамі). На базе мясцовай крэйды і пяскоў у нас разгортваецца буйная шкляная прамысловасьць (пабудова гомельскага мэханізаванага шклянога заводу).

Досьледы Інстытуту прамысловасьці ВСНГ выявілі прыгоднасьць лёгкаплаўкіх вазёрных і гляўконітавых глін для тарнага шкла. На базе мясцовых фосфарытаў і крэйды ў нас маецца магчымасьць атрымаць высокаякаснае мінэральнае ўгнаеньне для социялістычных палёў—прэцымітат. Мы прыступаем да пабудовы заводу агнятрывалай цэглы (тыпу Гржэльскага) на базе чавускіх глін; цяпер форсуецца выраб глініт-цэманту з віцебскіх глін; беларускія трэпелы і апокі скарыстоўваюцца як гідраўлічная дамешка ў цэмантнай вытворчасьці для новых будматар'ялаў. Сапрапэлі на поўначы БССР даюць магчымасьць запроектаваць да будаўніцтва ў другой пяцігодцы буйнога комбінату па хэмічнай апрацоўцы і атрыманьню дарагіх і неабходных для нас матар'ялаў (смала, лёгкія маслы, парафін і інш.). Копыскія маргелі зьяўляюцца лепшай сыравінай для ізразцоў; лоеўская охра пераапрацоўваецца на лоеўскім заводзе „Краскацвет". Рад іншых заводаў і прадпрыемстваў працуюць на базе мясцовай сыравіны. Усе гэтыя віды карысных выкапняў маюць вялізарнае значэньне ў разьвіцьці народнае гаспадаркі. Задачы краязнаўчых організацый—разгарнуць вялікую работу па выяўленьню ўсіх карысных выкапняў БССР, адшукаць гэтыя выкапні для выкарыстаньня іх у нашай прамысловасьці.

Раённыя бюро краязнаўства павінны неадкладна ўзмацніць склад сэкцыі па вывучэньню прыродных багацьцяў і карысных выкапняў і разгарнуць шырокую работу па ўцягненьню ўсіх ячэек у дасьледчую работу па вывучэньню карысных выкапняў. Трэба разгарнуць масавую пропаганду сярод рабочых мас, колгасьнікаў, вучняў школ, піонэраў і ўсёй пролетарскай грамадзкасьці для організацыі масавага дасьледчага паходу па адшуканьню сыравіны для прамысловасьці.

Для забесьпячэньня пасьпяховага ўдзелу краязнаўчых організацый у адшуканьні і вывучэньні карысных выкапняў кожная краязнаўчая ячэйка і кожны краявед—рабочы, колгасьнік, комсамолец, вучань, павінны аўладаць неабходнымі мінімальнымі ведамі ў галіне геолёгіі: уменьне распазнаваць мінэралы, выяўляць іх асноўныя хэмічныя і фізычныя ўласьцівасьці, азнаямленьне з мэтодамі правядзеньня пошукаў мінэральнае сыравіны і інш.

У мэтах падрыхтоўкі краяведаў у галіне геолёгіі пры кожнай краязнаўчай ячэйцы, школе трэба організаваць спэцыяльныя заняткі (у гуртках, брыгадах, групах) па геолёгіі, прыцягнуўшы да кіраўніцтва гэтай работай геолёгаў, найбольш кваліфікаваных краяведаў, настаўнікаў, інжынэрна-тэхнічны пэрсонал, аграномаў, студэнтаў ВНУ. У справе геолёгічнай падрыхтоўкі краяведных мас актыўны ўдзел павінны прыняць і краязнаўчыя музэі і школы шляхам організацыі спэцыяльных выставак мінэралёгічных колекцый, організацыі консультацый, пастаноўкі дакладаў і г. д. Трэба дабіцца, каб у кожным краязнаўчым музэі, кутку (на заводзе, у колгасе, школе) былі сабраны і складзены геолёгічныя колекцыі карысных выкапняў БССР, была карта ўжо выяўленых і зарэгістраваных выкапняў, геолёгічныя табліцы, бібліотэчка. Краязнаўчыя музэі павінны разгарнуць сярод працоўных мас самую шырокую пропаганду задачы і значэньня масавага дасьледваньня сыравінных рэсурсаў для прамысловасьці.

Раённыя бюро краязнаўства павінны безадкладна організаваць у раённых цэнтрах спэцыяльныя курсы-сэмінары для падрыхтоўкі кіраўнікоў разьведачных груп і партый, наладзіць практычныя заняткі па азначэньню мінэралаў пры дапамозе прасьцейшых прылад і сродкаў, выявіць усе групы, якія могуць прыняць удзел у адшуканьні і разьведцы карысных выкапняў (як самастойныя партыі і дапамож-

ныя групы ў складзе геолёгічных разьведачных партый дасьледчых устаноў, якія будуць працаваць у раёне).

Задача кожнай краязнаўчай ячэйкі на заводзе, у колгасе, пры школе—вывучыць карысныя выкапні ў раёне распалажэньня свайго прадпрыемства, колгасу, школы. Задача райбюро краязнаўства—арганізаваць вывучэньне мінэральнай сыравіны на тэрыторыі ўсяго раёну, злажыць раённыя карты карысных выкапняў, колекцыі мінэралаў для краязнаўчых музэяў і для краязнаўчых куткоў. Уся работа па дасьледваньню мінэральнай сыравіны павінна быць цесна ўвязана з плянуючымі і навукова-дасьледчымі ўстановамі.

Асноўнымі формамі краязнаўчых досьледаў па выяўленьню мінэральнай сыравіны зьяўляюцца: краязнаўчыя дасьледчыя экскурсіі дасьледчых груп для сыстэматычнага вывучэньня прылягаючага да свайго прадпрыемства колгасу, школы, раёну; краязнаўчыя экскурсіі і экспэдыцыі ў часе адпачынкаў для вывучэньня больш далёкіх пунктаў свайго раёну і і інш. раёнаў БССР; спэцыяльныя экспэдыцыі па вывучэньню пэўных відаў мінэральнае сыравіны па пэўнаму маршруту, выходзячы з заданьняў геолёга-разьведачных і гаспадарчых устаноў. Неабходна, каб кожнае раённае бюро краязнаўства атрымала пэўныя заданьні для сваіх дасьледчых груп і партый ад РВК, заводаў, навукова-дасьледчых устаноў і заключыла адпаведныя дагавары з гэтымі ўстановамі.

ЦБК павінна ўзяць на сябе наступныя конкрэтныя задачы:

а) атрыманьне заданьняў ад цэнтральных дасьледчых, плянуючых і гаспадарчых устаноў;

б) плянаваньне ўсёй дасьледчай работы раённых краязнаўчых організацый і ўчот гэтае работы;

в) распрацоўка інструкцыйна-мэтодычных матар'ялаў, выданьне масавае популярнае літаратуры па пытаньнях вывучэньня мінэральнай сыравіны;

г) організацыя консультацыі спэцыялістаў дасьледчых устаноў;

д) вывучэньне практыкі лепшых дасьледчых груп, брыгад, ячэек у мэтах перадачы іх практыкі іншым організацыям і прэм'яваньне за лепшую работу;

е) сыстэматызацыя, апрацоўка і выданьне ўсіх матар'ялаў па вывучэньню карысных выкапняў БССР.

## Заданьні для краязнаўчых організацый БССР па вывучэньню карысных выкапняў у БССР

### МЭТАВЫЯ АБСЬЛЕДВАНЬНІ

#### I. Вышуканьне жалезнай руды.

1) Абсьледваньне р. Прыпяці ад Мазыра да Турава *).

2) Рака Бярэзіна—ад Горваля да мястэчка Бягомль, праз Бабруйск—Барысаў *).

3) Рака Днепр—ад Дуброўны да Рэчыцы праз Магілеў.

4) Рака Сож—Крычаў—Карма *).

5) Рака Бесядзь—ад вёскі Бесядзь да м. Касьцюковічы.

---

*) Па гэтых маршрутах работу трэба праводзіць у поўнай узгодненасьці з геолёга-разьведачнымі жалезна-руднымі партыямі, якія тут будуць працаваць.

6) р. Проня—ад Прапойску да Чауск.
7) р. Пціч—ад Глуску да Капаткевічаў.
8) р. Случ—Слуцкі раён.

II. Граніты і пяшчанікі.

1) Рака Убарць—ад Глушкавіч да ўпадзеньня ў р. Прыпяць.
2) р. Славечна—ад в. Лучышча да в. Дзямідаўкі.

III. Выхады вапнякоў.

1) р. Сар'янка—Дрысенскі раён.
2) Заходняя Дзьвіна—ад Віцебску да мяжы РСФСР.

IV Валунныя вапнякі.

1) Лагойскі і Плешчаніцкі раёны.

V. Трэпелы і апокі.

1) р. Бесядзь—Бялынкавічы—Хоцімск.
2) р. Іпуць—м. Добруш і вышэй па рацэ.

VI. Крэйда.

1) р. Проня—м. Прапойск—в. Рагодзінка.
2) Койданаўскі і Заслаўскі раёны.

VII. Сярністыя крыніцы.

1) Лепельскі і Сененскі раёны.

VIII. Сапрапэлі.

1) Полацкі, Асьвейскі, Лепельскі, Сіроцінскі, Дрысенскі, Аршанскі, Чарэйскі, Віцебскі і Гарадоцкі раёны.

IX. Янтар.

1) Раён м. Тонежа (янтар у глінах і пяскох).
2) в. Копішча на рацэ Убарці (асабліва правы бераг каля Глушка).

## КОМПЛЕКСНАЕ АБСЬЛЕДВАНЬНЕ

1) р. Вубарць—ад м. Петрыкава праз Лельчыцы—Копішча—Хочын—Парга—Юрава—Алеўск.

Агнятрывалыя гліны, каолін, выхады гранітаў і пяшчанікаў, янтар, жалезная руда.

2) Полацкі раён—басэйн рэчкі Полаты і Дзьвіны.

Гліны клінкерныя і чарапічныя, лугавыя маргелі (крэйда).

3) Лепельскі раён—абсьледваць рэчкі і ручаі ў раёне вёсак Дольцы, Жары, Пышна, Юркава Сьцяна.

Гліны, вапнякі, лугавы маргель (крэйда). (Па гэтаму маршруту магчыма знаходжаньне гіпсу, што трэба мець на ўвазе).

4) Лельчыцкі раён—каолін, агнятрывалыя гліны, жалезная руда, граніты.

5) Ельскі раён—жалезная руда, будаўнічыя гліны, лугавыя маргелі (крэйда).

6) Камарынскі раён—жалезная руда, будаўнічыя гліны, лугавыя маргелі.

7) Брагінскі раён—жалезная руда, лугавыя маргелі (крэйда), будаўнічыя гліны.

8) Касьцюковіцкі раён—гліны, трэпела, маргелі, крэйда.

8) Прапойскі раён—жалезная руда, гліны, крэмень.

10) Чэрыкаўскі раён—гліны, жалезная руда, крэйда, крэмень.

11) Краснапольскі раён—жалезная руда, крэмень, крэйда, трэпел.

12) Гарадокскі раён—выхады вапнякоў, серныя крыніцы.

13) Рэчка Арэса—ад м. Любань да Слабады Ляскаўскай.—Жалезная руда, долёміты, гліны, вапнякі, скапленьне валунных каменьняў.

14) Рака Зах. Дзьвіна: Полацак—Сураж. Жалезная руда, гліны, вапнякі, крыніцы мінэральныя.

15) Стара-Быхаўскі раён—жалезная руда, чарапічныя і клінкерныя гліны, крэйда.

16) Асіпавічы—Слуцак—долёміты (кавалкавы і парашкаваты), жалезная руда.

Пры праходжаньні тарфяных балот усюды зварочваць увагу на маючыяся на глыбіні каля аднаго мэтра адклады мяккіх мінэральных уключэньняў у торфе ў выглядзе лінз-вівіянітаў блакітнага і сіняга колеру з вохрыстымі пражылкамі.

**Белгеоразьведка і ЦБК.**

## Заданьні для краязнаўчых організацый БССР па вывучэньню торфу

1) Тэрыторыя правага берагу ракі Прыпяць—шырынёю 20—30 кілёмэтраў.

2) Барысаў—Лепель (левы бок ракі Бярэзіны).

3) Тэрыторыя раёнаў: Горацкі, Мсьціслаўскі, Крычаўскі, Клімавіцкі, Лёзьненскі, Высачанскі і Багушэўскі раёны.

**Белторфаб'яднаньне, ЦБК.**

В. Міхайлоўская

# Кароткі нарыс аб расьліннасьці БССР

БССР у сваіх сучасных межах займае тэрыторыю ў 126 тыс. кв. км і прадстаўляе сабой працяг лясной зоны Саюзу. Прыроднае расьліннае акрыцьцё краіны і разьмяшчэньне расьліннасьці на тэрыторыі ў значнай ступені залежыць ад цэлага раду фактараў, сярод якіх галоўнымі зьяўляюцца клімат, рэльеф і глебы.

Першы і галоўны фактар—клімат БССР цікавы ў тых адносінах, што зьяўляецца нібы пераходным ад контынэнтальнага, больш суровага клімату Ўсходняй Эўропы да больш мяккага Заходняй Эўропы. Такая паступовая зьмена клімату наглядаецца на БССР у кірунку з поўначы на поўдзень (менавіта з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад) і ў першую чаргу абумаўляе разьмяшчэньне расьліннасьці на тэрыторыі краіны.

Па свайму палажэньню БССР зьяўляецца заходняй часткай Рускай раўніны. Яе рэльеф, паніжаны і раўнінны на поўдні, няроўны і ўзгаркаваты на поўначы, у значнай ступені зьяўляецца вынікам былых калісьці абледзяненьняў. Гэтыя абледзяненьні (як кажа проф. Люнгерсгаўзен[1]) пакінулі пасьля сябе помнікі ня толькі ў выглядзе рознастайнага тыпу адкладаў, але і ў выглядзе вызначаных формаў рэльефу, яны паклалі свой уласны адбітак на ўсю краіну, аформілі яе краявіды і тым самым намецілі асноўны фон яе прыроднага раёнаваньня. Такім чынам, на тэрыторыі БССР мы можам выявіць рад цэўных прыродных раёнаў—больш узвышаная паўночная палова краіны падзяляецца на тры раёны: 1) з няроўным узгаркаватым рэльефам і з значнаю колькасьцю вазёр, пераважна ледавіковага паходжаньня, распаложаных у паніжэньнях паміж узгоркамі—гэта так званы азёрны раён. З паўднёвага боку азёрны раён абкружаны паласою *Менскага* і *Аршанскага ўзвышша*. Рэльеф гэтых двух раёнаў значна больш роўны і спакойны; характэрным зьяўляецца прысутнасьць на іх лёсавых плято. Паўднёвая частка краіны складаецца з двух раёнаў: *Цэнтральнай Беларусі*, якая зьяўляецца нібы акраінай Палесься і поўдзень БССР заняты *Палескай нізінай*.

Трэці фактар—глебавае акрыцьцё выклікае зьмены ў разьмяшчэньні расьліннасьці на параўнальна нязначных прасторах. На тэрыторыі БССР яе глебы (згодна проф. Афанасьеву[2]) утвараюць тры тыпы: больш-менш прыпаднятыя ўчасткі паверхні, дзе заўсёды панаваў лес, прадстаўлены глебамі падзолавага тыпу. У шматлікіх пані-

[1]) Проф. Ф. Люнгерсгаузен—„Уступ у геолёгію БССР".

[2]) Проф. Афанасьев. „Почвы Белоруссии, как естественные рессурсы производительных сил страны". Зап. Белар. Дзярж. Акад. Сельскай і Лясной гаспадаракі, 1926 г. №1.

жэньнях разьмясьціліся балоты і тарфянікі; на пэрыфэрыі буйных рэк або ў мясцовасьцях, якія ня маюць сьцёку, утварыліся глебы балоціста-падзолавага тыпу.

### I. Лясная расьліннасьць

Такім чынам, у залежнасьці ад трох разгледжаных фактараў у разьмяшчэньні расьліннасьці па тэрыторыі БССР наглядаецца некаторая законамернасьць. Як ужо паказвалася вышэй, БССР уваходзіць у склад лясной зоны Саюзу, лясы—зональная формацыя краіны. Але гэтыя лясы на тэрыторыі БССР разьмясьціліся неаднолькава, яны




Мал. 1.

ў залежнасьці ад фізыка-географічных фактараў набываюць цэлы рад характэрных рысаў, якія даюць магчымасьць выдзеліць рад пэўных раёнаў. Так, Полянская [1]) выяўляе наступную зональнасьць лясоў (мал. 1). На поўначы краіны разьмяшчаюцца пераважна яловыя дрэвастаны з нязначнай дамешкай шыракалістых парод (галоўным чы-

[1]) О. С. Полянская—„Аб географічным разьмяшчэньні расьліннасьці Беларусі". Матар'ялы да вывучэньня флёры і фаўны Беларусі т. II.

нам дубу, клёну, радзей лёму і ліпы). У падлеску звычайна пануе ляшчына (Corylus avellana L), радзей брызьліна гузаватая (Evonymus verrucosus Scop) і жымаласьць (Lonicera hylosteum L). Травяное акрыцьцё такіх дрэвастанаў складаецца з наступных расьлін: падалешнік эўропейскі (Asarum europaeum L), шчамяліца лекавая (Pulmonaria officinalis L), кісьліца (Oxalis acetosella L), майнік двухлісьцёвы (Majanthemum bifolium. D. C.), дабраполь жоўты. Месцамі на поўначы БССР у лясох сустракаецца лінэя (Linnaea borealis L). Далей на поўдзень процант елкі ў лясох пачынае зьмяншацца, за кошт елкі павялічваецца колькасьць шыракаліставых парод, утвараючы тут раён мяшаных ялова-шыракаліставых лясоў. Тут у гэтым раёне пачынаюць зьяўляцца элемэнты заходня-эўропейскай флёры, зьнікаюць элемэнты борэальна-арктычныя, Linnaea borealis L яшчэ сустракаецца ў яловых лясох паўночнай часткі акругі, але ўжо вельмі рэдка.



Мал. 2. Шыракаліставы лес.

Пры пасоўваньні на поўдзень у раёне цэнтральнае Беларусі мы сустракаемся з так зв. мяшанымі шыракалістава-яловымі лясамі заходня-эўропейскага тыпу. Тут у складзе парод дрэвастану пачынае ўдзельнічаць граб (Carpinus betulus L.), у травяным акрыцьці, сустракаюцца нават і такія рэдкія для нас расьліны, як Dentaria bulbifera, Allium ursinum L.

Паўднёвая частка БССР, занятая Палескаю нізінай, характарызуецца распаўсюджваньнем шыракалістых парод, прычым характэрным зьяўляецца тое, што ў складзе дрэвастанаў зусім адсутнічае елка. Тут у Мазыршчыне, паўднёвай Гомельшчыне елка знаходзіцца па-за межамі свайго суцэльнага распаўсюджаньня. Калі яна тут сустракаецца, дык толькі ў выглядзе астраўных месцазнаходжаньняў, а ня

ў выглядзе лесатворчай пароды. У складзе парод дрэвастану галоўны ўдзел прымаюць дуб, граб, да іх дамешваецца лём, бераст, клён, ліпа, на вільготных месцах—ясень. У падлеску—сьвідзіна (Cornus sanguinea L), брызьліна гузаватая і эўропейская (Evonymus verrucosus Scop. Evon. europaea L), каліна (Viburnum opulus L), ляшчына (Corylus avellana L), дзікая яблыня, ігруша (Pirus malus L. і Pirus communis L.)



Мал. 3. Сасновы лес.

Яловы, ялова-шыракалістава і шыракалістава лес зьяўляецца зональнаю формацыяй Беларусі, але мы ведаем, што сасновыя лясы на БССР таксама шырока распаўсюджаны. Сасновымі лясамі на БССР пакрыты значныя плошчы, сасна ўтварае і высакаствольныя дрэвастаны будаўнічага лесу і нізкія каравыя балотныя хвойнікі. Нарэшце, сасною замацоўваюцца сыпкія пяскі. На поўначы краіны сасновыя лясы маюць беднае травяное акрыцьцё, падлеску часта зусім няма або ён складзены з ялаўца (Juniperurus communis L.). На поўдні, у Палесьсі, сасновыя лясы маюць больш рознастайны і багаты склад,—у падлеску вельмі часта знаходзяцца жоўтазелі (Genista germanica L і Genista tinctoria L.), зяноўцы (Cytisus). На ўсёй тэрыторыі сасновыя лясы сустракаюцца ў самых рознастайных умовах: на сухіх, высокіх, пяшчаных узгорках, часам з акрыцьцём з лішаю (Cladonia sylvatica, Cladonia rangi-

ferina) або брусьніцы (Vaccinium Vitis idaea L) і ва ўмовах паніжанага рэльефу з высокім роўнем грунтовых вод і з акрыцьцём з чарніцы (Vaccinium myrtillus L) і нарэшце балоты і імшары часта бываюць пакрыты балотнай хвойкай.

## II. Балоты

Беларусь—краіна балот і лясоў. Па выразу проф. Высоцкага [1]) балоты і лясы розных тыпаў—прыроднае расьліннае акрыцьцё БССР. Колькасьць балот на БССР досыць значная, асабліва гэта наглядаецца на поўдні БССР, у Палесьсі, дзе балоты займаюць вялізарныя плошчы. Раней было прынята лічыць, што на поўначы пераважаюць сфагнавыя балоты (імшары), а на поўдні (у Палесьсі) імшары сустракаюцца вельмі рэдка і найбольш пашыранымі зьяўляюцца асаковыя балоты. Але дасьледваньні апошніх гадоў выявілі ў паўднёва-заходнім кутку Мазыршчыны значныя плошчы, занятыя звычайнымі сфагнавымі балотамі (М. Прахін [2]).

Сфагнавыя балоты пакрыты пышным дыванам з сфагнавых імхоў, травяністае акрыцьцё нягустое, прадстаўлена пушыцай (Eriophorum), асокай (Carex), вельмі часта яшчэ растуць журавіна (Oxycoccos), (palustris Pers), расіца (Grosera rotundifolia L), з паўхмызьнякоў багун (Ledum palustris L.), буякі. Vaccinium uliginosum L), андромэды (Andromeda polifolia), касандра (Cassandra calyculata Don.). З дрэўнае расьліннасьці часта разьвіваецца паверх з сасны (Pinus silvestus L), якая мае выгляд нізкарослага каравага дрэва.

Травяныя (нізінныя) балоты часьцей за ўсё пакрыты асокамі (Carex) з дамешкаю ў рознай колькасьці балотных расьлін—бабок (Menyanthes trifoliata L), лотаць балотная (Caltha palustris L), сабельнік балотны (Comarum palustre L), сіт (Juncus) і многа інш. Над паверхам травяністай расьліннасьці часта маецца яшчэ паверх з хмызьнякоў. Звычайна гэтыя хмызьнякі раскіданы на балоце ў выглядзе груп лазы, часам крушыны, бярозы. Пад паверхам травяністае расьліннасьці разьвіваецца пышны дыван з зялёных імхоў—Acrocladium cuspidatum, Climacium dendroides, Drepanocladus, Aulacomniun palustre і г. д. Вельмі часта такія балоты выкарыстоўваюцца насельніцтвам пад сенажаць.

## III. Лугавая расьліннасьць

Трэцяй буйной формацыяй расьліннасьці пасьля лясоў і балот зьяўляюцца лугі,—агульная іх плошча на БССР каля 2-х мільёнаў га. Сярод іх мы адрозьніваем: 1) поплавы, 2) мурожныя лугі і 3) нізінныя лугі. Самымі лепшымі лугамі ў сэнсе іх гаспадарчай каштоўнасьці зьяўляюцца поплавы. У далінах нашых буйных рэк, на Дняпры, Бярэзіне, Прыпяці, Сажы значныя плошчы пакрыты лугавой расьліннасьцю. І тут, як і ўсюды, рэльеф накладае свой адбітак на разьмяшчэньне расьліннасьці.

---

[1]) Проф. Высоцкі—„Аб вывучэньні прыродных расьлінных акрыцьцяў Беларусі Праца 1-е ўсебеларускае глебазнаўчае конфэрэнцыі ў 1924 г.

[2]) М. І. Прахін—„Расьлінныя асоцыяцыі заходняй часткі Мазырскае акругі. Матар'ялы да вывучэньня флёры і фауны Беларусі, т. V.

Высокія ўчасткі лугу заняты нявысокім рэдкім травастоем, у складзе якога пераважаюць злакі з значнаю дамешкаю living рознатраўя і некаторай колькасьцю струкавых расьлін.

Лугі сярэдняга роўню характарызуюцца самымі спрыяючымі ўмовамі для разьвіцьця расьлін. Тут звычайна разьвіваецца пышны шматпавярховы травастой, у складзе якога пануюць лепшыя кармовыя травы; з злакаў мы знаходзім тут лісахвота (Alopecurus pratensis L),



Мал. 4. Поплаўны луг.

бэкманію крыжавую (Beckmania eruciformis Host). Ва ўмовах нізкага роўню разьмяшчаюцца асочнікі, дзе расьце асака амаль што чыстага складу.

Мурожныя сенажаці—гэта ў пераважнай колькасьці ўчасткі высечанага лесу. Глеба іх звычайна моцна ападзоленая, бедная і сухая, дзякуючы чаму расьліннасьць нявысокая і не дае такіх вялікіх укосаў травяной масы, якія атрымліваюцца з поплаву. Звычайна ў складзе травастою пераважаюць злакі—томка пахучая (Anthoxanthum odoratum L), мятлюжкі (Poa), мятліца (Agrostis), грэбнік звычайны (Cynosurus cristatus L) і г. д. або пераважае рознатраўе з дамешкаю злакаў і струкавых. Глеба вельмі часта бывае пакрыта мохавым насьцілам з зялёных імхоў.

Нізінныя лугі разьмяшчаюцца ў далінах дробных рэчак, у паніжаных, пазбаўленых сьцёку мясцовасьцях і г. д. Расьліннасьць гэтых лугоў у пераважнасьці асаковая, прычым пад паверхам асок разьвіваецца вельмі густы і пышны паверх з імхоў. Узвышаныя часткі нізіннага лугу набываюць значную дамешку злакаў і рознатраўя за кошт асаковых траў.

## IV. Расьліннасьць вадзбораў

Расьліннасьць вадзбораў зьяляўецца вельмі цікавай у тых адносінах, што ўмовы яе вырастаньня рэзка адрозьніваюцца ад умоў вырастаньня нашых звычайных расьлін. Субстратам, якім яны карыстаюцца,

зьяўляецца вада, і гэтыя ўмовы жыцьця накладаюць на расьліны вадазбораў рад характэрных спэцыфічных рысаў.

Калі мы будзем наглядаць расьліннасьць ад берагу, заўважым, што ўздоўж берагу, часта толькі вузкаю палоскаю разьмяшчаюцца расьліны, якія яшчэ нельга назваць воднымі. Звычайна гэта будуць буйныя асокі (Carex gracilis Curt, Carex pseudocyperus L). Разам з імі расьце чальчак звычайны (Lythrum salicaria L), бабок (Menyanthes trifoliata L).

У вадзе, бліжэй да берагу, разьмяшчаецца зарасьнік з аеру (Acorus calamus L) або чароту (Phragmites communis Trip) і сітняку (Scerpus lacustris L), часам у вадзе разьмяшчаецца тапяны хвошч (Equisetum). На паверхні стаячых вод раска (Lemna) утварае зялёныя плямы, якія часта закрываюць усю паверхню вады. Далей ад берагу на воднай паверхні плаваюць вялікія лісьці белай вадзяніцы (Nymphaea alba L і Nymphaea candide) і яе буйныя прыгожыя кветкі. Разам з ёю сустракаюцца збанкі жоўтыя (Nuphar liteum Sm) і плывунец звычайны (Utricularia vulgaris L). На больш глыбокіх мясцох разьмяшчаецца ўрэчнік плывучы (Potomogeton). Яшчэ глыбей знаходзім ужо зону вадаростаў.

На гэтым я і заканчваю кароткае апісаньне расьліннасьці БССР.

Расьліннасьць БССР зьяўляецца важнай сыравіннай базай краіны. Усе разгледжаныя намі тыпы расьліннасьці маюць вельмі важнае практычнае гаспадарчае значэньне. Лясы пакуль што зьяўляюцца асноўным багацьцем краіны і крыніцай сыравіны для многіх і многіх галін прамысловасьці БССР. Лес дае будаўнічы матар'ял, з драўніны выробляюць розныя рэчы і нават штучны шоўк для адзеньня. Лесам мы апальваем нашы памяшканьні ўзімку.

Балоты, пакрытыя травяністай расьліннасьцю (асокамі), перш за ўсё і вельмі часта выкарыстоўваюцца як сенажаці, што пры параўнаўча абмежаванай колькасьці добраякасных лугоў служыць падмогай для разьвіцьця ў БССР соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Такія балоты вельмі часта патрабуюць адпаведнай апрацоўкі і мэліораваньня для таго, каб падняць іх урадлівасьць і палепшыць якасьць травастою. Апрача таго, балоты даюць нам значныя паклады торфу, якія выкарыстоўваюцца для шмат якіх гаспадарчых патрэб—угнаеньне, ізоляцыя і інш.

Сфагнавыя балоты (імшары) карысны нязьлічонымі запасамі торфу, які зьяўляецца вельмі добрым апалам і ў бліжэйшым будучым зьявіцца асноўнай энэргетычнай базай БССР. Лугі, як крыніца натуральных кармоў, зьяўляюцца важным фактарам разьвіцьця нашай жывёлагадоўчай гаспадаркі. З іх асабліва поплаўныя лугі даюць значныя ўкосы вельмі добрага па якасьці сена і наяўнасьць гэтых лугоў, разам з іншымі мерапрыемствамі партыі і ўраду ў кірунку пашырэньня кармавое базы, вельмі спрыяе пасьпяховаму вырашэньню жывёлагадоўчай проблемы ў БССР.

Сярод нашай расьліннасьці—лясоў, лугоў, балот—знаходзім многа расьлін, якія карысны яшчэ і тым, што зьяўляюцца носьбітамі ці лекавых уласьцівасьцяў, ці дубільных матар'ялаў, якія шырака спажываюцца скураной прамысловасьцю БССР.

Спэцыфічныя магчымасьці і ўласьцівасьці раду расьлін БССР яшчэ да гэтага часу ня вывучаны. Адсюль аднэй з важнейшых задач краязнаўчых ячэек, гурткоў і асобных краязнаўцаў-дасьледчыкаў

зьяўляецца ўважлівае вывучэньне расьліннасьці БССР, што дасьць магчымасьць выяўленьня раду важных для нас новых расьлін, новай расьліннай сыравіны (лекавай, дубільнай, фарбоўнай, тэкстыльнай і інш.), якія з посьпехам выкарыстае наша соцыялістычная прамысловасьць. Апрача таго, дасканалае вывучэньне больш буйных расьлінных груповак, якімі зьяўляюцца балоты, лугі, лясы, дасьць магчымасьць выяўленьня іх сучаснага гаспадарчага стану, недахопаў, якія адпаведнымі мерапрыемствамі будуць зьнішчаны, што вельмі спрыяльна адаб'ецца на іх гаспадарчым значэньні і іх ролі ў соцыялістычным будаўніцтве.

**Ф. Стэфкін**

# Вынікі дасьледваньня вод калодзежаў некаторых раёнаў Палесься

Значэньне вады ў жыцьці чалавека відавочна для кожнага. Без вады чалавек ня можа прабыць і некалькі дзён, у той час, як бяз ежы можа прабыць і некалькі тыдняў. Вада ня ў меншай ступені патрэбна і для іншых жывёл, для расьлін, для розных галін вытворчасьці і г. д.

Пры ўжываньні вады для розных мэт да яе прад'яўляюць і розныя запатрабаваньні. У даным выпадку мы затрымаемся толькі на піцьцёвай вадзе, запатрабаваньні да якой такія: яна павінна быць прэснай, празрыстай, бясколернай (у тонкіх слаёх), бяз муці, бяз паху і прыемнай на смак. Не павінна быць мікраорганізмаў заразьлівых хвароб. Хэмічны склад вады павінен быць у межах пэўных існуючых норм. Вось нормы (па Ціману і Гэртнэру) некаторых толькі матэрый, якіх у літры вады не павінна быць больш, чым тут паказана:

| | |
|---|---|
| Цьвёрдай астачы пасьля выпарваньня | 500 мг |
| Органічных матэрый | 40— 50 мг |
| Хлёру (Cl) | 20— 30 „ |
| Сернай кіслаты ў выглядзе $SO_3$ | 80—100 „ |
| Окісі кальцыю і магнію (CaO і MgO)—агульнай жорсткасьці | 180—200 „ |
| Азотнай кіслаты ў выглядзе $N_2O_5$ | 5— 15 „ |
| Азоцістай кіслаты ў выглядзе $N_2O_3$ | сьляды |
| Аманіяку ($NH_3$) | сьляды. |

Для вывучэньня вады ў мэтах належнага яе скарыстаньня мной было праведзена (па заданьню Геолегічнага інстытуту БАН) дасьледваньне вод калодзежаў у некаторых пунктах Азарыцкага, Парыцкага, Мазырскага і Рэчыцкага раёнаў па ўказаным ніжэй маршрутам. Апрача фізычных уласьцівасьцяў (колер, празрыстасьць, пах, смак, ападак) вызначалася наступнае: рэакцыя(PH)—колёрымэтрычным мэтодам. Аманіяк ($NH_3$)—колёрымэтрычным мэтодам з рэактывам Нэсьлера, $N_2O_3$—паводле спосабу Грыса, $N_2O_5$—паводле спосабу Нольля, $SO_3$—пры дапамозе хлёрыоду барыю ($BaCl_2$)—якасная рэакцыя, жорсткасьць агульная—паводле спосабу Вінклера, жорсткасьць карбонатная—пры дапамозе салянай кіслаты (HCl), хлёр (Cl) — аб'ёмным спосабам паводле Мора, жалеза окіснае—колёрымэтрычным спосабам з раданістым каліем, жалеза закіснае—па розьніцы паміж агульнай і окіснай колькасьцямі жалеза:

Маршруты:

I. Ад м. Васілевічы Рэчыцкага раёну да в. Вязовіцы Мазырскага раёну.

II. Ад в. Вязовічы Мазырскага раёну да в. Славунь Азарыцкага раёну.

III. Ад в. Славунь, Азарыцкага раёну, праз в. Давыдаўку Азарыцкага раёну да м. Шацілкі Парыцкага раёну.

IV. Ад м. Шацілкі Парыцкага раёну да м. Горваль Рэчыцкага раёну.

Вада бралася згодна даным маршрутам у такіх пунктах (глядзі табліцу).

| №№ маршрутаў | №№ проб вады па парадку | Месца, дзе бралася вада | Калі бралася |
|---|---|---|---|
| I | 1 | Калодзеж Белага Хв., хут. Рубалкі, Васілевіцкага сельсавету, Рэчыцкага раёну . . . . . | 17/XI-30 г. |
| „ | 2 | Калодзеж старажоваго кварталу 58, Навікоўскага вучастку, Васілевіцкага с/с, Рэчыцкага раёну . . . | „ |
| „ | 3 | Калодзеж Гарбача В., в. Карма, Зеляноўскага с/с, Мазырскага раёну. . . . . . . . | „ |
| „ | 4 | Калодзеж Цімашэнка М., хутар Ляды, Зеляноўскага с/с, Мазырскага раёну . . . . . . | „ |
| „ | 5 | Калодзеж Пырх А., в. Вязовіцы, Ліпаўскага сельсавету, Мазырскага раёну. . . . . . | „ |
| „ | 6 | Калодзеж Пырх М., в. Вязовіцы, Ліпаўскага сельсавету, Мазырскага раёну . . . . . . | „ |
| II | 7 | Калодзеж Ліпаўскага саўгасу, Мазырскага раёну . | 19/XI-30 г |
| „ | 8 | Калодзеж Яскавец А., в. Многаверш, Ліпаўскага сельсавету, Мазырскага раёну . . . . . | „ |
| „ | 9 | Калодзеж Алісейкі П., в Ператокі, Ліпаўскага сельсавету, Мазырскага раёну . . . . . | „ |
| „ | 10 | Канава, у 0,5 кілёмэтра ад в. Ператокі, Мазырскага раёну ў кірунку в. Асташковічы . . . . | „ |
| „ | 11 | Калодзеж Захарчанка С., в. Асташковічы, Асташкоўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . . | „ |
| „ | 12 | Калодзеж Кручэнка, в. Асташковічы, Асташкоўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . . . | „ |
| „ | 13 | Калодзеж Гвозьдзя Ц., в. Славунь, Асташкоўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . . . | 20/XI-30г. |
| „ | 14 | Калодзеж Бочка, в. Славунь, Асташкоўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . . . . | „ |
| „ | 15 | Калодзеж Кузьмянка, урочышча Вазёры, Асташкоўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . . | „ |
| „ | 16 | Возера Славунь, 20 мэтраў ад берагу каля хутару Гвозьдзя Ц. . . . . . . . . | „ |
| III | 17 | Калодзеж Кузьмянка Кір., хут. Маліньне, Асташкоўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . | 21/XI-30г. |
| „ | 18 | Калодзеж Шышкіна Д., пасёлак Дальняя Роспаш Людвінаўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . | „ |
| „ | 19 | Калодзеж Пінчук М., в. Загор'е Людвінаўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . . . | „ |
| „ | 20 | Калодзеж Башкевіч Я., в. Загор'е, Людвінаўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . . . | „ |

| №№ маршрутаў | №№ проб вады па парадку | Месца, дзе бралася вада | Калі бралася |
|---|---|---|---|
| III | 21 | Калодзеж Музычэнка С., в. Загор'е, Людвінаўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . . . | 21/XI-30г. |
| " | 22 | Калодзеж Тамарына М., в. Давыдаўка, Людвінаўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . . . | " |
| " | 23 | Калодзеж Бяляўскага, в. Жэрдзь, Людвінаўскага сельсавету, Азарыцкага раёну . . . . . | " |
| " | 24 | Канава ў 0,25 кілёмэтра ад в. Кунья, у кірунку в. Жэрдзь . . . . . . . | " |
| " | 25 | Калодзеж Ліпскага К., в. Кунья, Чэрыкаўскага сельсавету, Парыцкага раёну . . . . . | " |
| " | 26 | Калодзеж Мігаль, хут. Язвы, Чэрыкаўскага сельсавету, Парыцкага раёну . . . . . . | " |
| " | 27 | Калодзеж Булацкага, в. Росава, Чэрыкаўскага сельсавету, Парыцкага раёну . . . . . . | " |
| " | 28 | Калодзеж Багданава Л. в. Росава, Чэрыкаўскага сельсавету, Парыцкага раёну . . . . . | " |
| " | 29 | Калодзеж Курскага, в. Рудня, Чэрыкаўскага сельсавету, Парыцкага раёну . . . . . . | " |
| " | 30 | Канава каля в. Рудня (вада ўзята каля мосту), Парыцкага раёну . . . . . . . | " |
| IV | 31 | Калодзеж Шпенец Кір., в. Якімава Слабада, Шацілаўскага сельсавету, Парыцкага раёну . . . . | 23/XI-30г. |
| " | 32 | Рэчка Сьвець, каля Рабога маста, Баравікоўскага сельсавету, Рэчыцкага раёну . . . . . | " |
| " | 33 | Калодзеж Гаўрыленка П., в. Селішча, Баравікоўскага сельсавету, Рэчыцкага раёну . . . . . | " |
| " | 34 | Калодзеж Шавяленка А., в. Селішча, Баравікоўскага сельсавету, Рэчыцкага раёну . . . . . | " |
| " | 35 | Калодзеж Драгун Пр., в. Чарнейкі, Рэчыцкага раёну . | " |
| " | 36 | Калодзеж Рылік М., в. Крапівіна, Дзюрдзейскага сельсавету, Рэчыцкага раёну . . . . . | " |
| " | 37 | Рака Бярэзіна, каля мястэчка Горваль, Рэчыцкага раёну . | " |

Прыводжу вынікі аналізаў (гл. табліцу), прычым разьлік вядзецца ў міліграмах матэры на 1 літар вады.

| №№ проб п/ч. | Колер | Празрыстасьць | Пах і смак | Apадак | Рэакцыя (PH) |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Слаба жоўты | Празрыстая | Нормальны | няма | 5,7 |
| 2 | " | " | гнілога дрэва | " | 5,4 |
| 3 | " | " | затхлы | " | 5,6 |
| 4 | бясколер. | тонкая муць | " | " | 5,6 |
| 5 | " | празрыстая | нормальны | " | 6,2 |
| 6 | " | " | " | " | 6,3 |
| 7 | " | " | затхлы | " | 6,2 |
| 8 | " | тонкая муць | " | " | 5,8 |
| 9 | " | празрыстая | нормальны | " | 6,0 |
| 10 | жаўтаваты | " | балотны | " | 6,0 |
| 11 | бясколер. | " | нормальны | " | 5,9 |
| 12 | " | тонкая муць | " | " | 6,2 |
| 13 | " | празрыстая | " | " | 5,9 |
| 14 | " | тонкая муць | затхлы | " | 5,3 |
| 15 | " | " | " | " | 5,3 |
| 16 | жаўтаваты | празрыстая, але ёсьць узваж. орг. м. | балотны | " | 6,2 |
| 17 | бясколер. | празрыстая | нормальны | " | 5,4 |
| 18 | " | слабая апалясцэнцыя | гнілога дрэва | нязначны | 5,4 |
| 19 | " | празрыстая | нормальны | няма | 5,2 |
| 20 | " | тонкая муць | " | нязначны | 6,1 |
| 21 | " | празрыстая | " | няма | 6,3 |
| 22 | " | белаватая муць | ненормальны | ёсьці 1/2 плот. 1/2 рыхл. | 6,0 |
| 23 | жаўтаваты | празрыстая | нормальны | няма | 6,1 |
| 24 | " | " | балоцісты | " | 6,1 |
| 25 | бясколер | " | нормальны | " | 5,4 |
| 26 | " | " | " | " | 5,8 |
| 27 | " | " | " | " | 6,2 |
| 28 | " | " | нормальны | " | 6,2 |
| 29 | " | " | зямлісты | " | 5,8 |
| 30 | жаўтаваты | " | " | " | 6,1 |
| 31 | " | " | нормальны | " | 6,3 |
| 32 | " | " | " | " | 6,6 |
| 33 | бясколер. | " | " | " | 6,3 |
| 34 | " | " | " | " | 6,2 |
| 35 | " | " | " | " | 6,0 |
| 36 | " | " | гнілога дрэва | " | 5,6 |
| 37 | жаўтаваты | " | земляністы | " | 6,6 |

| Амоніяк ($NH_3$) | Азоцістая к-та ў выглядзе $N_2O_3$ | Азотная к-та ў выглядзе $N_2O_5$ | Серная к-та | Жорсткасьць агульная (CaO+MgO) | Жорсткасьць карбонатная | Хлёр (Cl) | Окісь жалеза ($Fe_2O_3$) | Закісь жалеза (FeO) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1,0 | 0,2 | < 25 | стан. рэакцыя | 73,0 | 25,2 | 56 | > 0,1 | няма |
| 1,5 | 0,6 | < 25 | " | 56,0 | 28,0 | 129,5 | няма | " |
| 0,2 | 0,8 | < 10 | няма | 25,0 | 14,0 | 14,0 | 1,0 | " |
| 0,3 | 0,1 | < 10 | стан рэакцыя | 98,0 | 14,0 | 66,5 | няма | " |
| 0,1 | 0,1 | | " | 27,2 | — | 192,5 | 0,1 | " |
| 0,1 | 0,4 | < 25 | " | 246,0 | — | 175 | няма | " |
| 0,3 | >0,1 | 0,7 | " | 185,0 | — | 48 | > 0,5 | " |
| 0,2 | 0,3 | < 25 | " | 98,0 | 53,2 | 76 | няма | " |
| 0,4 | 0,4 | 1,0 | " | 110,0 | 98,0 | 39 | " | " |
| 0,1 | няма | няма | няма | 56,0 | — | 4 | 2,0 | " |
| 1,0 | 0,1 | 0,5 | стан. рэакцыя | 92,0 | 89,2 | 52 | няма | " |
| 0,1 | 0,3 | < 25 | " | 208,0 | 89,2 | 128 | " | " |
| 0,1 | 0,2 | < 10 | " | 162,0 | 160,0 | 175 | " | " |
| 0,2 | 0,5 | 0,7 | " | 56,0 | 44,8 | 35 | " | " |
| 0,5 | 0,4 | 0,5 | " | 42,0 | — | 17,5 | 0,5 | " |
| 0,3 | няма | няма | няма | 67,0 | 53,7 | 7,0 | 2,0 | " |
| 0,2 | 0,2 | < 10 | стан. рэакцыя | 64,0 | 11,2 | 42 | няма | " |
| 0,1 | 0,05 | < 10 | няма | 48,0 | 8,4 | 15 | 0,1 | " |
| >0,05 | 0,05 | < 25 | стан. рэакц. | 81,0 | 8,4 | 73,5 | няма | " |
| 0,5 | 0,8 | < 25 | " | 21,0 | — | 217 | 0,25 | " |
| 0,2 | 0,1 | > 25 | " | 198,0 | 134,4 | 87,5 | няма | " |
| 0,05 | 0,1 | < 25 | " | 95,0 | 70,0 | 80,5 | 0,1 | " |
| 0,5 | 0,4 | < 25 | " | — | 151,2 | 122,5 | 0,1 | " |
| 0,4 | няма | 0,5 | няма | — | 61,6 | 7 | 1,0 | " |
| 0,1 | 0,3 | < 25 | стан. рэакц. | 90,0 | 11,2 | 49 | няма | " |
| 0,2 | 0,3 | < 25 | " | 109,0 | 50,4 | 105 | " | " |
| 0,1 | 0,6 | < 25 | " | — | 137,2 | 70 | " | " |
| >0,5 | 0,2 | > 25 | " | — | 142,8 | 49 | " | " |
| 0,4 | 0,4 | < 25 | " | — | 39,2 | 56 | " | " |
| 0,3 | няма | няма | няма | — | 58,8 | 7 | " | " |
| 1,0 | 0,3 | 0,5 | стан. рэакц. | — | 78,4 | 35 | " | " |
| няма | няма | няма | няма | — | 58,8 | 7 | 0,5 | " |
| >0,5 | >0,1 | 1,0 | стан. рэакц. | — | 64,4 | 42 | няма | " |
| >0,5 | >0,1 | <10,0 | " | — | 204,4 | 105 | " | " |
| >0,5 | >0,1 | < 25 | " | — | 58,8 | 98 | " | " |
| 1,0 | 0,5 | 0,5 | " | — | 14,0 | 17,5 | 0,2 | " |
| — | няма | няма | " | — | 58,8 | 10,5 | няма | " |

Дасьледаваныя воды (у большасьці), паводле свайго хэмічнага складу, як гэта відаць з табліцы, значна разыходзяцца з прыведзенымі вышэй нормамі, характарызуючымі ваду ў сэнсе прыгоднасьці яе для піцьця. Асабліва гэта разыходжаньне (у бок павялічэньня) датычыцца такіх матэрый, як амоніяк, азоцістая і азотная кіслата і хлёр. А між тым гэтыя матэрыі якраз і зьяўляюцца грунтоўнымі паказальнікамі дрэннае якасьці вады. (Як ужо гаварылася, у даным выпадку закранаецца толькі якасьць вады ў сэнсе ўжываньня яе для піцьця).

Значная колькасьць хлёру ў вадзе (а ў даным выпадку з 37 проб вады маем 27 проб, у якіх колькасьць хлёру значна вышэй, чым указана ў нормах) пры адсутнасьці ў глебе данай мясцовасьці соляў, салянай кіслаты сьведчыць аб забруджанасьці вады мачою і іншымі вадкімі адкідамі чалавека і жывёлы.

Прымаючы пад увагу дрэнны санітарны стан, у якім знаходзіцца большасьць калодзежаў дасьледванай вады, прыходзіцца дапусьціць менавіта апошняе (забруджанасьць вады).

Прысутнасьць амоніяку, азоцістай кіслаты, азотнай кіслаты і асабліва разам і ў значнай колькасьці, як гэта і маецца ў дасьледаваных водах, таксама азнака таго, што вада мае многа органічных матэрый жывёльнага паходжаньня, якія, раскладаючыся, і даюць амоніяк, азоцістую і азотную кіслоты.

Гэтыя-ж органічныя матэрыі (паколькі яны жывёльнага паходжаньня) асабліва зьяўляюцца шкоднымі дамешкамі да вады. Яны могуць быць пераносчыкамі ад аднае жывёлы да другой розных выклікаючых хваробу мікроорганізмаў.

Такім чынам, дасьледваная вада ў значнай сваёй колькасьці (да 80 проц.), як піцьцёвая, зьяўляецца дрэннай.

Толькі што сказанае адносна дасьледванай вады (а забруджанасьць вады можна дапусьціць і ў іншых мясцох, яшчэ недасьледваных) ставіць востра пытаньне адносна палепшаньня вадазабесьпячэньня колгасаў і саўгасаў. Справу гэтую трэба зрушыць з таго стану, у якім яна знаходзіцца зараз. У нашых умовах, умовах соцыялістычнага будаўніцтва, кожная прычына, якая можа вывесьці працоўнага з строю і тым затармазіць соцыялістычнае будаўніцтва, павінна быць зараз-жа зьліквідавана. (А што дрэнная вада можа быць крыніцаю розных эпідэмічных захворваньняў—гэта само сабой зразумела).

У гэтым кірунку не малую ролю павінны адыграць мясцовыя краязнаўчыя організацыі з самым шырокім уцягненьнем у гэтую справу ў першую чаргу раённых дактароў і наогул мэдпэрсоналу, комсамольцаў, вучняў і г. д.

Устанаўленьне нагляду за існуючымі калодзежамі, а таксама ўдзел у пабудове новых—задача самая неадкладная.

Санітарны мінімум у гэтым кірунку можна параіць такі:

I. Адносна таго, дзе і як будаваць калодзежы:

1) Месца для калодзежу неабходна выбіраць на ўзвышшы або на зусім роўным месцы і ні ў якім разе ня ў нізіне, куды з больш высокіх месц будуць сьцякаць і псаваць ваду гразь, вадкія адкіды жывёл і інш. (каб быць упэўненым у наяўнасьці добраякаснай вады ў больш-менш глыбокіх слаёх зямлі, неабходна папярэдняя разьведка, разьведвацельнае бурэньне, што павінна быць зроблена спэцыялістам гэтае справы).

2) Адлегласьць калодзежу ад скотных двароў, прыбіральняў, выграбных ям павінна быць ня менш як 20—30 мэтраў.

3) Найлепшым матар'ялам для сьценак калодзежу зьяўляецца жалеза-бэтон (будзе найбольш чыстая вада). Калі-ж прыходзіцца для гэтых мэт скарыстоўваць дрэва, дык лепш для гэтага ўжываць сухі дуб, затым вяз, бярозу, альху, елку, сасну. Зруб павінен быць шчыльным і зьверху абкладзены пластом тлустай гліны глыбінёй да 1,5 мэтра і таўшчынёй да 0,5 м. і паднімацца над паверхняй зямлі каля 1 мэтра, каб гэтым самым папярэдзіць забруджаньне калодзежу водамі з паверхні.

4) Ад калодзежу ва ўсе бакі павінен быць схіл (каб не застойвалася вада).

5) На дно калодзежу кладзецца фільтруючая маса вышынёй ня менш 0,5 м, якая складаецца з пласту пяску сярэдняй велічыні, сярэдняга або буйнога пласту гравію і зьверху пласту булыжнага каменю. Пясок, граві і камень павінны быць папярэдне прамыты. Пры рыхлых грунтох дно калодзежу лепш рабіць з дошчак, з невялікімі атворынамі для затоку вады. У такім выпадку і калодзеж не заплывае і лягчэй рабіць чыстку.

II. Для аховы калодзежу ад забрудненьня неабходна:

1) Калодзеж зачыняць покрыўкай і абгароджваць плотам, каб у яго не трапляў пыл, сьмяцьцё і інш. і не хадзілі каля калодзежу жывёлы і не забруднялі ваду. Вадапой дазваляецца ня бліжэй чатырох мэтраў ад калодзежу.

2) Забараніць мыцьцё бялізны каля калодзежу, бо гэта небясьпечна з пункту погляду распаўсюджваньня заразьлівых хвароб.

3) Для набору вады з калодзежу патрэбна вядро агульнага карыстаньня і ні у якім разе нельга дапушчаць каб вада з калодзежу бралася ўласнымі вёдрамі кожнага, бо гэта заносіць у ваду бруд, заразу і інш.

4) Яшчэ лепш прыстасаваць помпу і помпаю даставаць ваду з калодзежу.

5) Патрэбна час ад часу чыстка калодзежу, якая ў большасьці робіцца ў канцы зімы і зводзіцца да выдаленьня бруду з дна калодзежу і засыпаньня новага фільтру ці перамены дошчак на дне калодзежу.

Урэшце прыходзіцца адзначыць, што самае лепшае, калі ў вялікіх савгасах будзе ставіцца і вырашацца station пытаньне адносна пабудовы вадаправодаў, хаця-б спэцыяльна сельскага тыпу. Усе прадпасылкі для гэтага ёсьць, трэба толькі гэтую справу штурхаць і праводзіць у жыцьцё.

Н. Д.

# Стан і чарговыя задачы аховы соцыялістычнага ўраджаю БССР ад шкоднікаў і хвароб

Барацьба са стратамі ў соцыялістычнай сельскай гаспадарцы, у тым ліку і барацьба са шматлікімі шкоднікамі і хваробамі сельскагаспадарчых культур, у агульнай дзяржаўнай сыстэме на ўздыму ўраджаю павінна адыгрываць значную ролю. І гэта зусім зразумела, калі ўлічыць, што ад шкоднікаў і хвароб кожны год па СССР, па даным АБШ пры НКЗ СССР, зьнішчаецца каштоўнасьцяў на суму звыш 3 млрд рублёў. З гэтага ліку ў БССР мы маем наступныя страты.

У 1930 г. сартавога аўсу было зьнішчана галаўнёй 12.492 ц пры сярэдняй заражонасьці 3,85 проц. (даныя апробацыі), у 1931 г. недабор ураджаю сартавога аўсу выразіўся ў 4.930 ц. Усяго па БССР у 1931 г. недабор аўсу, дзякуючы распаўсюджанью галаўні, выразіўся ў 122.802 ц (пры стратах у 3 проц), што ў пераводзе на грошы складае суму ў 859.614 р. (пры цане 7 р. за 1 ц.). Недабор ураджаю пшаніцы ад галаўні ў 1931 годзе па БССР вылічваецца ў 13.876 ц, ячменю—35.538 ц.

Шкоднікі зьнішчаюць кожны год аўсу на суму каля 2.456.094 рублёў, ячменю на суму—1.066.170 р., пшаніцы на суму 7.690 руб., жыта на суму 4.891.636, а часамі дзесяткі соцень *га* ўраджаю зьнішаюцца цалкам (рапсовы пільшчык у 1931 г. і г. д.). У гэтых сумах зусім ня ўлічаны страты ад сьвірнавых, амбарных шкоднікаў і страты ад іржы збожжавых культур, мучністай расы, спарыньні (ражкоў), сьнежнай цьвілі і інш.

Увогуле па паляводзтву страты (тут уключаецца: жыта, пшаніца, ячмень, авёс, лён, проса, грэчка, бабовыя травы) ад шкоднікаў складаюць 12.000.000, ад хвароб—28.000.000 руб., усяго 40.000.000 руб.

Паводле падлікаў Беладдзяленьня АБШ гэтая сума павялічваецца амаль у два разы. Калі-ж узяць такую культуру, як бульба, дык страты ад хвароб і шкоднікаў па ёй больш, чым агульная сума страт па паляводзтву, а менавіта: яны роўны—48 млн руб. Таму зусім правільна пісаў Энгельс „что значит золотуха в сравнении с тем голодом, который постиг в 1847 г., вследствие болезни картофеля, Ирландию. Следствием этой катастрофы была смерть одного миллиона и вынужденная эмиграция за океан двух миллионов питающихся лишь картофелем, или почти только картофелем, ирландцев“ (Энгельс—Диалектика природы, стар. 71, изд. 1930 г.). У якім-жа стане на сёнешні дзень знаходзіцца справа аховы соцыялістычнага ўраджаю ў БССР? Ці забясьпечвае яна выкананьне пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб веснавой сяўбе 1932 г. (пункт аб шкодн. і хваробах).

Атрутамі АБШ забясьпечана толькі на 20 проц., апаратурай на 50 проц., з іх галоўным чынам ручной і часткова коннай. Вапны Дзяржснаб зусім не адпускае і, такім чынам, апырскваньне садоў зрываецца. Замест патрэбных 334 працаўнікоў маецца ўсяго 245, прычым асоб 20—30 трэба лічыць сярэдне падрыхтаванымі, падрыхтоўка-ж астатніх нездавальняючая. Навукова-дасьледчая работа па ахове расьлін пастаўлена зусім дрэнна. Так, калі ў 1931 г. пасьля рэорганізацыі станцыі аховы расьлін былі ў асноўным укомплектаваны ўсе аддзелы станцыі аховы расьлін і спэцыялізаваных станцый (садова-гародныя, лён, канапель, зернавыя, бульбяная), дык у 1932 годзе няма энтомолёга для зернавой станцыі, няма фітапатолёга на садова-гароднай станцыі, няма энтомолёга на станцыі лёну і канапель. Не ўкомплектаваны аддзел аховы расьлін на бульбянай станцыі. Патрэбна 15 спэцыялістаў для дзяржаўнай службы вучоту, ня менш 3 спэцыялістаў па карантыну і зусім не вядзецца ніякай работы па ахове лясоў ад шкоднікаў і хвароб.

Усё вышэйсказанае патрабуе тэрміновых і рашучых мер. Да галоўных з іх трэба аднесьці:

1. Неабходнасьць зьнішчэньня нядбайных адносін да агротэхнікі і да профіляктыкі. Як гаспадарчыя організацыі, савгасы, колгасы, а таксама нізавыя зьвеньні і АБШ (МЗС) агротэхніцы павінны аддаваць належную ўвагу, бо агротэхніка і профіляктыка адыгрываюць вялікую ролю ў памяншэньні распаўсюджваньня шкоднікаў і хвароб. Калі, напрыклад, у садоўніцтве яна (агротэхніка) пры барацьбе са шкоднікамі ўкаранілася (як, напрыклад, абмазка, абрэзка, збор лісьця і г. д.) і зьяўляецца неабходнай часткай гаспадарчай работы, дык у паляводзтве яна ўжываецца вельмі мала. Гэта цалкам адносіцца і да хэмічных мэтодаў барацьбы са шкоднікамі. Трэба неадкладна выпрацаваныя ўсебеларускім агрозоотэхнічным зьездам агроправілы па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі ў сельскай і лясной гаспадарцы зацьвердзіць урадам. Зрабіць іх абавязковымі для ўсіх савгасаў, колгасаў і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і на працягу двух дэкад давесьці да двара (савгас, МТС, колгас).

2. Пастанова НКЗ СССР ад 4/VIII-31 г. аб ліквідацыі галаўні на працягу 3-х год зусім ня выконваецца. Трэба скласьці конкрэтны плян ліквідацыі галаўні ў БССР, выходзячы з пастановы НКЗ СССР. Работу контрольных насенных станцый, зернавых станцый і інш. падпарадкаваць гэтай важнейшай задачы.

3. Да гэтага часу ня было організавана ніякай карантыннай службы і цяпер маецца толькі 1 інспэктар на ўсю БССР. Наяўныя матар'ялы сьведчаць аб пагрозе заносу такіх страшэнных шкоднікаў і хвароб, як, напрыклад, бульбяны рак (з Польшчы), колёрадзкі жук і інш. Трэба тэрмінова організаваць карантынныя ўчасткі пры ўсіх дасьледчых станцыях, організаваць карантынавы нагляд за грузамі, якія ідуць з-за мяжы. Організаваць карантынную лябораторыю ў Менску. Лік карантыннай інспэктуры давесьці ня менш як да пяці асоб. На організацыю лябораторый, карантынных вучасткаў неабходна адпусьціць для Бел. АБШ 30.000 р.

4. Трэба выпрацаваць сыстэму мерапрыемстваў па ліквідацыі хвароб бульбы. У першую чаргу павінен быць ліквідаваны бульбяны грыбок (Phylophshora infestans). Для ліквідацыі бульбянога грыбка трэба распрацаваць на працягу 1932 г. пытаньне ўжываньня асоавіяхэммэтоду. Другая хвароба бульбы, якая мае вялізарны адмоўны ўплыў на ўраджай, гэта чорная ножка. Тут патрэбна ўсебаковае выву-

чэньне способаў змаганьня з гэтай-жа хваробай. Трэцяя, ня менш шкодная група хвароб, гэта так званых мозаічных захворваньняў. Для пасьпяховай барацьбы з усімі гэтымі хваробамі патрэбна ўкомплектаваць аддзел аховы расьлін бульбянай станцыі (даць яшчэ аднаго фітапатолёга і энтомолёга), зьвярнуцца ў НКЗ СССР з прапановай аб выпрацоўцы цэлай сыстэмы мерапрыемстваў па ліквідацыі бульбяных захворваньняў у СССР.

5. Па лёну. Галоўнымі захвораньнямі лёну зьяўляюцца: іржа лёну, фузарыоз, антракноз. Тут трэба таксама выпрацаваць цэлую сыстэму мэрапрыемстваў па ліквідацыі хвароб лёну. Іржа, як найбольш шкодная хвароба лёну, павінна быць ліквідавана ў першую чаргу, і гэта можна зрабіць авіяхэммэтодам, але гэтае пытаньне трэба прапрацаваць, што і павінен зрабіць Аддзел аховы расьлін Горацкай станцыі. Трэба прыняць усе захады да недапушчаньня вельмі шкоднай хваробы лёну (яе яшчэ няма ў БССР), якая носіць назву „Пасмы". Тут зноў такі справа ўпіраецца ў карантын.

6. Пытаньне з апаратурай, атрутамі стаіць нездавальняюча. Трэба зьвярнуцца ў НКЗ СССР, а галоўнае выкарыстаць наяўныя сродкі ў БССР для забесьпячэньня атрутай і апаратурай, бо тое становішча, што Дзяржснаб, ня гледзячы на своечасовыя заяўкі Бел. АБШ, не адпускае вапны, зрывае работу па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі саду, лішні раз паказвае, як адносяцца да работы аховы соцыялістычнага ўраджаю паасобныя ўстановы і асобы. Трэба прымусіць Дзяржснаб адпусьціць Бел. АБШ вапны, АБШ прапанаваць найлепш падлічыць наяўныя сродкі для змаганьня з хваробамі і шкоднікамі ўраджаю.

7. З кадрамі справа стаіць дрэнна. НКЗ БССР трэба сур'ёзна заняцца гэтым пытаньнем—мобілізаваць для сыстэмы Бел. АБШ ня менш як 20 аграномаў (10 з вышэйшай адукацыяй, 10 з сярэдняй), прапусьціўшы іх папярэдне праз двухмесячныя курсы.

8. Навукова-дасьледчая работа ў гэтай галіне знаходзіцца зусім у нездавальняючым стане. Колькасьць навукова-дасьледчых працаўнікоў за 1931-32 год не павялічылася, а зьменшылася на 4 працаўнікі (усяга было 12). Для гэтай галіны рыхтуецца ўсяго толькі адзін асьпірант. Патрэбна зараз-жа з ліку скончыўшых с/г ВНУ навербаваць ня менш 10 асоб асьпірантаў па ахове расьлін і ня менш 5 таварышоў мобілізаваць з ліку практычных працаўнікоў.

Краязнаўчыя ячэйкі колгасаў, саўгасаў, МТС і асобныя краязнаўцы ў галіне організацыі барацьбы са стратамі ў сельскай гаспадарцы павінны адыграць значную ролю. Члены краязнаўчых ячэек адыграюць значную ролю перш за ўсё як шырокая сетка дапаможнікаў АБШ на мясцох. Яны дадуць для АБШ багаты матар'ял па апісаньню зьяўляючыхся ў іх мясцовасьцях шкоднікаў і хвароб сельска-гаспадарчых расьлін і падзеляцца багатаю практыкаю барацьбы з імі там на мясцох.

Трэба толькі рашуча ўзяцца за гэтую справу.

М. Гельлер

# Новае па трыхінэлёзу

*(Інстытут біолёгіі БАН).*

Барацьба з глістымі хваробамі, так званымі гельмінтозамі, мае вялікае значэньне як для здароўя насельніцтва, так і жывёлагадоўлі для палепшаньня адходу.

Правільная пастаноўка барацьбы з гельмінтозамі магчыма толькі пры самай шчыльнай сувязі вэтэрынарных мэдычных работнікаў і біолёгаў. Неабходнасьць падобнага супрацоўніцтва падкрэсьлівалася і на першай Усесаюзнай нарадзе гельмінтолёгаў, якая адбылася вясною 1930 г. у Маскве.

Адным з такіх гельмінтозаў, якія вымагаюць асаблівае ўзгодненасьці ў рабоце памянёных трох галін навукі, зьяўляецца так званы трыхінэлёз, які выклікаецца маленькай мікроскопічнай глістой трыхінэляй (Trichinella). Трыхінэлёз у БССР значна больш пашыраны, чымся ў іншых мясцовасьцях нашага Саюзу, што асабліва падкрэсьлівае актуальнасьць барацьбы з гэтым гельмінтозам.

Калі трыхінэлёз у людзей прыцягвае спэцыяльную ўвагу мэдыцынскага пэрсоналу ў зьвязку з цяжкасьцю працяканьня гэтай хваробы ў людзей, якая канчаецца часта сьмерцю, вэтэрынарыя задавальняецца ў той-жа час скромнаю рольлю трыхіноскопіі сьвінога мяса, праз якое людзі заражаюцца. Барацьба з трыхінэлёзнай эпізоотыяй на сёнешні дзень зусім не распрацавана.

Трыхінэлёзам людзі звычайна заражаюцца паядаючы сьвіное трыхінэлёзнае мяса. Сьвіньні заражаюцца ад трыхінэлёзных пацукоў, кошак і сабак.

Калі трыхінэлёз людзей вельмі часта канчаецца летальна, г. зн. сьмерцю, трыхінэлёз сьвіней праходзіць бяз усякіх асаблівых хваравітых зьяў і часьцей за ўсё не заўважаецца вэтпэрсоналу, дзякуючы мікроскопічнай велічыні глісты. Ва ўсякім выпадку лябораторныя жывёлы, асабліва белыя пацукі, вельмі ўспрыймальны да гэтае хваробы і лёгка гінуць як ад кішэчнай, так і мускульнай стадыі трыхінэлёзу. Пры гэтым заўважаецца, асабліва на трэція-чацьвертыя суткі, цеча крыві з роту і носу.

Клінічная праверка трыхінэлёзу над сьвіньнямі амаль што не праведзена.

Правільнае вырашэньне пытаньня барацьбы з трыхінэлёзам у людзей і жывёл як профіляктычна, так і тэрапэўтычна (тэрапія трыхінэлёзу, між іншым, зусім не распрацавана і звычайна далей лячэньня рыцінай мэдыцына не пайшла) магчыма толькі пры правільным высь-

вятленьні біолёгіі глісты. Апошняя, на жаль, не пайшла яшчэ далей даных Лёйкарта і Вірхова, дапоўненых данымі Штойблі ў сваёй манографіі аб трыхінэлёзе і многа прабелаў у біолёгіі трыхінэлі яшчэ не запоўнена.

З дасканаласьцю вядома толькі, што трыхінэлі, трапляючы разам з мясам у организм гаспадара, нараджаюць жывых дзіцянят у лімфатычныя судзіны і адтуль, у далейшым, лічынкі разносяцца крыватокам у паскаватыя цягліцы. Улюбёнымі цягліцамі для трыхінэль зьяўляюцца звычайна ножкі дыяфрагмы, міжрабровыя, міжпазванковыя і жавальныя цягліцы. Ужо на 8—10 дзень младатрыхінэль знаходзяць у цягліцах.

З прычыны таго, што, трапляючы ў цягліцы, лічынкі нямногім адрозьніваюцца па сваёй вялічыні ад народжаных саміцай трыхінэль у сьценках кішэчніку, устанавілася думка, што нараджэньне трыхінэль пачынаецца на 7—9 суткі, а пасьля 14-15 дзён трыхінэлі ў кішэчніку гаспадара гінуць, прычым самцы нібы яшчэ раней зьнікаюць.

Перадрукоўваючы з аднэй працы ў другую, з аднаго падручніка ў другі, у літаратуры лічылі звычайна цыкль разьвіцьця трыхінэлі такім: трапіўшы ў кішэчнік, лічынка аслабаняецца ад капсулі праз 24 гадзіны, на трэція суткі яна дасягае родавай дасьпеласьці і запладняецца, затым саміцы ўкараняюцца ў кішэчныя варсінкі і пачынаюць нараджаць сваіх дзіцянят, як ужо гаварылася, на 7—9 суткі (Брэмпт, Бэйліс, Іеркс і інш.).

Распачаўшы вывучэньне трыхінэлі, у прыватнасьці дабіваючыся прычын акту жыванараджэньня ў яе (трыхінэля, між іншым, пакуль што адзіная вядомая кішэчная гліста, якая нараджае жывых дзіцянят, а не адкладае яечкі), прышлося пераканацца ў тым, што літаратурныя даныя вымагаюць значных паправак.

Ставячы досьледы над лябораторнымі жывёламі (пацукамі, марскімі сьвінкамі і кошкамі), прышлося констатаваць зусім іншыя суадносіны паміж часам паяданьня трыхінэлёзнага мяса і разьвіцьцём трыхінэлі. Спэцыяльна распрацаваным аўтарам у Ляборатарыі экспэрымэнтальнае біолёгіі ў Маскве ў проф. М. Завадоўскага мэтодам калёдыяльных мяшэчкаў паказана, што мускульныя трыхінэлі разьвіваюцца ў кішэчніку выключна пры прымацоўваньні да сьценак яго. Прымушаючы кошак глынаць трыхінэлёзнае мяса вольнае і такое-ж мяса, заключанае ў калёдыяльных мяшэчках (капсулі правяраліся на прапускальнасьць страўнічых сокаў), атрымлівалі вынікі, што трыхінэлі вольныя дасканальнейшым чынам дасягалі родавай дасьпеласьці і пачыналі нараджаць дзіцянят, у той час як у калёдыяльных мяшэчках ніякага разьвіцьця трыхінэль не заўважвалася ў працягу 96 гадзін, хаця-ж некаторыя з іх заставаліся жывымі.

Далейшыя праверкі са скармліваньнем трыхінэлёзнага мяса пацуком, праведзеныя ўжо ў Менску, пацьвердзілі гэтыя даныя. Ужо праз гадзіну пасьля скармліваньня пацуком інкапсуляванага трыхінэлёзнага мяса знаходзім вольных трыхінэль у тонкім аддзеле кішэчніку. Праз 24 гадзіны ўжо наступае родавая дыфэрэнцыроўка паразыта. К 48 гадзінам мы маем разьвіваючыхся лічынак у матцы саміцы, а праз 80—90 гадзін можна пад мікроскопам у вынутых з кішэчніку саміц трыхінэль назіраць нараджэньне моладзі.

Гістолёгічныя зрэзы фіксаваных трыхінэлёзных частак кішэчніку пацука поўнасьцю пацьвярджаюць даныя калёдыяльнага мэтоду. Ужо праз 12 гадзін пасьля скармленьня пацуку паражонага мяса можна на зрэзах убачыць трыхінэлі, укараніўшыяся ў варасінкі кішэчніку. На зрэ-

зах, зробленых праз 3-4 сутак пасьля інвазіі, відаць як трыхінэлі ўкараняюцца значна глыбей, а саміцы звычайна перапоўнены лічынкамі. У прасьвеце кішок ні ў першым ні ў другім выпадках непрымацаваных рабачкоў знайсьці не ўдаецца.

Гэтыя даныя поўнасьцю пацьвярджаюць, што разьвіцьцё трыхінэлі магчыма толькі пры прымацоўваньні іх да сьценак кішэчніку. Гэтым таксама тлумачыцца, між іншым, бязрэзультатнасьць спроб лячыць людзкі трыхінэлёз расьлінай.

Мэханічны спосаб лячэньня сапраўды павінен быць заменены больш радыкальным хэмічным. Спробы па гэтай лініі робяцца.

Чым-жа тлумачыць патрэбу трыхінэль для далейшага разьвіцьця ў прымацоўваньні да сьценак кішэчніку? Проф. М. Завадоўскі выказвае думку, што гэта выклікаецца неабходнасьцю для разьвіцьця трыхінэль атрымаць адкуль-небудзь кісларод, бо ў прасьвеце кішэчніку кіслароду няма,—паразыт атрымлівае яго ад тканак свайго гаспадара, прымацоўваючыся да іх. Бязумоўна, няверна зьвесьці разьвіцьцё трыхінэль да аднаго кіслароду, але-ж не падлягае сумненьню, што кісларод адыгрывае вялікую ролю, пры гэтым, у прыватнасьці, успомнім, што ўлюбёнымі месцамі ў цяглічных трыхінэль якраз зьяўляюцца цяглiцы, якія найбольш змываюцца крывёю, і, такім чынам, найбольш багаты на кісладрод.

Прыведзеныя новыя даныя да біолёгіі трыхінэль ставяць перад намі рад новых пытаньняў і проблем у гэтай галіне, напрыклад: чым тлумачыць, што лічынкі трыхінэль зьяўляюцца ў цягліцах гаспадара толькі на 8—10 суткі пасьля інвазіі?

Як адбываецца процэс нараджэньня трыхінэль, калі яны знаходзяцца ў тканцы кішэчніку?

Ці ня маецца ў організьме нейкі бар'ер, які затрымлівае расьсяленьне трыхінэль па целе?

Па гэтым пытаньням павінны быць наладжаны масавыя досьледы краязнаўчых організацый БССР і асобных краязнаўцаў (мэдработнікаў, біолёгаў, настаўніцтва, зоотэхнікаў, студэнтаў, вучняў і наогул усіх зацікаўленых).

Проблема шляхоў міграцыі лічынак стаіць і перад ляборатoрыяй Інстытуту біолёгіі БАН. Тут хацеў-бы яшчэ адзначыць няправільнасьць думкі, што самцы хутка пасьля запладненьня саміц зьнікаюць з кішэчніку; мне прышлося неаднакраць назіраць і самцоў і саміц яшчэ праз 29 дзён пасьля інвазіі. Пры гэтым саміцы і да гэтага часу бывалі запоўнены лічынкамі, значыцца, нараджэньне яшчэ адбываецца і да гэтага часу.

Пры цэнтрафугаваньні размолатых лёгкіх, сэрца і пячонкі ўдавалася знаходзіць раней мечаных лічынак.

Біолёгія трыхінэль, такім чынам, павінна быць перагледжана. Новыя даныя павінны быць выкарыстаны для правільнай пастаноўкі барацьбы з трыхінэлёзам людзей і жывёл.

Мінковіч

# Рацыяналізатарскія прапановы аб скарыстаньні лясных адкідаў

Па старым традыцыйным мэтодам работ чыгуначны шлях узаконіў для сябе назаўсёды скарыстаньне самае лепшае драўніны, нават там, дзе зусім магчыма абыйсьціся самым звычайным, менш каштоўным матар'ялам.

Вазьмеце факт скарыстаньня самых лепшых роўных камлістых бярвеньняў на тэлеграфныя слупы, у той час, калі ў Амэрыцы для гэтай мэты скарыстоўваюцца, і гэта ня шкодзіць справе, самыя нізкаякасныя, сукаватыя, нягодныя для расьпілоўкі бярвеньні.

Для сталых агарож ля чыгункі скарыстоўваюць востра-дэфіцытны абразны піламатар'ял, які з вялікім посьпехам па сваёй якасьці і разьмерам, бясспрэчна, мог-бы быць скарыстаны на розныя тарныя матар'ялы.

Многа выдаткоўваецца востра-дэфіцытных тонкамерных, вельмі каштоўных абразных піламатар'ялаў, для зьбіўкі сьнегавых шчытоў, у той час калі для гэтай мэты, бязумоўна, можна скарыстаць самыя нягодныя адкіды ад лесапільнае вытворчасьці.

Дагэтуль яшчэ практыкуецца, што для нарыхтоўкі шчытавых плянак лесапільныя заводы па заданьням цэнтру расьпілоўваюць спэцыяльную сыравіну, брусуюць калоды на патрэбны разьмер па шырыні плянкі, а пасьля пускаюць у другі раз у лесапільную раму, якая ўжо расьпілоўвае на тонкія 13 мм дошчачкі. Паказаныя дошчачкі атрымліваюцца звычайна доўгімі, бо калоды падаюцца з лесу да лесапільных заводаў доўгацьцем, такім чынам, гэтыя дошчачкі прыходзіцца разразаць на кароткія і рабіць шчытавую плянку ў комплектах.

Гэты мэтод расьпілоўкі і раскражоўкі дошчак на кароткія, тонкія і вузкія разьмеры цягне за сабою, па-першае, зьмяншэньне агульнага карыснага выхаду піламатар'ялаў, прыкладна на 18—20 проц. у адносінах да расьпілоўкі звычайных дошчак, а, па-другое, зьніжае вытворчасьць лесапільнае рамы таксама процантаў на 20—25.

Гадавая патрэбнасьць самых бліжніх да Беларусі ўчасткаў чыгункі ў шчытавой плянцы складае прыблізна ад 8.000—10.000 куб. м піламатар'ялаў.

Ня лічачы больш аддаленых участкаў, якія таксама карыстаюцца беларускай драўнінай, для выкананьня самай мінімальнай колькасьці шчытавой плянкі, якая зьяўляецца абавязковай для Беларусі, трэба расьпіліць ня менш як 22.220 куб. м добраякаснай спэцыяльнай хваёвай сыравіны.

Улічваючы, што ад кожнага куб. мэтра сыравіны маецца страта ў выхадзе піламатар'ялаў каля 20 проц. страта з 22.220 куб. м складае прыблізна 4.444 куб. м піламатар'ялаў.

Кошт аднаго кубамэтра піламатар'ялаў у сярэднім складае прыблізна каля 38 руб.

Такім чынам, гэтая страта ў абсолютных лічбах выражаецца 4.444×38=168.872 рубл. Апрача гэтае страты трэба прылічыць ня менш як тры рублі лішніх выдаткаў і кошту апрацоўкі кожнага кубамэтра піламатар'ялаў, дзякуючы зьніжэньню вытворчасьці працы пры гэтым варыянце расьпілоўкі. Тут мы таксама маем страту ў 4.444×3=13.332 рубл.

Агульная гадавая страта па беларускай лясной прамысловасьці ад нарыхтоўкі паказанай колькасьці шчытавое плянкі складае прыблізна 168.872+13.332=182.204 рубл.

Апрача грашовых затрат мы пазбаўляем нашу беларускую прамысловасьць паказанай колькасьці—4.444 куб. м дэфіцытных піламатар'ялаў, у той час калі гэткія можна было-б замяніць зусім нягоднымі адкідамі ад лесапільнае вытворчасьці.

Да гэтага разьліку трэба дадаць, што пры правільнай пастаноўцы справы расьпілоўкі лесу, пры наяўнасьці сталага заказу на гарбыльную шчытавую плянку і ў мэтах больш рацыянальнага скарыстаньня драўніны, выходзячы з разьліку ў сярэднім 35 проц. брусоўкі, магчыма бясспрэчна атрымаць, як дадатковы выхад, ня менш як 2 вузкія плянкі ад кожнага расьпілаванага бервяна. Сярэдні разьмер плянкі 2 м×80 мм×13 мм.

Трэст „Белдрэў" мае расьпілаваць у 1932 годзе 1.200.000 кубамэтр. сыравіны, таксама нетрэставаная прамысловасьць па Беларусі каля 300.000 куб. м сыравіны, а ўсяго 1.500.000 куб. м.

Выходзячы з сярэдняга дыямэтру бервяна 23-24 см., у кожным кубамэтр. маецца 3 бервяны, а з 1.500.000 куб. м атрымліваем 4.500.000 штук.

З кожнае штукі па 2 плянкі вышэйпаказанага разьмеру 2 м×80 мм×13 мм складае 9.000.000 плянак, а пры пераводзе на кубамэтр. мы атрымліваем ад гэтага мэтоду расьпілоўкі і рэалізацыі пілапродукцыі 18.720 кубамэтраў.

Гэтая продукцыя адпускаецца па цане 28 р. 62 к. за кубамэтр, замест 38 р. 15 к. за спэцыяльныя піламатар'ялы для шчытавой плянкі.

З цаны 28 р. 62 к. трэба зьняць 6 р. за апрацоўку плянак на ўпорных варштатах, падвозка і г. д.—28 р. 62 к.—6 р.=22 р. 62 к.

Такім чынам, беларуская лясная прамысловасьць можа атрымаць дадатковую гадавую прыбыль ад эксплёатацыі сваіх лясоў (18.720×22.62)—423.464 рубл., а разам з папярэдняй вышэйпаказанай сумай у 182.204 р. складае 605.668 рубл.

Калі падыйсьці да падлікаў працы ўсіх лесапільных рам па ўсяму Саюзу, дык мы іх налічваем каля 1.000 штук.

Пры больш асьцярожным падліку будзем лічыць працаздольных 900 лесапільных рам. Кожная з іх выпрацоўвае ў сярэднім ня менш як 30 куб. м сыравіны ў зьмену. Лічыць, што ў сярэднім кожная рама працуе ў 2 зьмены×30 куб. м=60 куб. м.

Колькасьць рабочых дзён у годзе будзем лічыць—280.

900 рам×2 зьмены=1800 рама-зьмен штодзенна.

1800 рама-зьмен×280 дзён=504.000 рама-зьмены ў годзе.

504.000 рама-зьмены×30 куб. м=15.120.000 куб. м сыравіны.

15.120.000 куб. м$\times$3 шт.=45.360.000 штук бярвеньняў.

45.360.000 шт. бярвеньняў$\times$2 плянкі=90.720.000 плянак.

90.720.000 плянак$\times$2 м$\times$80 мм$\times$13 мм=188.697 кубамэтр.

188.697 кубамэтр. па цане 22 р. 60 к.=4.264.552 рубл.,

г. зн. гадавая экономія можа выразіцца па ўсяму Саюзу ў суме 4.264.552 рубл.

Гэтае ненормальнае становішча—спэцыяльная расьпілоўка бярвеньняў на шчытавую плянку, ніколі не давала магчымасьці забясьпечыць чыгуначнага шляху сьнегавымі шчытамі і ад найменшых сьнегавых заносаў, транспорт цярпеў вялізарныя страты і перабоі ў нормальным руху. Гэтыя страты ўжо не паддаюцца вучоту, але вядома, што такія зьявішчы кваліфікуюцца як палітычна-гаспадарчыя непаладкі.

Старыя консэрватары чыгуначнікі з гэтым лічыцца не жадаюць, а робяць па-свойму. Патрабуюць ад лясное прамысловасьці самую лепшую драўніну і выкарыстоўваюць яе па-свойму—там дзе трэба і ня трэба.

Што намі зроблена ў апошні час у гэтым кірунку, каб зьнішчыць усе вышэйпаказаныя зьявішчы і каб забясьпечыць поўнасьцю чыгунку шчытавой плянкай больш упрошчанага і даступнага тыпу.

У маі м-цы мінулага (1931) году мною прыдуманы і за даволі доўгі час распрацаваны проект нарыхтоўкі шчытавых плянак з гарбыльных тонкамерных абразных па шырыні абапалаў і іншых адкідаў ад лесапіленьня.

На падставе гэтага проекту мною праароблены спробныя расьпілоўкі, быў сконструяваны сьнегавы шчыт у натуральным яго выглядзе, які зьбіт на заводзе „Дрэваапрацоўшчык" у гор. Менску з плянак, нарыхтаваных з адкідаў і тонкамерных абапалаў.

З гэтым проектам трэст „БЕЛДРЭЎ" у першую чаргу зьвярнуўся да свайго асноўнага спажыўца—Запжэлдорстрой, з якім ён меў дагаворныя адносіны па пастаўцы яму вядомае колькасьці шчытавых комплектаў. Апошні пасьля доўгіх перапісак конкрэтнага нічога не адказаў, а ўсімі спосабамі стараўся сваімі яўнымі консэрватарскімі вылазкамі адмахнуцца ад гэтага мэтоду нарыхтоўкі шчытавое плянкі, раней патрабаваў узораў, якія ён паслаў у Маскву, а потым, не знайшоўшы іншага выхаду, зусім адмовіўся ад закупкі шчытавой плянкі, мотывуючы, што гэткая яму зусім цяпер непатрэбна, а фактычна гэта было ня так.

Жадаючы прасунуць гэту рацыяналізатарскую прапанову, мною зроблены іншыя ўзоры, якія прад'яўлены на агляд беларускім органам НКПС.

Апошнія—г. зн. II дыстанцыя пуці МББ чыг., у прыватнасьці нач. дыстанцыі інж. тав. Кулінковіч М. І., як перадавы работнік чыгункі вельмі зацікавіўся гэтай прапановай, агледзеў гэтыя ўзоры шчытоў і поўнасьцю іх ухваліў і прызнаў, што гэткія шчыты дасягнуць мэты сьнегабарацьбы на ўсе 100 проц. і дадуць чыгунцы вялікую экономію.

Толькі дзякуючы чуламу падыходу з боку работнікаў II дыстанцыі ў асобе тав. Кулінковіча і інж. заводу „Дрэваапрацоўшчык"—нам. дырэктара тав. Тацянка С. К., які цалкам прыняў удзел у спробах па гэтай галіне, якія праводзіліся на заводзе, удалася завяршыць гэтыя рацыяналізатарскія прапановы, былі нарыхтаваны на заводзе „Д. А." шчытавыя плянкі з адкідаў і прад'яўлены МББ для прыёмкі.

Апошняя—III эксплёатацыйны раён пуці МББ станц. Орша, праз начальніка II дыстанцыі 15/XI заключыў з намі умову на пастаўку ім 8.000 комплектаў шчытавое плянкі, недастаючай на 1931 год.

Гэтая плянка ўпрошчанага тыпу з адходаў выраблялася на 2-х заводах—„Д. А." у г. Менску і завод імя Халтурына на ст. Рагачэў, была прынята дарогай МББ і поўнасьцю ўжо скарыстоўваецца з такім-жа посьпехам, як чыстаабразная плянка.

Чыгунка мае зьніжэньне сабекошту плянкі на 25 проц., бо гэткая плянка з адкідаў прадаецца па 28 р. 62 к. за кубамэтр замест 38 р. 15 к. за чыстаабразную.

Заводы выручаюць таксама па 12—14 рубл. лішніх ад кожнага кубамэтра адходаў.

Па адным заводам Белдрэва пры наяўнасьці гэтага заказу на працягу круглага году будзе экономія прыкладна ў 200.000 рубл., а калі распаўсюдзіць гэтую рацыяналізацыю ва ўсесаюзным маштабе, дык гадавая экономія дасьць дзяржаве прыбытку каля 3-4 мільёнаў рубл.

Трэба адзначыць, што па апошняму ОСТ'у[1]) на абапалы д/горнай прамысловасьці ўстаноўлена рубежная шырыня гэткага 90-110 мм, а шырыня шчытавой плянкі, згодна апошняму ОСТ'у, дапушчаецца ад 60 мм і вышэй. Такім чынам, усе паказаныя абапалы, якія раней і цяпер ідуць большаю часткаю на апал, змогуць быць бяз шкоды для справы скарыстаны на шчытавую плянку па цане 28 р. 62 к. за кожны кубамэтар.

Гэтым пытаньнем займаецца БРЫЗ [2]) Белдрэва, які з свайго боку прапанаваў БРЫЗ Наркамлесу і НКПС, каб апошнія ўвайшлі з хадайніцтвам ва Ўсесаюзны камітэт па стандартызацыі аб зьмене ОСТ'у на шчытавую плянку згодна выпрацаванага проекту.

На падставе вышэйсказанага і на падставе таго, што беларускія органы НКПС мелі дагавор з Белдрэвам на пастаўку ім 8.000 комплектаў шчытавое плянкі, нарыхтаванай і прынятай з гарбылёў і адходаў, Лесаснабзбыт—Масква даручыў Белдрэву нарыхтаваць у 1932 годзе 100.000 комплектаў шчытавое плянкі ўпрошчанага тыпу.

Заданьне па заводам было своечасова спушчана, але калі мы дайшлі да заключэньня лекальных дагавораў з спажыўцамі, дык апынуліся перад фактам, што яшчэ дагэтуль пытаньне паміж Лесаснабзбытам і НКПС канчаткова не аформлена і гэтая справа застаецца на мёртвым пункце і ніяк ня можа зрушыцца з месца.

У справах Белдрэва маюцца адпаведныя докумэнты, падпісаныя дастаткова аўторытэтнымі асобамі, якія яскрава пацьвярджаюць мэтагоднасьць і экономію ад паказанае плянкі як для пастаўшчыка, так і для спажыўца, маецца цэлы рад перапісак па гэтай справе, бо гэта цягнецца каля 8-9 м-цаў, „а воз и ныне там".

У апошніх лічбах студзеня м-ца г.г. прыяжджаў у Менск у службовую камандыроўку старшы інжынэр Аддзелу пуці НКПС з Масквы, тав. Бярэзін, які ў прысутнасьці прадстаўнікоў II дыстанцыі МББ агледзеў шчыты, зьбітыя з паказаных плянак па майму проекту, поўнасьцю іх ухваліў, таксама вельмі зацікавіўся гэтым пытаньнем, запытаўся ў мяне, чаму такія плянкі дагэтуль не здаваліся чыгунцы. Ён адзначыў у сваім блёкноце з тым, каб зараз па прыезьдзе ў Маскву,

---

1) ОСТ—Общесоюзный стандарт.

2) БРЫЗ—Бюро рабочего изобретательства.

тэрмінова вырашыць гэтае пытаньне і даць яму належны ход, але, на жаль, і гэта не памагло, бо і ад яго ніякіх вестак не атрымалі.

Ня шкодзіць зацікавіцца і тым пытаньнем, што, ня гледзячы на цяжкасьці, якія адчувае транспорт, МББ атрымлівае шчытавыя плянкі, наколькі мне вядома, з Рыбінску і іншых больш аддаленых месц, заместа таго, каб гэта вырабляць на заводах Белдрэва на мясцох спажываньня, як, напрыклад, Койданава, Барысаў, Віцебск, Полацк, Рагачэў і г. д.

У апошнім выпадку была-б атрымана ўсебаковая экономія як у кошце самой плянкі, таксама скарочаны былі-б і транспортныя перавозкі.

У мэтах рацыянальнага скарыстаньня драўніны, замены дэфіцытнага матар'ялу на менш каштоўны і ў мэтах поўнага бесьперабойнага забясьпечаньня чыгункі патрэбнай колькасьцю шчытавое плянкі неабходна, каб НКПС і Ўсесаюзны стандартком перагледзелі свой папярэдні ОСТ № 3364 на шчытавую плянку ў бок спрашчэньня яго ў адпаведнасьці з распрацаваным проектам, які ўхвалены як дарогай, так і заводамі.

Таксама неабходна, каб трэст „Белдрэў" выдзеліў спэцыяльнага супрацоўніка для непасрэднага афармленьня гэтага каштоўнага рацыяналізатарскага мерапрыемства як на самых заводах, так і з органамі НКПС ва ўсесаюзным маштабе; нельга ставіць гэтую працу на самацёк з тым, каб не дапусьціць у далейшым скарыстоўваньня дэфіцытнага матар'ялу там, дзе магчыма замяніць яго, бяз шкоды для справы— менш каштоўным.

К. Кернажыцкі

# Старонка з гісторыі рабочага руху часоў імпэрыялістычнай вайны

## (Забастоўка кітайцаў у 1916 г. ў Віцебк. губ.)

Рэволюцыйны рабочы рух гадоў імпэрыялістычнай вайны наогул вельмі слаба дасьледваны і амаль нічога мы ня маем націсанага з гэтых часоў на Беларусі. Гэтыя-ж часы маюць вялікі інтарэс, бо непасрэдна прымыкаюць да рэволюцыі. Ускрыць і паказаць, як рыхтавалася рэволюцыя—гэта актуальнейшае пытаньне. Пролетарыят і шырокія масы сялянства, ачуняўшы пасьля паражэньня ў рэволюцыі 1905 г., пачынаюць зноў штурмаваць царызм. Ужо з 1910 г. пачынаецца ўздым новай рэволюцыйнай хвалі. Партыя бальшавікоў, адзіная рэволюцыйная партыя, упарта працуе, зьбірае сілы для новага наступу на памешчыка, капіталіста. У гады рэакцыі бальшавікі канчаткова адваёўваюць сялянскія масы ад лібэральнай буржуазіі і рыхтуюць новую рэволюцыю.

Ленскі расстрэл 1912 г. рэволюцыйным рэхам пракаціўся па ўсёй былой імпэрыі. Хваля абурэньня, палкага протэсту пракацілася ад Уладзівастоку да Варшавы і ад Пецярбургу да Севастопалю. Гэтая хваля протэсту паказала, што рэволюцыя жыве, што масы рыхтуюцца на новы штурм, пад выпрабаваным кіраўніцтвам партыі бальшавікоў.

Пролетарскі рабочы рух уздымае і вёску. Шырокія масы сялянства, забітыя і прыдушаныя нячуваным прыгнётам і эксплёатацыяй памешчыкаў, зубожаныя сталыпінскай політыкай, узьнімаюцца на барацьбу супроць памешчыка—адвечнага свайго ворага і супроць кулака які на падставе закону 9 лістапада рабуе вёску.

Уладзім. Іл. Ленін навукова давёў няўхільнасьць новае хвалі рэволюцыі. У арт. „Соцыялізм і вайна“ гэты пэрыод так ацэньваўся Ільлічом: „1912—1914 гг. вызначылі сабою пачатак новага грандыёзнага рэволюцыйнага ўздыму ў Расіі. Мы зноў сталі сьведкамі вялікага стачачнага руху, якога ня ведае сьвет. Масавая рэволюцыйная стачка ўцягнула ў 1913 г. па самых мінімальных падліках паўтара мільёны і падыходзіла да роўню 1905 г. Напярэдадні вайны ў Пецярбургу справа дайшла ўжо да першых барыкадных боек“.

У 1910—12 г. зноў сабраўся пролетарыят з сіламі, каб распачаць адкрытую барацьбу з царызмам. У арт. „Аб дзьвюх лініях рэволюцыі“ Ленін зазначаў: „Цяпер мы зноў ідзем да рэволюцыі. Гэта ўсе бачаць, сам Хвастоў гаворыць аб настроі сялян, падобным на 1905—1906 гг., зноў перад намі тыя-ж дзьве лініі рэволюцыі, *тыя-ж* суад-

носіны кляс, толькі відазьмененыя зьмяніўшыміся міжнароднымі абставінамі“ (курсыў Леніна).

Царская зграя не магла ня бачыць узросту рэволюцыйнага руху, і калі царызм з Антантай кінуў шматмільённыя масы рабочых і сялян у вогнішча імпэрыялістычнай бойкі, дык гэтым, апрача іншых, усім вядомых прычын, царызм думаў адцягнуць рэволюцыю, думаў у шовіністычным чадзе разграміць і рэволюцыйныя сілы.

Нарастаючая хваля рэволюцыі вельмі непакоіла і палохала царызм і яго сатрапаў. Так, у абсолютна сакрэтным цыркуляры на імя ўсіх губарнатараў з дэпартамэнту паліцыі яшчэ ад 21 лістапада 1913 г. даваліся наконт гэтага пэўныя дырэктывы і так ацэньваўся забастоўчы рух. „За последний год почти повсеместно значительно усилилось забастовочное движение среди фабричных, заводских и цеховых рабочих, а также среди служащих в разного рода городских предприятиях, причем особенно резкий характер движение это приняло в наиболее крупных фабричных, промышленных районах Империи. *Отличительными признаками всех этих забастовок является пред‘явление рабочими однородных, точно сформулированных требований, единодушное и длительное упорство в одстаивании своих домогательств и стремление к осуществлению последних захватным правом*“ (курсыў мой—К. К.). (М. Арх. Кастр. рэв. спр. № 443).

Гэты докумэнт падкрэсьлівае вялікі ўзрост забастовачнага руху, прычым у прыведзеных словах выразна выступае работа рэволюцыйнае партыі, а гэткай была толькі партыя бальшавікоў, якая зноў вяла пролетарыят і масу сялянства ў бойку з царызмам і капіталам. Гэтым тлумачыцца дакладнасьць формуляваных патрабаваньняў і тая ўпартасьць, з якой рабочыя адстайваюць свае патрабаваньні. Уплыў партыі паглыбляецца з пашырэньнем яе дзейнасьці; бальшавікі стаяць на чале рэволюцыйнага змаганьня. Гэта ня высьлізнула з-пад увагі царскіх жандараў. Так, у тым-жа цыркуляры зазначалася: „Все эти прискорбные явления (забастовачны і рэволюцыйны рух—К. К.) с очевидностью свидетельствуют *об усилении планомерной деятельности* разного рода преступных *революционных партий и организаций, паставивших себе в настоящее время задачей возобновление массовой смуты и политических беспорядков*“ (падкр. мной—К.-К.). Царскія сатрапы чакалі рэволюцыі ў 1914 г. і міністар унутраных спраў прымае цэлы рад „рашучых мер“ для папярэджаньня рэволюцыйных выбухаў. Губарнатарам напаміналася аб іх паўнамоцтвах 1905—1907гг. і даваўся яшчэ рад паўнамоцтваў аж да абвяшчэньня губэрні на вайсковым палажэньні і загад падаўляць рэволюцыйныя выступленьні рабочых „самымі рашучымі мерамі“,—г. зн. патронаў для рабочых і шырокіх сялянскіх мас не шкадаваць. 1914 г. прынёс нябывалы ўздым рэволюцыйнага руху ва усёй б. імпэрыі. Колькасьць бастуючых рабочых узьнялася да лічбаў 1905 г. За ўздымам рабочага руху ўзьнялася і вёска на барацьбу з адвечным ворагам—памешчыкам і кулаком.

Бедната і масы сялянства рэформай Сталыпіна былі адданы на поўнае рабаваньне кулацтву, што распаліла яшчэ мацней клясавую барацьбу на вёсцы. Шырокія масы сялянства цалкам пасьля рэволюцыі 1905 г. становяцца пад кіраўніцтва пролетарыяту. Адыходніцтва якое пад уплывам хуткай дыфэрэнцыяцыі сялянства набыло надта шырокія разьмеры, рэволюцыянізавала вёску. Шахцёр, адыходнік у буйныя прамысловыя цэнтры зьяўляўся адным з асноўных рэволюцыйных агітатараў на беларускай вёсцы перад імпэрыялістычнай вай-

ной. Канцылярыі менскага, віцебскага, магілеўскага губарнатараў маюць тысячы спраў аб парушэньні абавязковых пастаноў губарнатарскай улады і галоўнымі парушальнікамі зьяўляюцца—шахцёр, адыходнік, батрак.

Імпэрыялістычная вайна не магла ня выклікаць далейшага паглыбленьня рэволюцыйнага і рабочага руху. Ня гледзячы на страшэнны тэрор з боку жандармэрыі, на разгром рэволюцыйных партыйных організацый, работа бальшавікоў узмацняецца. Узьнікаюць новыя організацыі; так, напрыклад, у Ветцы Гомельскага пав., па даным жандармэрыі, у Віцебску ўзьнікае абласны камітэт бальшавікоў і г. д. Царызм і буржуазія думалі ў моры шовінізму затапіць рэволюцыйны рух, але ім гэта не ўдалося. Ня гледзячы на здраду меншавікоў на чале з Пляханавым, а таксама і ўсіх дробнабуржуазных і інш. партый, партыя бальшавікоў на чале з Леніным толькі адна засталася на рэволюцыйных позыцыях і вяла паглыбленую работу сярод мас.

Калі была абвешчана вайна, мы добра ведаем, як сустрэлі яе рабочыя і шырокія масы сялянства. Пролетарыят не паддаўся шовіністычнаму чаду, таксама як вясковая бедната і бяднейшае сялянства. Даволі ўспомніць разгром маёнткаў на Беларусі ў 1914 г., каб уясьніць, з якімі настроямі і пачуцьцямі ішлі шырокія масы сялянства на вайну. У Менскай губэрні быў разгромлены мобілізаванымі запаснымі і сялянствам рад маёнткаў. Так быў разьбіты маёнтак Юзэфін кн. Радзівіла, Буда-Сафіеўка Маркварда, фальварак кадэта Палфёрава Я. Я. пад Бабруйскам і г. д. У Магілеўскай губ. хваляваньні прынялі вельмі шырокія разьмеры, так Сеньненскі і Чавускі паветы амаль цалкам хваляваліся, там быў спалены маёнтак фон Рэнтэль і разьбіты маёнтак гр. Красіцкай. Губарнатар Пільц асабіста душыў „непарадкі“, прычым ужываў мэтоды карных экспэдыцый 1905—1907 гг. Прымаўшых удзел у хваляваньнях мобілізаваных і сялянства ён публічна лупцаваў розгамі і шампаламі ў г. Сянно. Гэтыя выбухі былі першымі ластаўкамі нарастаючай новай аграрнай рэволюцыі. Імпэрыялістычная вайна магла толькі наблізіць рэволюцыю.

Імпэрыялістычняя вайна нанесла рашучы ўдар па гаспадарцы Беларусі. Фронт, які праходзіў на тэрыторыі Беларусі, руйнаваў дашчэнту цэлыя гарады і вёскі. Уся невялікая прамысловасьць была пераключана на работу па абароне. Так аршанскі дрота-гваздовы завод пачаў выпрацоўваць калючы дрот і шыпы. Суконная фабрыка барона Корфа пачала выпрацоўваць шынэльнае сукно. Завод сел.-гаспадарчых машын Гардзялькаўскага ў м. Талачыне—артылерыйскія павозкі і ходы. Невялікія чыгуналіцейныя заводы ў Менску, Гомелі, Магілеве і інш. пачалі таксама работаць на патрэбы вайны. Але вельмі хутка ўся прамысловасьць пачала адчуваць недахваты ў сырцы, апале, транспорце харчовых продуктах амаль з першых месяцаў вайны. Так фабрыканты Шклоўскае папяровае фабрыкі ў 1915 г. пісалі магілеўскаму губарнатару: „З первых месяцев вайны мы начали терпеть всевозможные лишения, как в отношении необходимых материалов для производства, так и по отпускаемым фабрикатам, за сокращением подачи вагонов...

Мы вынуждены уже остановить нефтяные двигатели и сократить производство наполовину. В недалеком будущем нам грозит остановка и второй половины фабрики. *Крах близится быстрым темпом*“ (курсыў мой—К. К.). (Маг. Арх. Кастр. рэв., спр. № 480, ч. II).

Далей фабрыканты пішуць, што яны вымушаны зьвярнуцца да старых паравых машын. Але зноў-жа закупленыя дровы няма як

даставіць. Такім чынам, развал пачаўся з транспорту і апалу. Добруская фабрыка, якая налічвала да 1.300 рабочых, ужо з 30 сакавіка 1915 г. вымушана была часова спыніць работу з-за недахопу вугалю. Вельмі абвострываецца харчовае пытаньне з першых месяцаў вайны, таксама як і пытаньне з рэчамі шырокага спажываньня. Цэны на гэтыя рэчы надзвычайна растуць, становішча рабочых надзвычайна пагаршаецца, у адказ на шалёны наступ фабрыкантаў рабочыя адказваюць супраціўленьнем, забастоўкамі і протэстам. Бастуе цэлы рад фабрык і заводаў. У Магілеве ў кастрычніку 1915 г. забаставалі панчошніцы на фабрыцы Днястрова ў ліку 187 чалавек, патрабавалі падвышэньня заработнай платы на 30 проц. у Віцебску на тутунёвай фабрыцы Колбанаўскага забаставалі рабочыя 15 студзеня 1916 г., рад чыгуначнікаў, буйных майстэрняў і г. д. Адбыўся цэлы рад паўстаньняў і хваляваньняў салдат, напр. у Гомелі, Ветцы, Дзьвінску і г. д.

Наступныя мобілізацыі паставілі пад ружжо да 15 мільёнаў чалавек, галоўным чынам рабочых і сялянства. Адчуўся надзвычайны недахоп у кваліфікаванных рабочых, урад загадаў вярнуць частку рабочых на прадпрыемствы, каб забясьпечыць іх рабочай сілай. Усякага роду тылавыя работы і позыцыйныя патрабавалі многа рабочых рук, і царскі ўрад выкарыстоўваў усякага роду „інародцаў“, напрыклад, башкір і інш., а таксама практыкавалі шырокі наём кітайцаў на памянёныя работы. Сярод гэтых рабочых маем цэлы рад забастовак і хваляваньняў. Нам вядома буйная забастоўка рабочых кітайцаў у Куправе Віцебскай губ. б. Люцынскага павету.

Кітайцаў царскаму ўраду пастаўлялі кітайскія фірмы, якія на бязьлітаснай эксплёатацыі нажывалі вялікія грошы.

Кітайская фірма У-чэн-чун-сы займалася пастаўкай рабочых для палявога будаўнічага кіраўніцтва. У Куправе кітайцы працавалі на распрацоўцы лесу—рубцы дроў і загатоўцы будаўнічага матар'ялу. На распрацоўцы ў Куправе работала 1.208 кітайцаў толькі ў адным атрадзе. Кітайцы былі пастаўлены ў надзвычайна дрэнныя ўмовы— брудныя халодныя баракі, дрэннае харчаваньне, усякага роду ашуканства з боку іх прадстаўніка і старшынь выклікалі протэст. Асабліва абурэньне выклікаюць зусім сапсаваныя продукты, гнілая мука і інш., нізкая заработная плата і спосабы яе атрыманьня. Так, кітайцы атрымлівалі па 8 руб. за куб. саж., прычым з імі расплачваўся прадстаўнік памянёнае фірмы Су-сынь-тунь, які папросту самым наглым спосабам абкрадаў іх.

Кітайцы адмовіліся працаваць за такую плату. Часова начальнік атраду Румянцаў абвясьціў, што заработная плата будзе падвышана з 8 да 9 руб. за кожны апрацаваны куб. сажань. Гэтая аб'ява была зроблена згодна адносьніку начальніка палявога будаўнічага кіраўніцтва. Прадстаўнік-жа фірмы У-чэн-чун-сы—Су-сынь-тунь заявіў кітайскім рабочым, што ніякае прыбаўкі ня будзе. Зразумела, што прадстаўнік хацеў усю прыбаўку пакласьці сабе ў кішэню. Гэта выклікала страшэннае абурэньне і кітайцы абвясьцілі забастоўку, высунуўшы цэлы рад запатрабаваньняў.

Забастоўка была організавана кітайцамі з бараку № 171. Калі часова выконваючы абавязкі начальніка атраду Румянцаў пайшоў у некаторыя баракі і пачаў угаварваць старшынь, каб яны прымусілі сваіх рабочых працаваць, старшыны заявілі, што барак № 171 не дапусьціць, каб яны сталі на работу. Начальнік атраду рашыў ужыць крутыя меры. Кітайцы працавалі пад аховай старожы, якой было 71 чалавек. Румянцаў рашыў сілай выгнаць на работу барак № 171.

Ён загадаў, каб абкружылі кітайцаў старожай і павялі на работу. Але пачалі зьбірацца кітайцы з другіх баракаў, сабраўся натоўп чалавек у 600, які ўступіўся за таварышоў. Стражнікі імкнуліся прыкладамі разагнаць натоўп, але ў адказ паляцелі палкі і каменьні. Пасьля пачаўся расстрэл натоўпу. Люцэнскі спраўнік піша, што адзін з кітайцаў схапіў камень і хацеў ударыць ім Румянцава па галаве, у адказ, быццам, на гэта, стражнік, пруставіўшы рулю, застрэліў гэтага кітайца, як было—застаецца няясным, але кітайцы трымаліся вельмі актыўна. Вышэйпрыведзены факт паслужыў, па словах спраўніка, сыгналам, і стражнікі адчынілі агонь па натоўпу і пачалі зьбіваць кітайцаў прыкладамі. Што білі прыкладамі, лепш за ўсё сьведчыць тое, што ў некалькіх вінтоўках аказаліся паламанымі ложы.

Кітайцы адбегліся да баракаў, заставіўшы на месцы пяць чалавек—тры былі забіты напавал і два цяжка паранены, яны хутка і памерлі; восем чалавек было больш-менш цяжка паранены. Выявілася, што стражнікі стралялі па кітайцах разрыўнымі кулямі дум-дум, што канстатавалі дактары, якія аглядалі трупы. Высьветлілася, што былі забіты Цін-фун-хан 22 год, Лу-чан-фан 30 г., Ху-хой-сун 36 г., Чы-на-та 29 г. і Ван-ля-на 40 г. Усё бяздушша і зьвярынства ў абыходжаньні з кітайцамі выступае хаця-б яшчэ з таго факту, што ўсе яны запісаны былі проста пад № 1125, 1730, 1140, 1517, 1574.

Царскія служакі глядзелі на іх не як на людзей, а як на рабочую скаціну. Запраданыя спэцыяльнай кітайскай фірмай У-чэн-чун-сы, якая займалася пастаўкай кітайцаў царскаму ўраду, апошнія падпадалі пад эксплёатацыю сваіх-жа землякоў, прадстаўнік гэтай-жа фірмы нажываўся на крыві сваіх сапляменьнікаў. Дзікая падвойная эксплёатацыя і выклікала адпор. Але гэта была ў Куправе не адзіная забастоўка. Так, Люцынскі іспраўнік даносіў губарнатару, што ў Куправе заарыштаваны селянін Пакроўскага павету Уладзімірскай губ. Яўхім Дзімітрыеў, які працаваў у адным з купраўскіх атрадаў вайсковага ведамства і ён „ в районе Люцинского уезда начал поднимать среди рабочих смуту, уговаривая пред'являть всевозможные требования. Рабочие бросили работу".

Такім чынам, глеба для ўздыму рэволюцыйнага руху была вельмі спагадная. Катаржныя ўмовы працы на тылавых работах, надзвычайна дрэннае харчаваньне—кітайцаў імкнуліся карміць гнілой пшанічнай мукой,—усё гэта выклікала протэст і абурэньне і рэволюцыянізавала масы. Але асабліва трэба падкрэсьліць работу партыі бальшавікоў. Абставіны фронту ўскладнялі работу, а з другога боку, сюды з фронтам наехала многа партыйцаў, якія пачалі разгортваць вялізарную работу, якая давала свае вынікі. Так, у Куправе былі знойдзены проклямацыі да рабочых. Наогул рэволюцыйная агітацыя ўзмацнялася. Намі знойдзены сакрэтны загад магілеўскага губарнатара ўсім начальнікам паліцыі ад 9/IX-1915 аб тым, што ў сучасны момант назіраецца, піша губарнатар, атрыманьне з-за межаў, з Жэнэвы значнае колькасьці проклямацый з заклікам да заключэньня міру, якія рассылаюцца бандэролямі з Масквы ў унутраныя губэрні і гарады Сібіры, і гэта проклямацыі рускіх рэволюцыйных арганізацый. Аб узмацненьні рэволюцыйнае агітацыі сьведчыць і загад сакрэтнага характару, выконваючага абавязкі начальніка штабу Менскага ваеннага акруговага кіраўніцтва ад 21/X-1915 г. на імя ўсіх губарнатараў, дзе паказваецца, што рэволюцыйныя арганізацыі ўжываюць рознастайныя формы і спосабы вядзеньня агітацыі, рэволюцыйная літаратура рассылаецца з падарункамі на фронт, у акопы і ў тыл. Адозвы рэволюцыйныя зашываюць у бялізну, у паясы і г. д.

Начальнік загадваў „ачысьціць“ гурткі ад рэволюцыйных элемэнтаў. Менавіта партыя бальшавікоў разгортвае вялізарную работу на фронце і ў тыле, бальшавікі вялі вялізарную работу па падрыхтоўцы Кастрычнікаўскай рэволюцыі. Гэта адбіта ў цэлым радзе докумэнтаў, якія сьведчаць, што бальшавікі разьвівалі вялізарную работу. Так, 9 жніўня 1915 г. на імя начальніка Віцебскага жандарскага кіраўніцтва была атрымана шыфровая тэлеграма ад дырэктара дэпартамэнту паліцыі Бруна наступнага зьместу:

„Сведениям большевиками постановлен областной комитет коим принята резолюция призыве к стачкам для перехода при неудовлетворении требований к вооруженному восстанию срок которому приурочивается восьмому-девятому августу, возможны попытки вооруженных столкновений с полицией без предварительного пред‘явления каких-либо экономических требований. Доложите доверительно Губернатору принятых последним вами мерах донесите“.

Гэта тэлеграма зьяўляецца вельмі цікавай, бо сьведчыць аб вялікай рабоце, якая вялася бальшавікамі. Відаць—адна з пастаноў камітэту Віцебскай бальшавіцкай організацыі трапіла ў рукі жандармам, і яны нават устанавілі ўжо тэрмін паўстаньня [1]).

Гэтае месца характэрна тым, што б‘е па ўсякага роду фальсыфікатарам гісторыі Кастрычніка, якія даводзяць, што бальшавікі не вялі падрыхтоўкі, не разгортвалі вялізарнай работы. Як бачым, жандармэрыя больш ведала, чым троцкісцка-меншавіцкія контрабандысты, жадаючыя, чаго-б гэта ні каштавала, зганьбіць партыю бальшавікоў, узьвесьці паклёп на яе правадыроў. Царызм і капіталізм распачалі імпэрыялістычную бойку ў сваіх клясавых крывавых інтарэсах. Але пролетарыят і шырокія масы эксплёатаванага сялянства, як мы адзначылі, напярэдадні вайны ўзьнялося зноў на барацьбу. У Пецярбурзе справа дайшла да першых барыкадных боек, і ў гады вайны, ня гледзячы на шалёны тэрор жандармэрыі, пролетарыят рыхтуецца далей да новых клясавых боек. Партыя бальшавікоў—адзіна рэволюцыйная партыя са шчыраю адвагаю вядзе пролетарыят і шырокія масы да рэволюцыі. Рабочы забастовачны рух, хваляваньні салдат, забастоўкі на тылавых работах, хваляваньні сялянства,—гэта-ж усё факты, якія сьведчылі аб прыбліжэньні рэволюцыі. Развал народнае гаспадаркі і паасобных яе галін, надышоўшы голад па гарадох, пагоршаньне ўмоў работы і самая дзікая эксплёатацыя фабрыкантаў, якія нажывалі вялізарныя капіталы на пастаўках на абарону, усё гэта ўзьнімала на барацьбу і адчыняла вочы самым адсталым пластом рабочых і сялянства. Сярод шовіністычнага чаду толькі партыя бальшавікоў засталася на рэволюцыйных позыцыях, толькі яна вяла вялізарную агітацыю і падрыхтоўчую работу. Толькі яна падымала пролетарыят і сялянства на барацьбу супроць памешчыка і капіталіста; выкрывала і паказвала сапраўдныя прычыны вайны, у чыіх клясавых інтарэсах яна вялася, за чые інтарэсы гінулі мільёны на фронце. Лёзунг, высунуты бальшавікамі, ператварыць вайну імпэрыялістычную ў вайну грамадзянскую быў зразумелы масам.

---

[1]) Факт праверыць пакуль не ўдалося.

# Програма па вывучэньню работы і быту рабочых на лесасплаве

## I. Раён па лесасплаву

1. Кароткі экономічны нарыс раёну: прыродныя багацьці, прамысловасьць, стан колектывізацыі, насельніцтва і г. д.

2. Водныя шляхі ў данай мясцовасьці: рэкі, азёры і канавы. Прыгоднасьць і прыстасаванасьць іх да лесасплаву. Паглыбленьне і ачыстка вадазбораў на шляхох сплаву. Пабудова штучных застаў, грэбляў і шлюзаў для зьбіраньня і рэгуляваньня вады.

3. Разьмяшчэньне на водных шляхох румаў і прыстаняў, абсталяваньне і прыстасаваньне іх для пагрузкі лесаматар'ялаў і вязкі плытоў. Будынкі службовыя і жыльлёвыя для рабочых, кіраўнікоў і спэцыялістаў. Социяльна-бытавыя і культасьветныя ўстановы для рабочых на румах і прыстанях (сталоўкі, ленкуткі і г. д.)

## II. Організацыя лесасплаву

1. Лесасплаўныя ўстановы ў раёне. Ход кампаніі па лесасплаву. Наём кваліфікаваных спэцыялістаў і рабочых. Загатоўка сплаўнага інвэнтару, такелажу і дапаможных матар'ялаў для вязкі плытоў і згонкі іх на прыстані прызначэньня. Падрыхтоўка таварных сартымэнтаў для той-жа мэты: сартоўка, бракоўка і маркіроўка іх.

2. Сплаў-згонка лесаматар'ялаў бяз вязі ў плыты: молем або ў россып. Водныя шляхі, прыгодныя для молевага сплаву. Лесаматар'ялы, прызначаныя для згонкі молем. Спосабы організацыі молевага сплаву: падрыхтоўка воднага шляху, наём рабочых, скатка на ваду лесаматар'ялаў і згонка іх на прыстані прызначэньня, організацыя і мэтоды работы на молевым сплаве.

3. Сплаў-згонка лесаматар'ялаў сплочанымі бяз вязі таркамі. Падрыхтоўка шляху для прагону таркоў. Абсталяваньне прыстані для сплоткі таркоў: боны, прычалы і г. д. Сартоўка і падбор лесаматар'ялаў, спосаб формаваньня таркоў і згонка іх на прыстані прызначэньня.

4. Сплаў-згонка лесаматар'ялаў вязанымі плытамі на малых рэчках і каналах. Спосабы вязкі малых плытоў. Форма іх, разьмеры і назва па-мясцоваму. Дарожнае прырыхтаваньне партыі малых плытоў і згонка іх на прыёмачныя прыстані.

5. Лесасплаў на вялікіх суднаходных рэках. Мэтоды вязкі буйных плытоў. Форма, разьмеры і назва іх—агульная і па складу членаў. Дарожнае прырыхтаваньне партыі буйных плытоў па кожнаму плыту і па ўсёй партыі. Гонка самаплавам партыі буйных плытоў на прыстані прызначэньня.

6. Сплаў лесаматар'ялаў пры дапамозе буксірных параходаў і моторных лодак. Спосаб формаваньня і прыстасаваньня плытоў—караванаў і кашалёў—для ходу іх за цягавым судном. Дарожнае прырыхтаваньне такіх плытоў і кіраўніцтва імі на ходу.

7. Сплаў дробных лесаматар'ялаў, асабліва дроў, пры дапамозе непаравых суднаў самаплавам. Спосабы пагрузкі лесаматар'ялаў на судно і разгрузка яго на прыстані.

## III. Організацыя работы на лесасплаве

1. Наём і падрыхтоўка спэцыялістаў і рабочых па лесасплаву: дзесятнікаў, дубовікаў, атаманаў і грабцоў; вязчыкаў, грузчыкаў і плытагонаў. Сталыя рабочыя, падзённыя і сэзонныя. Соцыяльны і нацыянальны склад іх—колгасьнікаў і аднаасобнікаў, сярод апошніх паказаць беднякоў, серадняков, заможнікаў і раскулачаных. Партыйная і комсамольская праслойка сярод рабочых, профэсіянальны склад і стаж, узроставыя групы. Жанчына на лесасплаве.

2. Організацыя і мэтоды работы: арцелі, брыгады, зьдзельшчына, соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Рэалізацыя шасьці ўмоў т. Сталіна на лесасплаве. Асобныя комсамольскія брыгады. Організацыя ўдарных тыднёвікаў і месячнікаў па ліквідаваньню прарываў на лесасплаве.

3. Нормы выпрацоўкі, колькасныя і якасныя. Сыстэма аплаты работы—падзённая, зьдзельная, прэміяльная і інш. Заробак рабочага на лесасплаве раней і цяпер. Аплата дарожных і іншых выдаткаў.

4. Тэхнічныя ўмовы работы на румах і ў дарозе. Сплаўны інвэнтар, такелаж, інструманты і прылады, ручныя і мэханізаваныя. Паказаць, якія процэсы мэханізаваны ў выніку рабочых прапаноў, а таксама тэхнічным кіраўніцтвам.

5. Адміністрацыйна-тэхнічныя кіраўнікі—дзесятнікі, дубовікі, атаманы, брыгадзіры, прарабы і інш. Соцыяльны і партыйны склад іх, тэхнічная падрыхтоўка і кваліфікацыя. Узаемаадносіны іх з рабочымі. Адносіны да спэцыялістаў.

6. Заключэньне дагавораў на работу—колектыўных і індывідуальных. Рэалізацыя гэтых дагавораў на практыцы: нормаваны рабочы час, выходныя дні, адпачынкі, выдача інструмантаў і прылад, аплата амортызацыі ўласнага інструмэнтарыю, спэцвопратка і г. д. Забесьпячэньне рабочых памяшканьнем і харчаваньнем, выдача продуктаў і прамтавараў, работа коопэрацыі на лесасплаве. Тэхнічная і санітарная ахова працы. Мэддапамога на месцы, курортнае і інш. лячэньне і г. д.

## IV. Культасьветная і грамадзкая работа

1. Культбазы—стацыянарныя і плывучыя, клюбы, ленкуткі, бібліотэкі, насьценгазэты. Організацыя спэктакляў, кіно-сэансаў, лекцый дакладаў і гутарак. Організацыя політгурткоў, бязбожнікаў, аўладаньня тэхнікай, драматычных, спортыўных і інш. Выпіска газэт і часопісаў. Ліквідацыя няпісьменнасьці сярод рабочых. Лік няпісьменных.

2. Партыйныя і комсамольскія ячэйкі, склад іх і работа.

3. Профорганізацыя. Удзел рабочых у профрабоце. Барацьба профорганізацый за выкананьне прамфінпляну, контроль за выкананьнем колдагавораў і соцдагавораў, разгляд конфліктаў і г. д.

4. Грамадзкія організацыі, склад іх і работа. Грамадзкая дапамога па ліквідацыі прарываў на лесасплаве і г. д.

## V. Матар'ялы па вывучэньню быту і культуры плытагонаў

1. Соцыяльна-бытавыя ўмовы рабочых сталых і сэзонных—дома, у сям'і і на рабоце. Жыльлё іх, адзеньне і харчы. Падрыхтоўка і выхад на работу. Праявы новага быту сярод рабочых—дома і на рабоце. Хваравітыя зьявішчы старога быту і мэтоды барацьбы з імі.

2. Мова рабочых на лесасплаве. Вытворчая тэрміналёгія, прыказкі, прыслоўі, каманда, выкрыкі, выклікі і г. д.

3. Фольклёр плытагонаў: песьні традыцыйныя і новыя, казкі, апавяданьні, легенды, забабоны, загадкі, прыказкі і г. д.

4. Літаратурная творчасьць рабочых на лесасплаве—у насьценгазэтах і іншых выданьнях.

5. Ідэолёгія плытагонаў і сьветапогляд іх. Рэлігійнасьць і бязбожжа. Сьвяты рэлігійныя і рэволюцыйныя. Вераваньні, забабоны і стварэньне новага сьветапогляду пад уплывам сучасных умоў гаспадарча-грамадзкага і політычнага быту: соцбудаўніцтва, мэханізацыі вытворчасьці, уплыву гарадзкога пролетарыяту і культмасавай работы.

6. Характарыстыка гаспадарчага і хатняга быту плытагонаў-сэзоньнікаў—гаспадарка, хатнія ўмовы, сямейныя адносіны, асабліва як адбіваецца адыход сэзоньніка на экономічным і бытавым яго становішчы, хто выконвае гаспадарчыя работы дома ў часе адыходу, месца заробку плытагона ў бюджэце гаспадаркі і г. д.

7. Колгасьнікі-адыходнікі на лесасплаве. Групавыя і адзіночныя выхады на заработкі колгасьнікаў, іх узаемаадносіны і сувязь з колгасамі і г. д. Дагаворы лесасплаўных організацый з колгасамі на організаваны набор рабочае сілы.

*Сэкцыя этнографіі.*

Н. А. Дарожкін.

# Супроць буржуазных тэорый у галіне аховы расьлін [1])

## (Скарочаная стэнограма дакладу на агульным паседжаньні Інстытуту біолёгіі БАН 11/III-32 г.)

Усесаюзным аб'яднаньнем па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі ў сельскай гаспадарцы пры НКЗ СССР і ў прыватнасьці часопісам „На защиту социалистического урожая" праведзена вялікая работа па выкрыцьцю контррэволюцыйных тэорый у галіне аховы соцыялістычнага ўраджаю, хаця прызнаць гэтую крытыку дастатковай ні ў якім разе нельга, бо яна не насіла сыстэматычнага характару і зусім не ахапіла літаратуру, якая выдавалася на нацыянальных мовах.

Якія мы мелі шкодныя плыні ў літаратуры на расійскай мове ў галіне аховы расьлін? Мы тут сустракаліся з аполёгетамі капіталістычнага шляху разьвіцьця СССР. Мы тут сустракаем трубадураў прымітыўнае тэхнікі, сьпевакоў рыначнае стыхіі, апосталаў буржуазных тэорый „біолёгічнай роўнавагі" [1]) (Троіцкі, Ячэўскі), тэорыі выраджэньня [2]) (Ячэўскі, Раждзественскі). Іншымі словамі кажучы—шкодніцкай дзейнасьцю Кандрацьеўска-Чаянаўскай групы была ахоплена і галіна аховы расьлін. На жаль, такі малюнак мы мелі і ў літаратуры, якая выдавалася на беларускай мове, але разгорнутага выкрыцьця шкодных тэорый у літаратуры на белмове ў галіне аховы расьлін да гэтага часу яшчэ ня зроблена.

Я тут маю на мэце гэты прабел запоўніць, зразумела, не прэтэндуючы на паўнату.

Прыступаючы да разгляду літаратуры, трэба ў некалькіх словах затрымацца на навукова-дасьледчай рабоце ў галіне аховы расьлін у БССР. Як вядома, уся навукова-дасьледчая работа па ахове расьлін, галоўным чынам, праводзілася Менскай станцыяй аховы расьлін, якая знаходзілася ў сыстэме был. Навукова-дасьледчага інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна. Што, напрыклад, зрабіла да 1929 г. Станцыя—дае адказ у сваім артыкуле „Ахова расьлін на Беларусі" (часоп. „Сельская і лясная гаспадарка" № 1 1929 г.) выконваючы абавязкі дырэктара гэтай станцыі—Пілько М.

Пілько ў гэтым артыкуле, падагульваючы за некалькі год работу станцыі, заяўляе: „на першым месцы сярод прац можна адзначыць пытаньне вывучэньня суьлікаў, якое было пастаўлена даволі шы-

---

[1]) Падрабязная крытыка гэтай тэорыі мною дана ў артыкуле „Грыбныя хваробы сілосных культур БССР", часопіс „Сав. Краіна" № 12 за 1931 год.

[2]) „Савецкая Беларусь" ад 16-III-31 г.

рока". Ва ўмовах БССР (па Пілько) суські займалі галоўнае месца (суськаў у БССР амаль няма), а пытаньнямі барацьбы з хваробамі, шкоднікамі тэхнічных, садова-гародных культур, бульбы станцыя не займалася.

Выконваючы об'ектыўна контррэволюцыйную ролю беларускіх нацдэмаў, станцыя мела цесную сувязь з кулацтвам вёскі, пад відам так званых „самаахвотных корэспондэнтаў". Што гэта так, аб гэтым сьведчыць выданы станцыяй падручнік для самаахвотных корэспондэнтаў у 1929 г. У гэтым падручніку на 1 стар. надрукавана паладжэньне аб корэспондэнтах. Да 7 пункту, дзе гаворыцца аб тым, што корэспондэнты маюць права атрымліваць дарэмна атруты для барацьбы са шкоднікамі, зроблена наступная заўвага: „Ня маюць права на дарэмнае атрыманьне сродкаў барацьбы са шкоднікамі кулацкія гаспадаркі". (Майце на ўвазе, што ўсё гэта пішацца ў сярэдзіне 1929 г.). Гэта значыць, што ў лік корэспондэнтаў маглі залічацца кулакі. Зроблены аналіз анкет (1930 г.) і тая чыстка, якая праведзена была, паказала, што большая палова корэспондэнтаў былі кулакі. Пілько ў гэтым падручніку раіць у справе барацьбы са шкоднікамі аб'яднацца ўсёй грамадой вёскі ў адно таварыства. Вось што ён заяўляе на 8 стар.: „Праводзячы масавую працу па барацьбе са шкоднікамі ўсёй грамадой вёскі (кулакі—беднякі—серадзнякі—Н. Д.) ці аб'ядкаўшы некалькі вёсак у адно таварыства, шмат лягчэй і хутчэй дасягнуць належных вынікаў". Пілько ўсіх валіць у адну кучу (беднякоў, серадзнякоў з кулакамі), у адно „таварыства". Далей ён гаворыць (на гэтай-жа старонцы), што „да корэспондэнтаў належаць земляробы (чытай кулакі—Н. Д.), аграномічны пэрсонал, сябры комун, арцеляў, сельска-гаспадарчых таварыстваў, колгасгаспадарак". Як бачыце, апрача таго, што Пілько не жадае заўважаць клясавай барацьбы ў вёсцы, на яго думку арцель і комуна—гэта адно, а колгасныя гаспадаркі—другое. Тут або палітычная і разумовая тупасьць, або сьвядомы венегрэт.

Пасьля вышэйсказанага прыходзіцца зьдзіўляцца, што кіраўнікі Беласоавіяхіму ў выданым імі „Зборніку матар'ялаў для актыву асоавіяхіму па організацыі і правядзеньню барацьбы са шкоднікамі і хваробамі с.-г. расьлін", выданьне Беласоавіяхіму 1930 г., у разьдзеле „Праца сярод вучняў па барацьбе са шкоднікамі с.-г. расьлін" на старонцы 34-35 для вучняў раяць кулацкі „падручнік" Пілько, да і ня толькі гэта—уключаны ў рэкомэндацыйны сьпіс літаратуры шкодныя кніжкі Шчэрбіноўскага, Троіцкага, Каралькова і інш.

Другі працаўнік станцыі С. М. Тупяневіч у сваім артыкуле „Высокі ўраджай і грыбныя хваробы расьлін" (гл. часопіс Сельская і лясная гаспадарка, кн. 7 за 1928 г.), пропагандуе мэханістычны закон Лібіха, праводзіць думку, што ўгнаеньне, лепшыя сарты спрыяюць найлепшаму і найхутчэйшаму пашырэньню хвароб. Вось што ён піша на 180 стар. паказанага артыкулу: „Кожны фактар мае свой уплыў на расьліну, і ўраджай залежыць ад найменшага з іх у колькасным азначэньні". Як бачыце, тут фактар разглядаецца ня ў сувязі, ня ў злучнасьці, а ізолявана—мэханістычна. Далей (на гэтай-жа старонцы) Тупяневіч заяўляе: „А з ходам інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі, уводам высокакультурных сартоў, большых нормаў угнаеньня, а таму і большай лёгкасьці ў разносе заразы, грыбныя хваробы, натуральна, будуць мець нахіл у бок пашырэньня". Як бачыце, тут выразная пропаганда таго, што ня ўносьце гной, бо грыбныя хваробы ад гэтага пашыраюцца, ня выводзьце высокакультурных (устойлівых) сартоў, бо грыб-

ныя хваробы пашыраюцца, іншымі словамі, ня трэба рабіць уздыму ўраджаю, бо ад гэтага пашыраюцца грыбныя хваробы [1]). Бязумоўна, гэта абсурд, бо ад унясеньня ўгнаеньня (асабліва мінэральнага) грыбныя хваробы памяншаюцца (капусная кіла, бульбяныя хваробы, галаўня, хваробы лёну і г. д.). Што датычыцца высокакультурных сартоў, дык многа ўжо існуе сярод іх адносна ўстойлівых (Вольтман—супроць бульбянога грыбка, антонаўка—супроць паршы яблык, Дабер (стары), Айриш Коблер, Парнасія, Пепо—супроць бульбянога рака г. д.). І цяпер сэлекцыянэры і фітапатолёгі заняты вывядзеньнем высокакультурных, высокіх па гаспадарчым якасьцям (у залежнасьці ад прызначэньня: для жывёлагадоўлі, для перапрацоўкі і г. д.), устойлівых супроць грыбных хвароб і шкоднікаў, зімастойкіх, засухастойкіх сартоў ва ўсіх галінах соцыялістычнага земляробства. Гэтай справай павінны займацца ня толькі вучоныя, але і колгасьнікі, рабочыя савгасаў, аграномічны пэрсонал, краязнаўчыя організацыі і г. д.

У другой сваёй навукова-популярнай брошуры—„Грыбныя хваробы расьлін“, выданьне БДВ 1929 г. С. Тупяневіч стараецца прапагандаваць перавагу кулацкае гаспадаркі з пункту погляду „тэхнікі“.

На стар. 18 ён заяўляе: „У лепшых сялянскіх гаспадарках (чытай кулакоў—Н. Д.), як у сялян-дасьледчыкаў, ураджаі бульбы перавышаюць часта 14 тон з гектара і дасягаюць нават 30 тон. Але гэта ў лепшых гаспадарках, на прыкладах якіх можна вучыцца. Большасьцьжа сялянскіх гаспадарак, якіх ёсьць сотні тысяч (бядняцка-серадняцкіх было ў 1929 г. сотні тысяч—Н. Д.), маюць „сярэдні“ ўраджай бульбы, а лепш кажучы, зусім нізкі, які амаль увесь і скарыстоўваецца ў самой гаспадарцы. Яшчэ зусім мала гаспадарак, якія лішкі бульбы прадавалі-б на крухмальную ці бровар“. Такім чынам, Тупяневіч раіць вучыцца на прыкладах кулацкіх гаспадарак, ён шкадуе, што такіх (кулацкіх) гаспадарак яшчэ мала, і гэта пішацца і выдаецца ў 1929 г., а дзе-ж Тупяневіч дзеў савгасы, колгасы, што ён ніводным словам ва ўсёй брошуры не памінае аб іх, нават у яго ня існуе ні бедняка, ні серадняка, а лепшы гаспадар (чытай—кулак) і дрэнныя гаспадары (гэта значыць трэба разумець беднякі-серадпякі). Ратуючы за кулацкую гаспадарку, Тупяневіч на стар. 22, гаворачы аб спосабах змаганьня з хваробамі бульбы, заяўляе: „Перавага ручнога і плужнога капаньня перад машынным“. Што гэта значыць? Гэта значыць, ня трэба бульбакапалак, бо яны пашыраюць распаўсюджаньне хвароб, так выходзіць па Тупяневічу, так гаварылі Кандрацьевы, Чаянавы. Напрыклад, Кандрацьевец І. Арыстаў у кніжцы „Озимая рожь в Сибири“ заяўляе: „Павольны збор сярпом дапушчае найбольшую акуратнасьць уборкі. Дае яна пры гэтым правільныя снапы і дазваляе папутна выдаляць пустазельныя травы і разьбіраць паблытанае збожжа“ (стар. 35).

Але ў процівагу аполёгетам капіталістычнага шляху разьвіцьця СССР, у процівагу трубадурам прымітыўнае тэхнікі, соцыялістычныя палі (савгасаў, колгасаў) маюць комбайны, бульбакапалкі, трактары, праўда

---

[1]) На такім поглядзе стаіць І. М. Пілько, толькі ў галіне энтомолёгіі. У сваёй кніжцы „Да характарыстыкі экономічнага значэньня шкоднікаў на Беларусі“ выд. 1927 г., прыводзячы падобную вытрымку з працы Н. Н. Троіцкага, ён салідарызуецца з ёю (ст. 4). Хаця гэта праца Пілько мае каштоўны фактычны матар'ял. Апрача вышэйадзначанага, аўтар ухітрыўся на працягу ўсёй працы ня ўжыць ніводнага разу слова „Савецкі саюз“, „Савецкая Беларусь“, у яго на кожным месцы сустракаеш „Расія“ і ў 1910 г., „Расія“ і ў 1926 г.

*Н. Д.*

яшчэ ня ўсе, але будуць мець усе вырабы соцыялістычнай прамысловасьці Савецкага саюзу. Абаронцай прымітыўнае тэхнікі ў барацьбе са шкоднікамі расьлін зьяўляецца (як і трэба было чакаць) памянуты вышэй Пілько. Так, напрыклад, у сваёй брошуры „капусная муха“, выданьне БДВ 1930 г., Пілько раіць на стар. 23 „раздушваньне яечак пальцамі“, на стар. 25 „пасыпку зямлі каля высаджанай расады саломенаю сечкаю“, на 25 „пакрываньне парнікоў марляю“. У другой брошуры „Лугавы матыль“, выданьне БДВ 1930 г., Пілько на стар. 25 раіць: „лоўлю матылёў асобнай прыладай—сачком“. Тое-ж самае знаходзім мы ў цытаваным ужо зборніку Беласоавіяхіму, напрыклад, на стар. 16 раіцца „ільнянага чарвяка-вусеня зьбіраць рукамі з расьлін“. Там-жа—палявы смоўж зьбіраецца рукамі з расьліны і г. д.

Бязумоўна, гэта абсурд, што зразумела нават школьніку нулявой групы, бо раздушваць яечкі пальцамі можна толькі тады, калі мы не соцыялістычны ўраджай ахоўваем, а займаемся пустымі забавамі. Накрыць марляю можна адзін-два парнікі (кулацкая гаспадарка), але ня хопіць і марлі і часу, калі мы будзем мець справу з больш як 20.000 парніковых рам (Белкоопсаюз). Лавіць матылёў сачком можна, праўда, не пры барацьбе за ахову соцыялістычнага ўраджаю, а для колекцыі і ў часе адпачынку.

Барацьбу мы вядзем не сачком, ня марляй, ня пальцамі, а побач з агротэхнічнымі мерапрыемствамі (севазварот, апрацоўка глебы, устаноўленыя сарты і г. д.) атрутамі, пры дапамозе коннай апырсквалкі, конна-моторнай, трактарнай, аўтомобільнай, самалёту, выкарыстоўваючы і прасьцейшую апаратуру, як напрыклад ранцавыя апырсквалкі. Гэтага ня мог ня ведаць Пілько. І горш за ўсё тое, што ўся гэтая халтура выдаецца БДВ ў 1929-1930 г.г. і распаўсюджваецца да 1932 г.

Калі да гэтага дадаць яшчэ тое, што выдаваліся яўна шкодніцкія кніжкі, як напрыклад, М. Уліцін „Насеньне, яго якасьці, падрыхтоўка да сяўбы і хаваньне“, БДВ, тыр. 22.000, 1931 г., у якой аўтар пры пратручваньні супроць галаўні раіў насеньне трымаць у растворы мядзянага купарвасу замест 5—10 мінут, 6—16 гадзін, ад чаго заместа пратручваньня атрымалася-б затручваньне (кніга не атрымаўшы распаўсюджваньня пасьля рэцэнзіі ў „Зьвязьдзе“ [1]) была ізьята), а таксама калі ўспомніць гісторыю з двума шкодніцкімі плякатамі ў 1930 г., дык зусім стане зразумелай важнасьць бальшавіцкае пільнасьці, неабходнасьць жорсткае барацьбы з усялякімі буржуазнымі і дробна-буржуазнымі тэорыямі на базе марксысцка-ленінскае тэорыі, барацьбы за партыйнасьць у навуцы, барацьбы з гнілым лібэралізмам і рознага колеру опортунізмам як правым, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, так і левым. Па гэтаму ліст т. Сталіна ў часопіс „Пролетарская рэволюцыя“ мае ня толькі выключна палітычнае значэньне для гісторыкаў, для грамадаведаў і г. д., але ён таксама адносіцца і да біолёгаў, да такой, як здаецца, вузкай спэцыяльнай галіны, як фітапатолёгія і энтомолёгія.

Адсюль зразумела, што Інстытут біолёгічных навук БАН, кожны яго працаўнік, павінен заняцца ня толькі крытыкай і выкрыцьцём шкодных тэорый іншых працаўнікоў, але і самакрытыкай. Таму, хто будзе жадаць выпраўляць свае памылкі, увесь колектыў навуковых працаўнікоў Інстытуту, пад кіраўніцтвам партыйнага колектыву, паві-

---

[1]) Падрабязная крытыка дана ў маім артыкуле „Супроць шкодных парод у барацьбе з галаўнёй“. „Зьвязда“ ад 16-III-31 г.

нен дапамагчы. Усё гэта можна зрабіць пры ўмове разгортваньня жорсткай крытыкі і самакрытыкі, пры ўмове ўзбраеньня кожнага працаўніка вучэньнем Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна.

Увага: Тут я зусім не затрымаўся на сэрыі прац пад назвай „Суслики в Белоруссии“ проф. Яцэнткоўскага, Патаюка, і Адамава таму, што гэтыя працы займаюць асобнае палажэньне. Таксама тут не закрануты працы выданьня 1931 і 1932 г. і працы выданьня был. Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі і Горацкай дасьледчай станцыі.

# БІБЛІОГРАФІЯ

В. Скардзіс

## „Борьба классов“

Исторический массовый ежемесячный журнал Общества историков-марксистов при Комакадемии ЦИК СССР, 1932 г. № 1, стр. 94, цена отд. номера 1 руб., тираж 14.500.

Часопіс „Борьба классов“ уступіў ужо ў другі год свайго выданьня. Ён выходзіць з сакавіка 1931 г. Мэта часопісу—рэгулярна знаёміць шырокія масы рабочых, колгасьнікаў, савецкай інтэлігенцыі з апошнімі дасягненьнямі марксысцка-ленінскай навукі ў галіне гісторыі. Аднак, часопіс з самага пачатку свайго існаваньня не абмежаваўся выключна інформацыйнымі задачамі і зьмяшчэньнем спэцыяльных артыкулаў. Ён значна пашырыў свае мэты. Часопіс сконцэнтраваў навакол сябе значнае кола чытачоў, уцягнуў у супрацоўніцтва рабочых і колгасьнікаў, дзякуючы чаму ён зрабіўся сапраўды масавым навукова-популярным выданьнем. Часопіс заслугоўвае самай сур'ёзнай да сябе ўвагі і з боку нашых краязнаўчых організацый і паасобных актывістаў-краязнаўцаў. Савецкае краязнаўства, падпарадкаванае задачам соцыялістычнага будаўніцтва, ня можа быць адарвана і ад дасьледваньня пытаньняў гістарычнага зьместу.

З гэтага пункту погляду значную цікавасьць для краязнаўцаў, асабліва ў сэнсе мэтодолёгіі, прадстаўляюць сталыя разьдзелы часопісу пад назвай „История фабрик и заводов“ і „Массы творят и пишут историю“. Трэба зусім адкрыта сказаць, што нярэдка краязнаўчыя ячэйкі і гурткі і паасобныя таварышы, якія працуюць над гістарычнымі пытаньнямі, сустракаюцца ў сваёй рабоце з вялікімі цяжкасьцямі мэтодолёгічнага парадку—выбар конкрэтнай тэматыкі, мэтоды і форма зьбіраньня і апрацоўкі матар'ялаў гістарычнага зьместу і г. д. Многія з маладых краязнаўцаў мэтодычна і мэтодолёгічна належным чынам яшчэ не падкаваны, існуючая сухая мэтодычная літаратура не заўсёды здавальняе пачынаючага краязнаўца. Таму трэба вучыцца працаваць на добрых узорах. Вось з гэтага пункту погляду часопіс „Борьба классов“ і можна шчыра рэкомэндаваць нашым краязнаўцам, бо часопіс можа ў пэўнай ступені запоўніць прабел у мэтодолёгічнай непадрыхтаванасьці ў справе ўменьня асьвятляць пытаньні гістарычнага зьместу, якія маюць шчыльную сувязь з агульнай краязнаўчай работай. Памянёныя вышэй разьдзелы часопісу каштоўны для краязнаўцаў таму, што яны вучаць краязнаўцаў, як трэба пісаць гісторыю прад-

прыемства, колгасу, савгасу. Разам з тым, часопіс, падаючы рад артыкулаў з гісторыі клясавае барацьбы, паглыбіць і гістарычную асьвету краязнаўцаў і будзе інформаваць іх аб тым, што цяпер робіцца на фронце гістарычнае навукі.

Коратка застановімся на першым нумары часопісу гэтага году.

У нумары ёсьць наступныя разьдзелы: а) агульны, б) клясавая барацьба на Захадзе, в) гісторыя фабрык і заводаў, г) масы ствараюць і пішуць гісторыю, д) докумэнты і е) бібліографія.

Першы разьдзел пачынаецца артыкулам т. Мэхліса „К новым победам“. У сьціслай форме аўтар дае аналіз вынікаў XVII усесаюзнай партконфэрэнцыі. Гэта конфэрэнцыя нашай партыі ўпісала сваёй работай бліскучыя старонкі ў гісторыю бальшавізму, гісторыю Кастрычнікаўскай рэволюцыі, гісторыю міжнароднага соцыялістычнага рабочага руху. Яна ўвойдзе ў гісторыю, як конфэрэнцыя, на якой комуністычная партыя дала конкрэтную програму скончэньня пяцігодкі ў чатыры гады і вызначыла шляхі пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва ў другой пяцігодцы.

Артыкул М. Пакроўскага „Речь на десятилетии Института красной профессуры“ ў вельмі жывой, уласьцівай выдатнаму гісторыку форме, падводзіць вынікі дзесяцігадовай работы Інстытуту чырвонай профэсуры. Інстытут за параўнаўча кароткі тэрмін свайго існаваньня пасьпеў падрыхтаваць значныя кадры высокакваліфікаваных гісторыкаў-ленінцаў, змагароў за дыктатуру пролетарыяту, за марксысцка-ленінскую мэтодолёгію ў гістарычнай навуцы. Тав. Пакроўскі спыняецца і на радзе недахопаў у рабоце Інстытуту. Ён таксама завострывае ўвагу гісторыкаў-марксыстаў на неабходнасьці аўладаньня конкрэтным гістарычным матар'ялам усіх без выключэньня пэрыодаў гісторыі, а ня толькі бліжэйшых да сучаснасьці пэрыодаў.

Тав. Кнорын у артыкуле „За большевистскую партийность в исторической науке“ трактуе аб задачах нашага гістарычнага фронту ў сувязі з лістом т. Сталіна „Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму“. Адзначаючы тую вялікую ролю, якую ў разьвіцьці навуковае думкі павінна адыграць самакрытыка, аўтар падкрэсьлівае неабходнасьць таго, каб усе распрацоўваемыя гістарычныя пытаньні былі прасякнуты партыйнасьцю. Трэба, „займаючыся пытаньнямі гісторыі, умець зьвязаць проблемы гісторыі з проблемамі сёнешняга дня. Гісторыя толькі тады мае сэнс, калі яна працуе для пытаньняў сёнешняга дня, для соцыялістычнага будаўніцтва, для рэволюцыі“.

У гэтым-жа самым разьдзеле часопісу зьмешчаны тэкст ліста т. Сталіна Леніну з сольвычагодзкай ссылкі (1910 г.). Гэты ліст т. Сталіна адносіцца да таго пэрыоду ў гісторыі нашай партыі, калі, у сувязі з глухой рэакцыяй пасьля паражэньня першай рускай рэволюцыі, у сувязі з упадкамі масавай барацьбы, развалам організацый, у сувязі з уцяканьнем з партыі інтэлігенцыі, Леніну (бальшавіком) прыходзілася весьці самую жорсткую барацьбу на два франты: супроць ліквідатараў, якія адмаўлялі неабходнасьць існаваньня нелегальнай рэволюцыйнай партыі і ўсялякім чынам аплёўвалі яе, і супроць ліквідатараў зьлева—адзавістаў (упяродаўцаў), якія не разумелі неабходнасьці скарыстаньня легальных мажлівасьцяў, а таксама і супроць прымірэнцаў у сваіх уласных радох (Каменеў, Рыкаў, Ногін і інш.).

Вельмі цікавымі ў другім разьдзеле часопісу зьяўляюцца ўспаміны Вільгельм Піка—„Образование германской компартии“.

Выключны інтарэс для краязнаўцаў маюць наступныя два разьдзелы часопісу. У разьдзеле. Гісторыя фабрык і заводаў“ зьмешчаны артыкул В. Каюрава „Сормовичи в борьбе с самодержавием“. Там-жа надрукаваны аўтобіографіі рабочых Сормаўскага заводу—Л. І. Авуаля і М. Ф. Бокава, якія напісаны імі самімі ў сувязі з трыццацігодзьдзем ніжагародзкай і сормаўскай бальшавіцкіх організацый. У кастрычніку мінулага году ніжагародзкі пролетарыят, на чале з сваёй парторганізацыяй, падводзіў вынікі трыццацігадовай барацьбы ніжагародзкіх і сормаўскіх бальшавікоў супроць самаўладзтва і буржуазіі, барацьбы за пролетарскую рэволюцыю, за стварэньне соцыялістычнае гаспадаркі і грамадзтва.

Збор і апрацоўка матар'ялаў па гісторыі фабрык і заводаў СССР высунута нашай партыяй як неадкладная задача для ўсёй савецкай грамадзкасьці. Аб удзеле краязнаўцаў па ажыцьцяўленьню гэтай задачы „Савецкая Краіна“ ўжо ня раз пісала. Старонкі часопісу „Борьба классов“ даюць жывы прыклад, як гэтую задачу трэба вырашаць і выконваць.

Артыкулам А. Жаркова История колхоза „Свободный труд“ (аўтар—старшыня колгасу), у якім апісваецца гісторыя ўзьнікненьня колгасу, яго разьвіцьцё і сучасны стан, часопіс організоўвае сталы разьдзел пад лёзунгам „Масы ствараюць і пішуць гісторыю“.

Часопіс уцягвае ў супрацоўніцтва непасрэдных удзельнікаў соцбудаўніцтва, удзельнікаў вялізарнейшае барацьбы за соцыялізм. Практыка часопісу за мінулы год ужо паказала, што масы ахвотна пішуць самі гісторыю, даюць жывыя старонкі барацьбы, паказваюць сапраўдных барацьбітоў і герояў соцыялістычнага будаўніцтва, узбагачаюць падагульняючы нашу практыку. Гісторыя-ж узбройвае жывой і жыцьцёвай практыкай, якая патрэбна рабочым і колгасьнікам для іх далейшага соцыялістычнага наступу.

---

Проф. П. Салаўёў

*П. Н. ГАЛАХОВ. Главнейшие вредители прядильных культур с основами общей энтомологии. Сельколхозгиз. 1931, стр. 1—143, цена 1 руб. 50 коп.*

Вышэйназваная кніжка напісана асыстэнтам Ленінградзкага інстытуту прадзільных культур у якасьці падручніка. У ім вывучаюцца галоўнейшыя шкоднікі прадзільных культур—канапель. У кнізе толькі адзін друкаваны аркуш (стар. 108—124), прысьвечаны шкоднікам ільну. Падаўшы веды адносна біолёгіі *ільняных блох*, аўтар раіць гэткія меры барацьбы з блыхамі:

„Зараз пасьля ўборкі ільнянага поля асеньняе ўзорваньне. Пры гэтым зьнішчаецца значная колькасьць блох, якія ня ўсьпелі вылецець з глебы. Трэба руйнаваць межы, зарослыя пустазельлем і хмызьнякамі і прылягаючыя да ільняных палёў таму, што там зімуюць блохі. Магчымы раньнія тэрміны сяўбы ільну ў адпаведнасьці з лётам блох і з запатрабаваньнямі аграноміі. Апылкаваньне ільну мыш'якова-кіслым сьвінцом і кальцыем".

Меры барацьбы, якія аўтар раіць супроць *соўкі-гамы*, нічым не адрозьніваецца ад тых, якія наогул прыводзяцца ў розных падручніках. Ён піша наступнае:

1) „Таму, што соўка-гама кладзе яйкі галоўным чынам на пустазельлі і ўжо з апошняга чарва пераходзіць на культурныя расьліны, неабходна зьнішчэньне пустазельля ў пасевах і паблізу іх.

2) Больш раньнія пасевы ільну менш пашкоджваюцца.

3) У выпадку нападу чарвы соўкі на культурныя ўчасткі з бакоў неабходна ўжываць заграджальныя канавы.

4) Зьбіраньне чарвы ў мяхі на абручох, але гэты спосаб на вялікіх участках зьяўляецца няпрыгодным.

5) Для непасрэднага зьнішчэньня чарвякоў раіцца апырскваньне растворам 400—600 г хлёрыду барыю (хлористого бария) на 12 л вады.

6) Апыльваньне крэмнефторыстым барыем".

Што тычыцца *ліставёрткі*, дык аўтар па сутнасьці нічога не дае: „Таму, што чарва ільняной ліставёрткі жыве сукрыта, хаваючыся ўвесь час у сярэдзіне насеннае каробачкі, што вельмі ўскладняе барацьбу з ёй пры дапамозе спэцыяльных прэпаратаў і меры барацьбы ў гэтым кірунку з ліставёрткай не распрацаваны".

Адносна *люцэрнавай соўкі*, якая напэўна ў нас не сустракаецца, зьяўляючыся прадстаўніком паўднёвых краін (гл. Красильщик—„Люцерновая или льняная совка и некаторые другие вредители льна на Северном Кавказе". Деп. Земл. 1900), аўтар раіць наступныя меры барацьбы:

„Чарва ўвесь час на вачох харчуецца расьлінамі і не хаваецца, чаму супроць яе можна ўжываць хэмічны мэтод барацьбы. Найбольш чулымі да атруты зьяўляюцца чарвякі 1—3 узростаў і пагэтаму трэба не пазьніцца са зьнішчэньнем чарвы. Раіцца браць 10—16 г парыскае зелені на 12 л вады пры падвойнай колькасьці вапны. Апрача гэтага апырскваньня можна таксама ўжываць апыльваньне мыш'якова-кіслым кальцыем".

Супроць *лугавога матылька* раіцца аўтарам:

„1) Атручваньне чарвы хлёрыдам барыю і парыскай зеленьню. Рэцэпты: 240—600 г хлер. барыю на 12 л вады пры 60—80 г патакі, ці таксама—20 г зелені на 12 л вады з дадаткам 60 г сьвежа гашанай вапны. Лепшыя вынікі атрымліваюцца пры апыльваньні крэмнефторыстым натрам і мыш'якова-кіслым кальцыем.

2) Для абароны пасеваў, яшчэ не пашкоджаных чарвой лугавога матылька, ад перапаўзаньня на іх з суседніх участкаў, ужо пашкоджаных, раіцца стварэньне глыбокіх канавак".

Супроць *капуснай соўкі* аўтар раіць апырскваньне растворам 12—16 г парыскае зелені на 12 л вады пры падвойнай колькасьці вапны.

Меры барацьбы з *азімай* і *васкліцацельнай совак* зводзяцца аутарам да зьнішчэньня пустазельля і да лоўлі матылькоў на патаку і г. д.

Адносна *камароў-друганожак* аўтар піша наступнае:

„1) Паколькі мухі з ахвотай кладуць яйкі на больш вільготныя палі, палі раіцца асушваць.

2) Для зьнішчэньня шкоднікаў раіцца ўжываньне атручаных прынад: 25 кілё пшанічных вотрубяў на 1 кілё парыскай зелені, ці 500 г мыш'яковіста-кіслага натру на 10 л вады. Мешаніну лепш раскідваць у цёплую вільготную ноч".

Урэшце, аўтар закранае біолёгію і меры барацьбы з *бураковым клапом*, які, магчыма, у нас не сустракаецца. У барацьбе з ім раіцца зьнішчэньне пустазельных траў, асабліва „шири" і лебяды. Гэта—асноўнае. У выпадку масавага зьяўленьня клапа, у час усходу ільна раіцца апырскваньне *растворам*—200—400 г зялёнага мыла на 12 л вады.

---

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Пастанова № 58 Колегіі Народнага Камісарыяту Асьветы БССР ад 11/IV-32 г.

### Аб выніках Усебеларускай нарады музэйных работнікаў.

Заслухаўшы даклад Сэктару навукі аб выніках нарады музэйных работнікаў, Колегія НКА адзначае:

1. Роля савецкіх музэяў, як магутных сродкаў мобілізацыі працоўных мас на рэалізацыю конкрэтных задач соцбудаўніцтва, набывае ў сучасны момант асаблівае значэньне.

Абвостраная клясавая барацьба знайшла свой яскравы адбітак і ў музэйнай рабоце, асабліва ў форме праяў вялікадзяржаўнага шовінізму, беларускага нацдэмократызу, яўрэйскага, польскага і інш. шовінізмаў.

На аснове пасьлядоўнага правядзеньня генэральнае лініі партыі і ленінскай нацполітыкі, змагаючыяся з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, рабочая кляса БССР, пад кіраўніцтвам компартыі, нанесла руйнуючы ўдар па беларускаму нацдэмократызму, які імкнуўся скарыстаць музэйную справу ў сваіх контррэволюцыйных мэтах, а таксама і па праявах шовінізмаў розных колераў.

У выніку гэтай барацьбы музэі БССР становяцца на шлях перабудовы сваёй раработы ў адпаведнасьці з задачамі соцбудаўніцтва, пачалі больш зьвязвацца з рабочымі масамі і г. д.

2. Аднак, колегія констатуе, што музэі БССР маюць яшчэ значныя недахопы ў рабоце, асноўнымі з якіх зьяўляецца:

а) да гэтага часу яшчэ па цэламу шэрагу музэяў пануе музэйная замкнутасьць, слабая масава-політасьветная работа, накіраваная на дапамогу конкрэтным задачам гаспадарчага і культурнага социялістычнага будаўніцтва. Некаторыя музэі яшчэ не займаюцца актыўна пропагандай нашых дасягненьняў і барацьбой з недахопамі, а толькі—зьбіраньнем экспонатаў;

б) слаба разгорнута навукова-дасьледчая і краязнаўчая работа;

в) зусім слаба ўжываюцца ў рабоце музэяў соцыялістычныя мэтоды работы: соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

У мэтах ператварэньня музэяў у сапраўдныя асяродкі навукова-даследчай і політыка-асьветнай работы, падпарадкаваньня іх работы задачам соцыялістычнага будаўніцтва,—Колегія НКА пастанаўляе:

1. Усім музэям, пад адказнасьць дырэктароў, у бліжэйшы тэрмін правесьці рэорганізацыю музэйнае экспозыцыі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на асьвятленьне соцбудаўніцтва, клясавай барацьбы пролетарыяту, задач вытворча-тэхнічнай пропаганды, політэхнізацыі, антырэлігійнае работы і ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны. Пабудаваць экспозыцыю такім чынам, каб яна садзейнічала выпрацоўцы матар'ялістычнага, марксысцка-ленінскага сьветапогляду, засьваеньню працоўнымі масамі задач тэхнічнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі культбудаўніцтва свайго раёну, гораду, БССР, СССР.

2. У мэтах рэалізацыі пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школ, ажыцьцяўленьня сталінскага лёзунгу: „Тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі—вырашае ўсё", музэям організаваць вытворча-тэхнічную пропаганду, популярызацыю рацыяналізатарскіх прапаноў, вынаходства. Пры экспозыцыі паказваць не асобныя модэлі, макеты, кавалкі машын, а ўвесь процэс вытворчасьці.

3. Усім музэям, пад адказнасьць дырэктароў, да 15/VI організаваць політэхнічныя аддзелы.

Організаваць сталую консультацыйна-даведачную работу па пытаньням політэхнізацыі, аўладаньня тэхнікай, антырэлігійнай пропаганды і ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны.

Сэктару навукі, сумесна з ДВС і Школьным сэктарам, распрацаваць і даслаць на месца мэтодычны ліст аб політэхнічных аддзелах. Тэрмін не пазьней—1/V-32 году.

4. Музэям зрабіць паварот да вытворчасьці, разгарнуць масавую політасьветную

работу ў самім музэі па-за яго сьценамі. Накіраваць усю масавую палітасьветработу на мобілізацыю працоўных мас для ўдзелу ў соцбудаўніцтве. Асьвятліць ход соцспаборніцтва, ударніцтва, ход выкананьня прамфінпляну і г. д.

а) Арганізаваць сталыя выстаўкі - перасоўкі і музэй-газэты на прадпрыемствах, у колгасах, савгасах, чырвонаармейскіх частках, клюбах, школах і г. д., скарыстоўваючы мясцовыя экспонаты.

б) На працягу красавіка арганізаваць выстаўкі-перасоўкі па пытаньню 3-й бальшавіцкай сяўбы.

5. Кожнаму музэю разгарнуць навукова-дасьледчую работу ў кірунку вылучэньня і вышуканьня прыродна-вытворчых багацьцяў, праводзячы гэтую работу сумесна з гаспадарчымі і краязнаўчымі арганізацыямі.

6. Для распрацоўкі пытаньняў мэтодолёгіі музэязнаўства і арганізацыі агульна-мэтодычнага плянавага кіраўніцтва музэям, падпарадкаваным НКА і інш. ведамственным організацыям, пры Сэктары навукі да 15/V арганізаваць міжведамственную камісію з прадстаўнікоў зацікаўленых устаноў.

7. Сэктару Кадраў правесьці ў 1932 г. перападрыхтоўку 25—30 музэйных работнікаў праз курсавую сыстэму. Пры магілеўскім палітасьветтэхнікуме адчыніць з 1/X г. г. музэйнае аддзяленьне для падрыхтоўкі працаўнікоў сярэдняй кваліфікацыі.

Распрацаваць пытаньне аб падрыхтоўцы праз асьпірантуру высока-кваліфікаваных працаўнікоў.

8. Сэктару завочнага навучаньня арганізаваць завочнае навучаньне музэйных працаўнікаў пры Магілеўскім палітасьветным ін-це і тэхнікуме.

9. Лічыць неабходным увайсьці ў СНК з хадайніцтвам:

а) аб дачы НКЦяж. і НКлёг. і інш. гаспадарчым організацыям і аб'яднаньням адпаведнага паказаньня аб бясплатным забесьпячэньні музэяў экспонатамі вытворчасьці і с/гаспадаркі (модэлі, станкі і інш. прылады); а таксама забесьпячэньні консультацыямі пры распрацоўцы экспозыцыі;

б) каб экспонаты і матар'ялы розных часовых выставак (зьезды, конфэрэнцыі і г. д.) перадаваліся адпаведным музэям;

в) аб замацаваньні за музэямі сталых памяшканьняў;

г) паставіць пытаньне перад Белдзяржкіно аб забесьпячэньні музэяў БССР фотоздымкамі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі.

Сэктару навукі падрыхтаваць проект рэзолюцыі СНК да 20/IV г.

10. Указаць усім райаддзелам нарасьветы на неабходнасьць узмацненьня з іх боку дапамогі ў навукова-дасьледчай і палітасьветнай рабоце музэяў.

11. Сэктару навукі і Сэктару забесьпячэньня НКА распрацаваць пытаньне аб магчымасьці організацыі вырабу музэйных экспонатаў масавага карыстаньня (эксдыяскопы, стэрыаскопы, модэлі, макеты, карты, дыяграмы, фото-матар'ялы і г. д.).

12. Плянаваму сэктару пры складаньні другой пяцігодкі, прагугледзець значнае пашырэньне краязнаўчых і гарадзкіх музэяў.

13. Для мэтодычна-організацыйнай дапамогі з боку Белдзяржмузэяў краязнаўчым музэям—лічыць неабходным правесьці раёнаваньне і прымацаваньне краязнаўчых музэяў да Белдзяржмузэяў; конкрэтна—даручыць Сэктару навукі правесьці прымацаваньне да 15/V.

14. Лічыць неабходным адчыніць у 1933 годзе цэнтральны Антырэлігійны музэй у гор. Менску.

15. Лічыць неабходным замест існуючых назваў дзяржаўных музэяў (Культурна-гістарычны, Мастацка-культурны)—назваць іх адпаведна з выконваемымі імі функцыямі—Дзяржаўнымі соцыяльна-гістарычнымі музэямі.

Народны Камісар Асьветы—
П л а т у н.

Сэкратар колегіі А б р а м а в а.

## Усім дзяржаўным і краязнаўчым музэям БССР

Становішча антырэлігійнай пропаганды праз музэі БССР усё яшчэ зьяўляецца нездавальняючым. Наглядаецца слабае пашырэньне гэтай працы ў агульнай музэйнай экспозыцыі, слабы рост новых антырэлігійных куткоў у краязнаўчых музэях. Антырэлігійныя выстаўкі-перасоўка, якія час-адчасу нарыхтоўваюцца некаторымі дзяржаўнымі музэямі, усе яшчэ мала ахопліваюць сваёй пропагандай прадпрыемствы, колгасы, савгасы. Сувязь на мясцох музэяў з саюзам ваяўнічых бязбожнікаў зусім слабая, а некаторыя музэі абсолютна ня маюць сувязі з гэтай вялікай організацыяй, якая на месцы заўсёды можа дапамагчы краязнаўчаму музэю ў організаваньні антырэлігійнага аддзелу.

Улічваючы неабходнасьць пашырэньня антырэлігійнай пропаганды і павышэньня ў гэтай справе ролі краязнаўчых музэяў, Сэктар навукі НКАсьветы накіроўвае гэты інструкцыйна-мэтодычны ліст з паказаньнем асноўных конкрэтных момантаў, якія павінны быць праведзены ў жыцьцё ўсімі, а асабліва краязнаўчымі музэямі пры пабудове новых або перабудове існуючых ужо антырэлігійных аддзелаў.

1. Асноўным зьместам антырэлігійнай пропаганды кожнага музэю павінна быць пропаганда дыялектычна-матар'ялістычнага разуменьня прыроды і грамадзтва, ускрыцьцё соцыяльных карэньняў рэлігіі і контррэволюцыйнай сутнасьці ўсіх рэлігійных організацый, выяўленьне ролі рэлігіі ў барацьбе

з міжнародным рэволюцыйным рабочым рухам і рэволюцыйным нацыянальна-вызваленчым рухам.

2. Антырэлігійная экспозыцыя музэяў павінна зьмяшчаць у сабе матар'ялы навукова-прыродазнаўчага, соцыяльна-грамадзкага і тэхнічнага характару, з увыпукленьнем конкрэтных момантаў, якія характарызуюць шкодную ролю рэлігіі ў данай мясцовасьці.

3. Паказаныя вышэй асноўныя ўстаноўкі кожны музэй павінен распрацаваць сам і сумець адлюстраваць іх у музэйнай экспозыцыі, адпаведна ўсё аформіўшы. У прыватнасьці-ж могуць быць паміж іншымі рэкомэндаваны наступныя падразьдзелы антырэлігійнага аддзелу:

а) адзінства паходжаньня чалавака і жывёлаў;

б) паходжаньне рэлігіі;

в) паходжаньне крыжа;

г) рэлігія ў сярэднявеччы, інквізыцыя;

д) рэлігія — вораг навукі;

е) рэлігія і царызм;

ж) рэлігія на службе буржуазіі і фашызму;

з) роля рэлігійнікаў у часы грамадзянскай вайны;

і) контррэволюцыйная роля рэлігіі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі;

к) рэлігія, сэктанства—вораг соцбудаўніцтва;

л) агрэсыўная роля рэлігійнікаў і сэктантаў у справе колектывізацыі;

м) барацьба супроць рэлігіі — барацьба за соцыялізм.

4. Антырэлігійную пропаганду ў экспозыцыі, этыкетажы, пры праводжаньні экскурсій і індывідуальнай консультацыі, а таксама пры праводжаньні тых або іншых масавых політасьветных і гаспадарчых кампаній — адпаведна сваім мэтавым установкам павінны весьці ўсе без выключэньня музэі, якога-б тыпу яны ні былі.

5. Масавая антырэлігійная праца павінна быць вынесена па-за сьцены самога музэю. Выкарыстоўваючы антырэлігійны матар'ял у самым музэі, неабходна організаваць стацыянарныя выстаўкі і выстаўкі-перасоўкі на паасобныя антырэлігійныя тэмы, лекцыі, даклады і інш. па прадпрыемствах, у клюбах, колгасах, МТС, савгасах.

6. Пад асабістую адказнасьць загадчыкаў усіх краязнаўчых музэяў, асабліва-ж у Тураве, Мазыры, Слуцку, Лепелі, Гарадку і Полацку прапануецца організаваць (або адпаведна перабудаваць) антырэлігійныя аддзелы не пазьней 1 ліпеня сёлетняга году, праслаўшы к таму часу ў Сэктар навукі НКАсьветы справаздачу аб становішчы і разгорнутай політасьветнай работы антырэлігійнага аддзелу свайго музэю.

7. Беларускія дзяржаўныя соцыяльна-гістарычныя музэі, як маючыя ўжо пэўны вопыт у антырэлігійнай пропагандзе і музэйнай экспозыцыі, абавязаны аказаць конкрэтную дапамогу, як мэтодычную і практычна-інструкцыйную, так—у меру магчымасьці—і сваімі матар'яламі, рэпродукцыямі, фотоздымкамі і інш. краязнаўчым музэям пры організаваньні апошнімі антырэлігійных аддзелаў:

Менскі—Бабруйскаму і Койданаўскаму.
Гомельскі—Мазырскаму і Тураўскаму.
Магілеўскі—Слуцкаму і Лепельскаму.
Віцебскі—Полацкаму і Гарадоцкаму.

Гэтыя—вызначаныя ў першую чаргу—краязнаўчыя музэі павінны зараз-жа зьвязацца з паказанымі дзяржаўнымі музэямі ў мэтах хутчэйшай організацыі ў сябе антырэлігійных аддзелаў.

8. Антырэлігійны аддзел можа адсутнічаць толькі ў тым выпадку і толькі ў тых нашых дзяржаўных соцыяльна-гістарычных музэях, дзе забясьпечана *поўная антырэлігійная экспозыцыя музэю ў цэлым.*

Загадчык сэктару навукі НКА
Рак-Міхайлоўскі

# ХРОНІКА

## Да ўсебеларускай конфэрэнцыі па навукова-дасьледчай рабоце ў БССР у другую пяцігодку

Беларуская Акадэмія Навук і Дзяржаўная плянавая камісія БССР склікаюць у гор. Менску ўсебеларускую конфэрэнцыю па навукова-дасьледчай рабоце ў БССР у другую пяцігодку. Конфэрэнцыя адбудзецца на працягу з 25 па 28 мая бягучага году пры БАН. Агульны лік дэлегатаў, запрошаных на конфэрэнцыю, вызначаны ў колькасьці 200 чал., з якіх прадстаўнікоў ад навукова-дасьледчых устаноў—110, ад дзяржаўных устаноў і організацый—30 чал., ад фабрык, заводаў, МТС, колгасаў і савгасаў—20 чал., ад ВНУ—30 чал. і ад раённых краязнаўчых організацый—10 чал. На конфэрэнцыі будуць абмеркаваны наступныя пытаньні: 1) Народна-гаспадарчы плян БССР у другой пяцігодцы, даклад старш. Дзяржпляну БССР т. Шапіра, 2) Навукова-дасьледчая работа ў БССР у другой пяцігодцы, даклад Прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук тав. Горына. Пасьля заслухоўваньня дакладаў будзе організавана работа ў наступных сэкцыях: 1) Сэкцыя соцыяльных навук пад кіраўніцтвам Прэзыдэнта БАН т. Горына і акад. Вольфсона, 2) Сэкцыя біолёгічных Навук пад кіраўніцтвам тт. Ганчарыка, Ганіна і Барысевіча. 3) Энэргетычная, пад кіраўніцтвам Слоніма, Лойка і Чудноўскага, 4) Хэмізацыя народнае гаспадаркі, пад кіраўніцтвам тт. Гімэрфальда, Прыляжаева і Пратасені, 5) Культуры і быту пад кіраўніцтвам тт. Панкевіча, Лівшыца і Брыгневіча, 6) Кадраў, пад кіраўніцтвам Шчарбакова, Брусевіча і Гершэльмана і Масавая навукова-дасьледчая работа, пад кіраўніцтвам тт. Тамашэвіча, Серафімава і Рака-Міхайлоўскага. Работа конфэрэнцыі будзе адбывацца ў актавай залі БАН. У мэтах популярызацыі конфэрэнцыі сярод шырокіх мас працоўных будуць шырока асьвятляцца ў цэнтральным друку пытаньні, над якімі будзе працаваць конфэрэнцыя і ход работы самое конфэрэнцыі. Урачыстае адчыненьне конфэрэнцыі адбудзецца ў доме Комасьветы 25 мая бяг г. а 7 гадзіне ўвечары.

Т. К.

## Насустрач другой пяцігодцы

Цэнтральнае бюро краязнаўства па лініі краязнаўчых організацый аб'явіла дасьледчы паход па адшуканьню сыравіны для станкоў прамысловасьці, у які павінны ўключыцца ўсе краязнаўчыя організацыі і ўсе краяведы. Гэты паход будзе праводзіцца сумесна з комсамолам і Беларускім саветам пролетарскага турызму. Геолёгічны інстытут і ЦБК для раённых краязнаўчых організацый вызначаюць наступныя заданьні:

I. Вывучэньне долёмітаў, вапнякоў, розных глін, тлустых суглінкаў, валуноў вапняковых і крышталёвых парод, бурых жалезьнякоў, сапрапэляў, маргеляў (асабліва лугавых), гравійных паскоў, шчэбеню і мінэралізаваных крыніц у ваколіцах гор. Віцебску і па маршрутах:

1) Віцебск—р. Лучоса—в. Прыкаты, Замасточча—рэчка Абалянка—в. Шылкі—Калкі—Жыгалы і воз. каля в. Жыгалы—в. Цераньне, Віцебск;

2) Віцебск — уздоўж. р. Лужавенкі — в. Шухвасты—воз. Ласьвіда—в. Палонікі—Заронава—Казакі—Шаршні—Віцебск;

3) выяўленьне новых выхадаў вапнякоў па р. Зах. Дзьвіне, якія не паказаны ў „Рэгістрацыйным сьпісе карысных выкапняў БССР", складзеным проф. М. Т. Бліодухо;

4) м. Сіроціна—в. Мішневічы—Рыбачаны—Козьзяны—воз. на поўн.-захад ад Возьзян.—в. Глухая — Роўнае — Расалай — Плігаўка—Чарніца—Сіроціна.

II. Вывучэньне бурых жалезьнякоў, лугавых маргеляў, глін, тлустых, суглінкаў, белых гутавых пяскоў, торфу, сапрапэляў па маршрутах:

5) м. Петрыкаў—в. Аголіцы—в—В. Сілючыца—Бобрыкі—Курыцічы—Рої—Багрымкавічы, адсюль па р. Прыпяці да м. Петрыкава;

6) м. Жыткавічы—Глушцы—разьезд Дзедаўка—даліна р. Скрыпіцы—Кольна—Жыткавічы;

7) даліна р. Прыпяці ў раёне Турава і даліна прытокаў Прыпяці—Маствы, Муцьвіцы.

III. Вывучэньне бурых жалезьнякоў, белых пяскоў, зялёных гляўконітавых пяскоў, лугавых маргеляў, клінкерных глін, фосфарытаў і розных тлустых суглінкаў;

8) па даліне р. Сажа і далінах яго прытокаў—р. Іпуці і Узы.

Організацыя вывучэньня вышэйпаказаных карысных выкапняў зьяўляецца абавязкам раённых краязнаўчых бюро Віцебскага, Сіроцінскага, Петрыкаўскага, Жыткавіцкага, Тураўскага, Гомельскага (у сваіх раёнах).

У раёнах Барысаўскім, Смалявіцкім і Талочынскім неабходна організаваць вывучэньне: валуноў крышталёвых і вапняковых парод, лугавых маргеляў, бурых жалезьнякоў, тлустых суглінкаў, жвіровых (гравийных) і жарсьцьвяных (шчебеневых) пяскоў.

У Бабруйскім—крэйды, зялёных гляўконітавых пяскоў, белых гутавых пяскоў, розных суглінкаў, лугавых маргеляў, бурых жалезьнякоў;

У Рагачэўскім, Уваравіцкім і Буда-Кашалёўскім раёнах—бурых жалезьнякоў, агнятрывалых глін, лугавых маргеляў, тлустых суглінкаў.

Раённыя бюро краязнаўства павінны мобілізаваць усе краязнаўчыя ячэйкі, рабочых, колгасьнікаў і вучнёўскую масу на вывучэньне ўсіх відаў сыравіны ў сваім раёне. Для гэтага, апрача організацыі спэцыяльных краязнаўчых досьледчых экскурсій і экспэдыцый па вызначаных вышэй маршрутах, трэба організаваць сыстэматычнае дасьледваньне выкапняў у прылягаючых да кожнага прадпрыемства, саўгасу, колгасу, школы раёну у парадку стацыянарнага вывучэньня.

Геолёгічны інстытут БАН і ЦБК

## Аб дэкадніку Беларускай Акадэміі Навук у Віцебску

Праведзены даклады на тэмы: 20/IV—Даклад аб рабоце Беларускай Акадэміі Навук і пэрспэктывах навукова-дасьледчай работы ў другой пяцігодцы (тав. Шчарбакоў).

21/IV—крызіс буржуазнай культуры ў капіталістычных краінах і рост пролетарскай культуры ў СССР (тав. Вольфсон).

22/IV—Клясавыя ворагі на гістарычным фронце БССР (т. Карніенка).

23/IV—Падрыхтоўка да вайны ў зах.-эўроп. літаратуры (т. Гальперына).

24/IV—Ленінскі этап у філёзофіі (т. Левін).

25/IV—Геолёгія і яе роля ў социялістычнай гаспадарцы БССР (т. Булыга).

26/IV—Клясавая барацьба і дыктатура пролетарыяту ў другой пяцігодцы (т. Гершэльман).

27/IV—Вучэньне Дарвіна (т. Валабрынскі).

28/IV—Сусьветны экономічны крызіс (т. Ноткін).

29/IV—Другая пяцігодка БССР (т. Пятровіч).

2. На дакладах прысутнічала звыш 4.000 чалавек, а на паасобных дакладах: 20/IV—(т. Шчарбакоў)—800 чал., 21/IV—(т. Вольфсон)—700 ч., 22/IV—(т. Карніенка)—500 ч., 23/IV -(т. Гальперына)—500 ч., 24/IV—(тав. Левін)—250 чал., 25/IV—(т. Булыга)—150 ч., 26/IV—(т. Гершэльман)—300 чал., 27/IV—(т. Валабрынскі)—350 чал., 28/IV—(т. Ноткін)—300 чал., 29/IV—(т. Пятровіч)—60 чал.

3. Галоўныя наведвальнікі дакладаў—партыйцы і рабочы актыў. На дакладзе тт. Шчарбакова, Вольфсона, Ноткіна, Гершэльмана прысутнічалі шырокія рабочыя масы. На дакладзе т. Левіна прысутнічаў галоўным чынам партыйны актыў, на дакладзе тав. Карніенка прысутнічаў партактыў і асьветнікі, на дакладзе т. Гальперынай прысутнічалі чырвонаармейцы, асьветнікі, партактыў. На дакладзе тав. Пятровіча прысутнічалі гаспадарнікі і сакратары комсамольскіх ячэек. На дакладзе т. Булыга прысутнічалі асьветнікі, студэнты і мясцовая група Бел. геолёгаразьведкі, якая прымала актыўны ўдзел у спрэчках.

4. Амаль усе даклады трансьліраваліся па радыё.

5. Друк (газэта „Віцебскі пролетары“) сыстэматычна асьветляў ход дэкадніку.

6. Амаль усе дакладчыкі ў часе прабываньня ў Віцебску наведвалі фабрыкі, заводы, культасьветныя ўстановы.

7. Для разгортваньня масавай работы на прадпрыемствах вакол дэкадніку быў прыняты рад мерапрыемстваў: пытаньне было абгаворана на бюро гаркому і вынесена адпаведная пастанова, на паседжаньні гаркому прысутнічалі сакратары буйнейшых парткolektываў, была праведзена нарада заводзкіх газэт; была праведзена шырокая нарада навуковых работнікаў, якія былі разьмеркаваны па прадпрыемствах для дапамогі парторганізацыям у разгортваньні масавай работы вакол дэкадніку. На гэтай нарадзе прадстаўніком БАН (т. Серафімавым) быў зроблены даклад аб разгортваньні навукова-дасьледчай работы на заводзе.

8. Прадстаўніком БАН праведзены сходы і зроблены даклады аб рашэньнях XV партконфэрэнцыі, сакавікоўскага пленуму ЦК і ЦКК і організацыі навукова-дасьледчай работы на заводзе ў трох цэхах панчошнай ф-кі „Кім“. Практычным мерапрыемствам зьявілася організацыя заклiку ўдарнікаў у навуку. Сходы выдзелілі брыгаду ў 15 чал. па вывучэньню гісторыі сваёй фабрыкі, сталай сувязі з БАН і сталых корэспондэнтаў „Савецкае Краіны“.

Прадстаўнікам БАН праведзена шырокая нарада па пытаньню дэкадніку і заклiку ўдарнікаў у навуку на чыгунна-ліцейным заводзе „Чырвоны мэталіст“. Тут-жа праведзена шырока нарада рабочых ліцейнага цэху, на

якой падрабязна абгавораны задачы дэкадніку, дырэктывы партыі аб навукова-дасьледчай рабоце, чым была раней БАН і чым яна зьяўляецца цяпер і арганізацыя інавукова-дасьледчай работы на заводзе. Вынікам гэтай нарады зьвіўся заклік ураднікаў у навуку. Утворана брыгада па вывучэньню гісторыі свайго заводу ў складзе 4-х чалавек, кіраваць гэтай справай выказаў жаданьне стары рабочы т. Навіцкі, які працуе на заводзе з пачатку яго арганізацыі і ўзнагароджаны ордэнам Леніна. Утворана корэспондэнцкая брыгада „Савецкай Краіны" з 3-х асоб і вылучана 2 рабочых на падрыхтоўчае аддзяленьне Інстытуту асьпірантуры. Брыгады на мецілі плян сваёй работы. Да 15-га мая будзе зданы артыкул для „Савецкай Краіны" аб 15-годзьдзі парторганізацыі на заводзе, а да 1/VII будзе зданы матар'ял па гісторыі заводу.

Такая-ж работа праведзена і на швэйнай фабрыцы „Профінтэрн", дзе ўтворана корэспондэнцкая брыгада з 4-х чалавек і намечаны плян работы. К 1/VII будзе зданы матар'ял па гісторыі фабрыкі.

На фабрыцы „Сьцяг індустрыялізацыі" на агульным сходзе рабочых абрана брыгада па сталай сувязі з Акадэміяй.

Вось кароткі пералік работы. Патрэбна зрабіць рад вурокаў у разгортваньні масавай навукова-дасьледчай работы, а галоўнае—замацаваць і ўсямерна дапамагчы разгортваньню распачатай вялікай работы. Дэкаднік БАН шырокімі рабочымі і партыйнымі масамі быў прыняты з вялізарнейшым энтузіязмам, ён паказаў зусім нераспачаты край нашай работы — арганізацыю мас на навукова-дасьледчую работу і ўсямерную штодзенную дапамогу фабрычназавадзкім, партыйным і профсаюзным арганізацыям у гэтай справе.

Сарафімаў.

## Справаздача па правядзеньню дэкадніку Беларускай Акадэміі Навук у г. Гомелі з 20 красавіка па 30 красавіка 1932 г.

Дэкадніку Беларускай Акадэміі Навук Гомельскім гарадзкім камітэтам КП(б)Б надана было вялізарнейшае палітычнае значэньне. Сакратарыятам гаркому была вынесена пастанова аб правядзеньні дэкадніку і складзена была камісія для практычнай работы па дэкадніку.

На паседжаньні камісіі 17 красавіка быў намечаны конкрэтны плян правядзеньня дэкадніку. На паседжаньні камісіі прысутнічалі прадстаўнікі заводаў, фабрык, профсаюзных організацый, бюро сэкцыі навуковых работнікаў, рэдакцыі газэты, радыё-цэнтру і інш. Заводы і фабрыкі своечасова былі паведамлены аб пачатку дэкадніку і тых дакладах, якія па пляну павінны быць прачытаны. Наогул працоўныя масы г. Гомелю былі належным чынам падрыхтаваны для дэкадніку як праз друк, так і праз мясцовыя партыйныя і профсаюзныя організацыі праз афішы, раздачу білетаў на даклады і г. д. Па гораду было расклеена 100 афіш аб дэкадніку. На кожны даклад раздаваліся па організацыям білеты. Для дакладаў гаркомам КП(б)Б былі адведзены лепшыя тэатры, кіно і клюбы, якія маюцца ў горадзе.

Урачыстае адчыненьне дэкадніку БАН адбылося ў тэатры імя Леніна. На ўрачыстым адчыненьні дэкадніку прысутнічала 1300 ч., галоўным чынам, рабочых з прапрыемстваў г. Гомелю. На ўрачыстым паседжаньні былі заслуханы правітаньні БАН ад гаркому, заводу Ланцуцкага, заводу Сельмаш, фабрыкі „Освобожденный Труд" і Сэкцыі навуковых працаўнікоў. Пасьля правітаньня быў заслуханы даклад акад. Панкевіча на тэму: „Работа БАН і пэрспэктывы навукова-дасьледчай работы ў сувязі з другою пяцігодкаю". Пасьля дакладу была прынята агульным сходам рэзолюцыя, у якой адзначана значэньне БАН у нацыянальна-культурным соцыялістычным будаўніцтве і вызначаны некаторыя задачы навукова-дасьледчай работы, вырашэньне якіх чакае ад БАН пролетарская грамадзкасьць г. Гомелю. Пасьля дакладу адбылася пастаноўка рускай драмы.

Другі даклад тав. Гарына „Клясы і клясавая барацьба ў другой пяцігодцы" быў прызначаны на 22 красавіка. Організаваным парадкам на даклад прышло 850 чал. З прычыны таго, што дакладчык ня прыехаў, даклад сарваўся. Мясцовыя організацыі былі вельмі абураны ў сувязі са зрывам дакладу, асабліва таму, што ўжо з другога дакладу пачаўся зрыў дэкадніку.

23 красавіка быў прачытаны акад. Шчарбаковым даклад на тэму „Крызіс буржуазнай культуры ў капіталістычных краінах і рост пролетарскай культуры ў СССР". На дакладзе прысутнічала каля 700 асоб. Даклад вельмі ўважліва быў праслуханы прысутнымі.

24 красавіка перад аўдыторыяй у 500 чал: прачытаў даклад тав. Розенгаўз на тэму. „Рэлігія і яўрэйскі соцыял-фашызм".

25 красавіка быў намечаны даклад тав. Александровіча на тэму: „Сучасная літаратура і літаратурныя плыні на Беларусі". Гэтым дакладам вельмі цікавілася моладзь—рабкоры, студэнцтва і г. д. Дакладчык ня прыехаў. Аўдыторыю ў 500 чал. прышлося распусьціць. Зрыў другога дакладу вельмі дрэнна адбіўся на ходзе дэкадніку. Наогул гарком КП(б)Б, рабочыя масы сталі з недавер'ем адносіцца да організацыі дэкадніку. Сакратарыят гаркому вынес спэцыяльную пастанову, у якой адзначыў безадказнасьць організатараў дэкадніку і дакладчыкаў, якія ня прыехалі, і прасіў ЦК КП(б)Б прыцягнуць вінаватых да адказнасьці.

26 красавіка прачытаў даклад тав. Карніенка на тэму: „Вялікадзяржаўніцкія і нацдэмаўскія концэпцыі ў гісторыі Беларусі". Аўдыторыя была каля 350 чал.

27 красавіка акад. Пятровіч прычытаў даклад „Другая пяцігодка БССР". Прысутнічаза каля 500 чал.

28 красавіка тав. Чудноўскім быў прачытаны даклад „Проблема электрыфікацыі БССР у другой пяцігодцы". Аўдыторыя 350 чал.

29 красавіка тав. Гершэльман перад аўдыторыяй у 270 чал. прачытаў даклад на тэму: „Клясы і клясавая барацьба ў другой пяцігодцы".

Даклад тав. Лур'е „Сусьветны экономічны крызіс", які быў намечаны на 30 красавіка, зьняты з тэй прычыны, што гэты вечар на ўсіх прадпрыемствах быў прасьвачаны 1 мая.

Апроч асноўных дакладаў тав. Панкевічам быў прачытаны даклад для 300 студэнтаў агро-пэдінстытуту аб політэхнізацыі школ. Тав. Шчарбаковым быў прачытаны даклад для 300 чал. камскладу Чырвонай арміі на тэму: „Крызіс буржазнай культуры ў капіталістычных краінах і рост пролетарскай культуры ў СССР", другі даклад тав. Шчарбаковым быў прачытаны для слухачоў савпартшколы аб партызнанскім руху. На дакладзе прысутнічала 250 чал.

Усе асноўныя даклады трансьляраваліся па радыё ў Гомелі і перадаваліся праз Менскі радыё-вузел па ўсёй БССР. Усяго праслухала даклады 4.720 асоб. Значную ўвагу популярызацыі дэкадніку аддавала газэта „Палеская Праўда". Зьмешчаны ў газэце рад артыкулаў і заметак, прысьвечаных дэкадніку. У сувязі са зрывам дакладаў, зразумела, нельга было выкарыстаць як сьлед газэту для популярызацыі работы БАН.

Яз. Мацюкевіч.

5/V-32.

## Краязнаўчая работа ў Рагачэўскім і Веткаўскім раёнах

*(Па матар'ялах абсьледваньня)*

Краязнаўчая работа ў паказаных раёнах да апошняга часу была зусім не разгорнута і краязнаўчых організацый, за выключэньнем краязнаўчага гуртка пры Рагачэўскім пэдтэхнікуме, у абодвух раёнах фактычна не існавала. Былыя раённыя краязнаўчыя таварыствы, якія існавалі ў раёнах з 1925 г. і праводзілі якую-колечы работу па нацдэмаўскіх установках былога кіраўніцтва ЦБК, фактычна самараспусьціліся яшчэ ў канцы 1930 г. Работа іх належным чынам мясцовымі ўстановамі і організацыямі не правяралася, не зважаючы на цэлы рад яскравых дырэктыў з боку цэнтральных устаноў і організацый БССР.

Да перабудовы кряязнаўчае работы, выходзячы з конкрэтных задач соцыялістычнага будаўніцтва, належных захадаў мясцовыя органы не рабілі. У правядзеньне „краязнаўчае пяцідзёнкі", якая праводзілася па дырэктыве ЦК КП(б)Б па БССР з 25 па 30 студзеня 1931 г., як Рагачэўскі, так і Веткаўскі раёны ня ўключаліся, а абмежаваліся пастаноўкаю кароткіх інформацый і дакладаў на настаўніцкіх конфэрэнцыях. У Веткаўскім раёне быў вылучаны ўпаўнаважаны па краязнаўству тав. Францішоў. У Рагачэўскім раёне краязнаўчыя справы, пячатка і штамп выпадкова ад былога кіраўніцтва краязнаўчага таварыства трапілі ў рукі выкладчыка пэдтэхнікуму тав. Шарупіча і яго доўгі час нават лічылі старшынёю раённага бюро краязнаўства. Ён, праўда, рабіў такія-сякія захады да ажыўленьня краязнаўчага руху ў раёне: ставіў гэта пытаньне ў адпаведных установах і організацыях, пісаў у мясцовую газэту, рабіў інформацыі на настаўніцкай конфэрэнцыі, але падтрыманьня нідзе не знайшоў і такім чынам краязнаўчы рух на Рагачэўшчыне быў спынены.

Упаўнаважаны па Веткаўскім раёне тав. Францішоў, да рэчы сказаць, амаль нічога не рабіў для ажыўленьня краязнаўчае справы ў раёне і ніхто на гэта не зьвяртаў увагі, што прывяло да спыненьня краязнаўчага руху ў Веткаўскім раёне.

Прыведзеныя факты сьведчаць аб яўнай недаацэнцы савецкага краязнаўства—„як формы садзейнічаньня соцыялістычнаму будаўніцтву з боку савецкае грамадзкасьці, шляхам вывучэньня краю і прыстасаваньня вынікаў вывучэньня ў справе яго соцыялістычнага будаўніцтва"—з боку раённых устаноў і організацый Рагачэўскага і Веткаўскага раёну і поўнае ігнараваньне дырэктыў партыйных, савецкіх і профсаюзных організацый па пытаньню разгортваньня краязнаўчага руху.

Толькі ў апошні час катэгорычныя дырэктывы аб разгортваньні краязнаўчае работы па лініі Культпропу ЦК КП(б)Б, НКА і ЦСПСБ сваім мясцовым організацыям да некаторай ступені ўзварушылі раённыя організацыі і ўстановы Рагачэўскага і Веткаўскага раёнаў і апошнія ўзяліся за разгортваньне краязнаўчага руху.

Так 20-го красавіка бягучага году ў горадзе Рагачэве адбылася пашыраная нарада раённага актыву партыйных, савецкіх, профсаюзных, комсамольскіх і грамадзкіх організацый, скліканая Аддзелам народнае асьветы. На нарадзе шырока абмеркавана пытаньне аб разгортваньні краязнаўчага руху ў раёне і прынята пастанова, якая забясьпечвае далейшае разгортваньне краязнаўчае работы. На нарадзе вылучана раённае бюро краязнаўства ў складзе таварышоў:—Кукраш (старшыня бюро), Маргалік (сакратар бюро), Балтушкін, Емельянаў, Сьцепанцоў і Міхаленка. Бюро, сумесна з прадстаўніком ЦБК, распрацавала плян работы на май—сьнежань 1932 г. і прыступіла да яго выкананьня. Паводле пляну вызначана організацыя дзесяці краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, колгасах, саўгасах і пры школах раёну. Кожны член бюро прымацаваны да пэўнага пункту для популярызацыі савецкага краязнаўства і організацыйнага афармленьня і замацаваньня краязнаўчае ячэйкі. Работа

гэтая павінна закончыцца да 15--20 мая. У канцы мая бягучага году мяркуецца скліканьне раённае краязнаўчае конфэрэнцыі з прадстаўнікоў краязнаўчых ячэек, раённых установ і організацый для абгаварэньня чарговых задач краязнаўчае работы на Рагачэўшчыне і інш. Бюро ўключылася ў работу па складаньню другое пяцігодкі ў раёне.

Па дасьледчай рабоце бюро намеціла выканаць наступнае:

1) Скласьці экономічна-географічнае апісаньне раёну. Адказны за організацыю работы тав. Маргалік (жнівень).

2) Вынікі правядзеньня трэцяй бальшавіцкай вясны, адказны тав. Страмчанка і Жамкоўскі (чэрвень).

3) Стан народнае асьветы ў раёне да 15-й гадавіны Кастрычнікаўскае рэволюцыі, адказны Бахановіч (верасень).

4) Напісаць гісторыі фабрыкі імя Сталіна, адказны Бухтарэвіч і Манцэвіч (ліпень).

5) Монографічнае апісаньне комуны „Іскра", адказны Шарупіч і Сьцепанцоў (ліпень).

6) Стан політэхнізацыі школ Рагачэўскага раёну, адказны Балтушкін і краязнаўчая ячэйка пэдтэхнікуму.

7) Організацыя работы ў колгасах раёну адказны Курганскі і Гарбацэвіч.

Для ўдзелу ў выкананьні паказаных работ будуць прыцягвацца брыгады рабочых, колгасьнікаў, настаўнікаў, спэцыялістаў, студэнтаў, вучняў і інш. Плянам работы бюро прадугледжваецца разгортваньне сыстэматычнае плянавае пропаганды па аўладаньню тэхнікай і навукай праз організацыі адпаведных лекцый, дакладаў і гутарак, прыцягваючы да гэтае работы як мясцовых спэцыялістаў, адказных працаўнікоў, так і навуковых працаўнікоў цэнтру. Сумесна з комсамольскімі і турыстычнымі організацыямі краязнаўчае бюро падрыхтоўвае паход па дасьледваньню і выяўленьню мінэральнае сыравіны для социялістычнае прамысловасьці. Бюро таксама прыступіла да організацыі раённага краязнаўчага музэю ў Рагачэве.

У Веткаўскім раёне на нарадзе раённага актыву 26-га красавіка таксама шырока абмеркавана пытаньне аб разгортваньні краязнаўчага руху ў раёне. Вылучана раённае бюро краязнаўства ў складзе тт. Рабіновіча, (старшыня бюро), Чайкоўскага (сакратара), Саўрэя, Говара, Чобіна, Налівайка і Крупені. Бюро сумесна з прадстаўніком ЦБК распрацавала плян работы да канца 1932 г. Плян прадугледжвае організацыйнае афармленьне і замацаваньне краязнаўчае сеткі ў раёне, популярызацыю задач савецкага краязнаўства сярод працоўных мас і ўцягненьне іх у краязнаучую работу; організацыю раённага краязнаўчага музэю, удзел у складаньні пляну 2-й пяцігодкі, дасьледваньне і вывучэньне экономікі раёну, прыродных багацьцяў, культуры, быту і інш. У мэтах ліквідацыі абязьлічкі паміж членамі бюро разьмеркаваны пэўныя тэмы і заданьні, выходзячы з агульнага пляну і кожны з членаў бюро нясе поўную адказнасьць за своечасовае выкананьнэ ўскладзеных на яго абавязкаў. Бюро распрацавала проект догавару на социялістычнае спаборніцтва з суседнім Чачэрскім раёнам, на лепшае і своечасовае выкананьне свайго пляну работы.

Такім чынам, у паказаных раёнах намеціліся пэўныя зрухі ў разгортваньмі краязнаўчае работы і паложаны пачатак гэтай справе.

Т. К.

## Становішча краязнаўчай работы ў Мсьціслаўскім і Крычаўскім раёнах

На першае красавіка 1932 г. у Мсьціслаўскім раёне існавала толькі 1 краязнаўчая ячэйка пры пэдтэхнікуме ў складзе 30 асоб, галоўным чынам студэнтаў. Ячэйка яшчэ ня мела пляну сваёй работы, бо організавалася толькі ў канцы сакавіка. Раённага бюро ня было. Ні адна з раённых організацый не займалася пытаньнем краязнаўчай работы і не адказвала за пастаноўку гэтае работы.

У раёне ёсьць рэшткі былога краязнаўчага музэю, якія зьяўляюцца зусім бяспрытульнымі, няма ніякага опісу экспонатаў. Была думка перадаць гэты музэй у Оршу, замест таго, каб організаваць яго ў свой раённы музэй і накіраваць яго работу на карысьць социялістычнага будаўніцтва раёну.

За пэрыод з 5 па 13 красавіка ў галіне організацыі краязнаўчай работы праароблена: праведзен агульнагарадзкі профсаюзны сход з дакладам „Задачы савецкага краязнаўства", на якім абрана раённае бюро краязнаўства ў складзе 12 асоб. Удзельнікі сходу абвясьцілі сябе ўдарнікамі па актыўнаму ўдзелу ў разгортваньні краязнаўчай работы ў раёне і па ўцягненьню мас рабочых і колгасьнікаў у краязнаўчую работу і выклікалі на соцспаборніцтва Чавускі і Аршанскі раёны. Створана брыгада пад кіраўніцтвам тав. Бабарыкіна (дырэктар пэдтэхнінуму) па вывучэньню колгасу імя т. Чарвякова. Даручана грамадзкасьці пэдтэхнікуму зараз-жа прыступіць да прывядзеньня ў належны парадак музэю і да папаўненьня яго новымі экспонатамі. Створана краязнаўчая ячэйка ў колгасе імя Чарвякова ў ліку 30 асоб з колгасьнікаў-актывістаў. Трэба адзначыць, што колгасьнікі вельмі ахвотна ўзяліся за гэтую работу і абяцалі стала вывучыць свой колгас (яго гісторыю, клясавую барацьбу вакол колгасу, дасягненьні ў організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасу, адшуканьне сыравіны і інш.). Таксама організавана ячэйка пры першай узорнай школе колгаснае моладзі.

У Крычаве існавала раённае бюро ў складзе 3 асоб, але ніякай краязнаўчай работы не праводзілася. У пэрыод з 13 па 19 красавіка праведзена работа: раённая нарада на-

стаўнікаў заслухала даклад „Аб задачах савецкага краязнаўства", удзельнікі нарады абвясьцілі сябе ўдарнікамі ў разгортваньні краязнаўчай работы па раёну і выклікалі на соцспаборніцтва Клімавіцкі раён. Абрана раённае бюро краязнаўства з 9 асоб ад нарады, у склад якога яшчэ дадаткова ўведзены прадстаўнікі Райпрофсавету, Райколгассаюзу, РК ЛКСМБ і мяркуецца ўвесьці прадстаўніка ад краязнаўчай ячэйкі крычаўскага цэмантнага заводу. Організавана ячэйка пры дашкольным тэхнікуме і створана ініцыятыўная група на сожаскім будаўніцтве і на пабудове крычаўскага цэмантнага заводу.

Трэба адзначыць, што як у Крычаўскім, так і ў Мсьціслаўскім раёне райком партыі, райпрофсавет і іншыя організацыі ішлі насустрач організацыі краязнаўчай работы, але галоўнае, чаго не хапала ў гэтых раёнах, гэта бальшавіцкай настойлівасьці і пасьлядоўнасьці ў організацыі краязнаўчай работы, бо сутнасьць савецкага краязнаўства і яго роля ў соцыялістычным будаўніцтве гэтым організацыям дастаткова вядомы. Неабходнасьць разгортваньня краязнаўчай работы ў раёне ўжо даволі ўсьвядомлена раённымі працаўнікамі, але толькі мала праводзіцца практычных мерапрыемстваў для яе організацыі і ўцягненьня мас рабочых і колгасьнікаў у краязнаўчую работу. Як у Мсьціслаўскім, так і ў Крычаўскім раёнах ў парадку добраахвотнасьці завербаваны сталыя корэспондэнты часопісу „Савецкая Краіна". У Мсьціслаўскім раёне „Савецкай Краіны" выпісваецца два экз., а ў Крычаўскім — 7, хаця ў абодвух раёнах ёсьць магчымасьць і неабходнасьць значна павялічыць падпіску на гэты часопіс.

Патрэбна ў бліжэйшы час зьнішчыць тую думку, якая наглядаецца ў абодвух раёнах, што краязнаўчая работа зьяўляецца, галоўным чынам, толькі работай настаўнікаў, патрэбна ўцягнуць як-мага больш рабочых і колгасьнікаў у гэтую работу.

Патрэбна, каб раённыя організацыі па лініі агітмасавых аддзелаў РК КП(б)Б, Райпрофсаветаў і раёну ўзяліся па-бальшавіцку за выкананьне дырэктыў Культпропу ЦК КП(б)Б, ЦСПСБ і НКА, па разгортваньню краязнаўчае работы, толькі тады мы будзем мець сталыя дасягненьні ў ёй.

*В. П.*

## Што робіцца ў раёнах па краязнаўству

За апошні час вызначыліся пэўныя зрухі ў справе ажыўленьня і разгортваньня краязнаўчае работы ў цэлым радзе раёнаў. Так, у Пухавіцкім раёне організацыйна афармлена раённае бюро краязнаўства, якое прыступіла да плянавае і сыстэматычнае работы, увязваючы яе з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне. Конкрэтная работа раённага бюро краязнаўства заключаецца ў наступным: заканчваецца організацыйнае афармленьне і ўмацаваньне 20 краязнаўчых ячэек па раёну, пры раённым Доме соцыялістычнае культуры заснаваны раённы краязнаўчы музэй, зроблена 10 дакладаў на прадпрыемствах, у саўгасах, колгасах і на нарадах па пытаньням краязнаўства, праведзена нарада сакратароў краязнаўчых ячэек, распрацаваны заданьні для краязнаўчых ячэек па дасьледваньню і вывучэньню: карысных выкапняў, організацыі працы ў колгасах, вывучэньне шкоднікаў сельскай гаспадаркі і мер барацьбы з імі і інш. У канцы мая б/г. мяркуецца склікаць раённую краязнаўчую конфэрэнцыю.

У Брагінскім раёне організавана раённае бюро краязнаўства, якое прыступіла да організацыйнага афармленьня краязнаўчае сеткі ў раёне. Бюро сабрала падпіску на 93 экзэмпляры часопісу „Савецкая Краіна".

Пры Бялыніцкім раённым аддзеле народнае асьветы організавана раённае бюро краязнаўства з 11 асоб. Распрацаваны плян работы бюро на 1932 г. і ўсе матар'ялы падаюцца на разгляд чарговага паседжаньня прэзыдыуму РВК.

Быхаўскае раённае бюро краязнаўства організавала 6 краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, саўгасах і ў колгасах. Праводзіцца плянаваньне і ўвязка краязнаўчае работы з мясцовымі ўстановамі і організацыямі.

У Уваравіцкім раёне скончана організацыйнае афармленьне краязнаўчае сеткі. Па раёну організавана 13 краязнаўчых ячэек, якія аб'ядноўваюць 300 чалавек. Прыступлена да апісаньня Уваравіцкага раёну і саўгасу Уваравічы.

Краязнаўчая ячэйка пры саўгасе імя Розэнгольца Магілеўскага раёну налічвае 29 членаў. Ячэйка разьбіта на брыгады, якім, паводле агульнага пляну работы на 1932 год, вызначаны пэўныя заданьні, якімі прадугледжваецца ўсебаковае вывучэньне саўгасу.

**Т. К.**

## Заключэньне аб выніках соцыялістычнага спаборніцтва паміж ЦБК РСФСР, ЦБК БССР і Украінскім Камітэтам Краязнаўства на падставе дагавору, заключанага на X пленуме ЦБК РСФСР.

Дагавор на спаборніцтва паміж цэнтрамі краязнаўчага руху ў трох саюзных рэспубліках быў заключаны з мэтаю ажыўленьня ўсяго краязнаўчага руху ў краіне, пераводу яго на рэйкі разгорнутага абслугоўваньня актыўных задач соцыялістычнага будаўніцтва і ўкараненьня новых соцыялістычных мэтодаў работы. Ажыцьцяўленьне генэральнае лініі партыі ва ўсім краязнаўчым руху, бязьлітасная барацьба з усякімі ўхіламі, скажэньнем гэтае лініі, барацьба за бальшавіцкую партыйнасьць і шырокая самакрытыка ляглі ў аснову заключанага паміж памянёнымі організацыямі дагавору.

Ацэньваючы вынікі выкананьня дагавору, прыходзіцца перш за ўсё адзначыць неда-

пушчальныя адносіны да гэтай справы і да выкананьня сваіх абавязацельстваў дзьвюх названых організацый: ЦБК БССР, які абмежаваўся толькі дасылкай кароткай справаздачы аб сваёй рабоце, і не зьявіўся на XI пленум ЦБК РСФСР для абгаварэньня вынікаў, і асабліва Ўкраінскага Камітэту Краязнаўства, які наогул не рэагаваў на прапановы ОКРАМ'а, выбранага супэр-арбітрам у гэтым спаборніцтве і ня даў ніякіх матар'ялаў аб выкананьні заключанага ім дагавору. Найбольш пэўныя матар'ялы прадстаўлены ЦБК РСФСР.

1. Політычная лінія кіраўніцтва ЦБК РСФСР і ЦБК БССР, выцякаючая з атрыманых прэзыдумам ОКРАМ'а матар'ялаў і з аналізу ўсёй іх работы па сутнасьці павінна быць прызнана ў асноўным правільнаю, хаця ў працэсе работы абодвума цэнтрамі і быў дапушчаны рад політычных памылак правага опортуністычнага і лявацкага характару. Найбольшай увагі з іх заслугоўваюць памылкі, дапушчаныя часопісамі „Савецкае Краязнаўства" (артыкул Даніліна, Грышмана і інш.) і „Савецкая Краіна" (інструкцыя аб вывучэньні лесарубаў і плытагонаў), а таксама выданьне некаторых ідэолёгічна-нявытрыманых брошур: брошура Дуброўскага ў ЦБК РСФСР, Цімашова ў ЦБК БССР. Побач з значнай работай, праведзенай ЦБК БССР па выяўленьні нацдэмаўскай контррэволюцыйнай літаратуры і нацдэмаўскага кіраўніцтва ЦБК Беларусі, прыходзіцца прызнаць яшчэ недастатковай адпаведную работу ЦБК РСФСР. У практыцы работы ЦБК да таго-ж мела месца недастаткова разгорнутая барацьба з правай небясьпекай на краязнаўчым фронце, недастатковасьць самакрытыкі ў рабоце, вельмі значнае адставаньне тэмпаў работы, ня зжыта стаўка на самацёк і інш.

2. З задачай утварэньня масавага краязнаўчага руху ў краіне абодва рэспубліканскія цэнтры за прайшоўшы пэрыод ня справіліся, ня глядзячы на тое, што об'ектыўныя ўмовы для разьвіцьця краязнаўства ў цяперашні час, у эпоху гіганцкага соцбудаўніцтва, шырокай тэхнічнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі, нябывалага разьвіцьця дасьледчых работ і вялізарнага ўздыму творчае ініцыятывы і самадзейнасьці рабочых і колгасных мас былі максымальна спрыяючыя для разьвіцьця савецкага краязнаўства і ўцягненьня ў яго комсамолу, фабрычна-заводзкай і колгаснай моладзі і інш. Шырокія масы будаўнікоў соцыялізму ў краязнаўства дагэтуль ня ўцягнуты.

3. Пункт дагавору аб уцягненьні ў краязнаўчы рух ня менш 60 чалавек у кожным раёне рэспублікі (з 30-проц. праслойкай рабочых і колгасьнікаў) ня выкананы ні ў РСФСР, ні ў БССР. З 1849 раёнаў РСФСР толькі ў 506 раёнах організаваны райбюро краязнаўства; з 75 раёнаў БССР раённыя організацыі ўтвораны толькі ў 15 раёнах. У сярэднім на кожны раён РСФСР прыходзіцца 30 працаўнікоў краязнаўства і на кожную ячэйку каля 20 чал. Па ўсёй БССР маецца паводле папярэдніх даных, каля 100 чал. пры 94 ячэйках, у сярэднім па 10 чал. у ячэйцы.

Цьвёрдых зьвестак аб соцскладзе краязнаўчых ячэек па абодвум цэнтрам няма. Учот у краязнаўчай сетцы пастаўлены надзвычайна слаба, а ў паасобных выпадках зусім адсутнічае.

4. Па пытаньні аб плянаваньні экспэдыцыйных работ і ўвязцы іх з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі абодвума цэнтрамі даны былі ўказаньні; аднак рэальных вынікаў па выкарыстаньню краязнаўчае сыстэмы шматлікімі экспэдыцыямі, накіраванымі саюзнымі рэспубліканскімі цэнтрамі на мясцох, мы яшчэ ня маем.

5. Ня гледзячы на тое, што ЦБК РСФСР і ЦС ОПТЭ далі супольную дырэктыву аб узгадненьні іх работы на мясцох, сапраўднай увязкі ў гэтай рабоце і вытворчага ўзаемнага выкарыстаньня сіл і да гэтага часу мы ня маем. Значна цясьней гэтыя адносіны ўстанавіліся на Беларусі, але і тут неабходнага адзінства дзеяньня яшчэ няма.

6. Па пытаньню аб удзеле краязнаўчых організацый у справе перабудовы краязнаўчых музэяў на аснове рашэньняў першага музэйнага зьезду, прыходзіцца констатаваць ня толькі слабое разьвіцьцё гэтай функцыі абодвух ЦБК, але і згортваньне работы музэйнай камісіяй у ЦБК РСФСР.

Зусім недастатковы былі работы па гэтай лініі і ў Беларусі.

7. Высьвятленьне пытаньняў краязнаўчага руху ў пэрыодычным друку РСФСР было вельмі слабое. ЦБК БССР у гэтых адносінах выкарыстоўвала мясцовы друк больш шырока (10 артыкулаў і радыёлекцый). Праведзеная ў мэтах популярызацыі краязнаўчага руху пяцідзёнка краязнаўства ня дала тых прамых вынікаў, якія яна павінна была і магла даць. Вучоту вынікаў правядзеньня пяцідзёнкі ні БССР ні РСФСР ня мае. У канцы 1931 году ЦБК РСФСР абвясьціла месячнік краязнаўства. Да месячніку выпусьціла спэцыяльны зборнік інструкцыйных матар'ялаў.

8. Проблема кадраў у савецкім краязнаўстве застаецца да гэтага часу найвастрэйшай і ні ў якай ступені нявырашанай проблемай. Увага да гэтай справы з боку ЦБК РСФСР і БССР была відавочна недастатковай. Праведзеныя ў БССР курсы організатараў краязнаўцаў і бібліографаў не маглі і ня могуць задаволіць растучых цатрабаваньняў новых кадраў краязнаўства. Організаваныя ЦБК РСФСР завочныя курсы ахапілі да 400 работнікаў з месц, прыліў жадаючых вучыцца на гэтых курсах (1.300) сьведчыць аб вялікай зацікаўленасьці для краязнаўчага руху на мясцох і ў мэтах разьвіцьця гэтай формы падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў неабходна організацыйнае замацаваньне і больш яскравае програмна-мэтодычнае кіраўніцтва імі.

9. Зусім нездавальняючае да гэтага часу становішча школьнага краязнаўства. Ня гледзячы на гістарычнае рашэньне ЦК партыі

аб пачатковай і сярэдняй школе, спэцыяльнае ўказаньне ЦК аб ролі краязнаўчага матар'ялу ў пляне політэхнізацыі школ, ніякіх абавязваючых краязнаўчыя цэнтры вывадаў дзеля перабудовы і ажыўленьня краязнаўчае работы ў школе ня зроблена ні ЦБК РСФСР ні ЦБК БССР. Ахоп краязнаўствам да 15 проц. школ рэспублік (абавязацельства і дагаворы) не праведзены. Учот гэтай работы пастаўлены вельмі слаба.

10. Выдавецкая дзейнасьць ЦБК РСФСР выяўлена ў выпуску 12 нумароў часопісу „Савецкае Краязнаўства“ і 14 брошур. Здана для надрукаваньня 28 брошур. ЦБК БССР выпушчана таксама 12 нумароў часопісу „Савецкая Краіна“ і 9 брошур. Выдавецкая раббота з месц была зусім недастатковай і па некаторым краязнаўчым цэнтрам была нават згорнута.

11. Дасьледчая краязнаўчая работа ў раёнах суцэльнай колектывізацыі і ў фабрычна-заводзкіх цэнтрах ЦБК РСФСР была распачата, аднак, пасьлядоўнае кіраўніцтва ёю адсутнічала. Павінна быць адзначана толькі сур'ёзная работа, праведзеная брыгадай ЦБК у Магнітагорску і Аланаеўску.

12. У справе перагляданьня складу краязнаўчых аб'яднаньняў на мясцох праведзены значныя, аднак, яшчэ незакончаныя работы. ЦБК БССР была разгорнута шырокая барацьба з рэшткамі нацдэмаўскага кіраўніцтва ў краязнаўчых аб'яднаньнях.

13. Работа па монографічным апісаньні фабрык і заводаў, колгасаў разгорнута толькі ў РСФСР. Ітогі закончыўшагася конкурсу па фабрыках і заводах даюць магчымасьць канстатаваць вялікую зацікаўленасьць да гэтай справы. Аднак, ён не атрымаў належнага размаху і не прыцягнуў сапраўдныя масы саміх рабочых.

14. Да гэтага часу застаюцца зусім нездавальняючымі краязнаўчая работа ў нацраёнах сярод нацменшасьцяў. Вывучэньне гэтых раёнаў відавочна адстае ад задач соцыялістычнае рэконструкцыі гаспадаркі і культуры, масы нацыянал-працоўных у краязнаўства ўцягваюцца павольна і недастаткова... У той-жа час неабходна адзначыць, што ЦБК РСФСР за мінулы год праведзена абсьледваньне значнага ліку нацрэспублік і вобласьцяў.

Падводзячы падагульненьне выкананьня дагавору, прэзыдыум ОКРАМ'а прызнае некаторыя зрухі ў разьвіцьці савецкага краязнаўства. Аднак, гэтыя зрухі зусім недастатковы. Год соцыялістычнага спаборніцтва паміж ЦБК РСФСР і БССР ня быў годам сапраўднага ўздыму краязнаўчага руху. Прынятыя на сябе абавязацельствы абодвума цэнтрамі выкананы толькі часткова.

Прэзыдыум ОКРАМ'а лічыць неабходным прадоўжыць дзейнасьць гэтага дагавору на бягучы год на новай аснове і шляхох бальшавіцкага правядзеньня новых абавязацельстваў, шляхам мобілізацыі сапраўды шырокіх мас працоўных краін, шляхам укараненьня шасьці ўмоў т. Сталіна ва ўсю практыку краязнаўчага руху, шляхам яшчэ больш рашучай барацьбы з усімі скрыўленьнямі ў тэорыі савецкага краязнаўства, барацьбы з правымі і левымі ўхіламі, прымірэнствам і гнілым лібэралізмам, дабіцца рашучага пералому ва ўсім краязнаўчым руху краіны.

## Выправіць недахопы, узмацніць тэмпы краязнаўчай работы

Прэзыдыум таварыства краязнаўцаў-марксыстаў пры Комуністычнай Акадэміі СССР у сваім заключэньні аб выніках соцыялістычнага спаборніцтва паміж ЦБК РСФСР, ЦБК БССР і Украінскім камітэтам краязнаўства адзначыў рад буйнейшых недахопаў і памылак, якія мелі месца ў краязнаўчай рабоце за 1931 г. Пры правільнай у асноўным політычнай лініі кіраўніцтва, у рабоце ЦБК былі дапушчаны буйныя, політычныя памылкі, з якіх трэба адзначыць надрукаваньне ў часопісу „Савецкая Краіна“ інструкцыі аб вывучэньні быту лесарубаў і плытагонаў і выданьні брошуры Цімашова „Эканомічныя нарысы раёнаў і іх мэтодолёгія“. Задача ўсіх краязнаўчых організацый—узмацніць клясавую пільнасьць на краязнаўчым фронце, разгарнуць бальшавіцкую самакрытыку і ўскрываць і весьці рашучую барацьбу з усякімі ўхіламі і скажэньнямі генэральнай лініі партыі. Барацьба за бальшавіцкую партыйнасьць у краязнаўстве зьяўляецца задачай кожнага краяведа.

Гіганцкі размах соцыялістычнага будаўніцтва і шырокай тэхнічнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі, вялізарнейшы пад'ём творчай актыўнасьці і самадзейнасьці рабочых і колгасных мас былі вельмі спрыяльнымі об'ектыўнымі ўмовамі для разгортваньня савецкага краязнаўства і ўцягненьня ў краязнаўчую работу шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў, комсамольцаў. Аднак, ня гледзячы на гэтыя спрыяльныя ўмовы, краязначы рух у БССР разгорнуты зусім слаба. З задачай стварэньня масавага краязнаўчага руху абодвы рэспубліканскія цэнтры ня справіліся. Пункт дагавору аб уцягненьні ў краязнаўчы рух ня менш 60 чал. у кожным раёне рэспублікі (з 30 проц. праслойкай рабочых і колгасьнікаў) ЦБК і раённымі організацыямі ня выкананы. У складзе ЦБК амаль да канца году ня было ніводнага інструктара, жывое кіраўніцтва і дапамога нізавым організацыям амаль адсутнічала. Раённыя організацыі, ня гледзячы на яскравыя дырэктывы партыі, урадавых установ і профсаюзных організацый, недаацанілі важнасьці і значэньня разгортваньня краязнаўчага руху. У краязнаўчай рабоце яшчэ і да гэтага часу ня зжыты самацёк, бясплянавасьць, безадказнасьць за выкананьне задач дасьледчае работы. З самацёкам, бясплянавасьцю, зрывамі плянавых заданьняў мясцовых плянуючых органаў і ЦБК

мы павінны павесьці самую жорсткую барацьбу.

На працягу бліжэйшага часу мы павінны дабіцца арганізацыйнага ўмацаваньня краязнаўчых арганізацый, цьвёрдай дысцыпліны і ўчоту работы, без чаго нямысьліма і самае пляневаньне работы. Конкрэтны зьмест і спэцыфічнасьць краязнаўчае работы Т-вам краяведаў-марксыстаў на сучасным этапе соц. будаўніцтва вызначаны досыць выразна; яны заключаюцца ў „ударным характары работы па вывучэньню прыродна-продукцыйных сіл і прыродных багацьцяў нашага Саюзу і глыбокага вывучэньня продукцыйных сіл, экономікі, форм клясавае барацьбы, культуры, быту і гісторыі ў раённым і нацыянальным разрэзах. Спэцыфічнасьць у мэтодзе заключаецца ў вывучэньні асаблівасьцяў кожнага раёну па гэтых об'ектах у мэтах выкарыстаньня гэтых асаблівасьцяў для соцыялістычнага пляваньня і соц. будаўніцтва" („Становішча на краязнаўчым фронце і работа Т-ва краязнаўцаў-марксыстаў";дакладная запіска Прэзыд. Комакадэміі). На выкананьні гэтых задач і барацьбе супроць усякага „прожэкцёрства" ў краязнаўчай рабоце, супроць адцягненьня краязнаўства на старыя позыцыі „акадэмізму" і г. д. павінна быць сконцэнтравана ўся ўвага краязнаўчых арганізацый.

Вузкім участкам у краязнаўчай рабоце зьяўляецца школьнае краязнаўства. Ня гледзячы на гістарычнае рашэньне ЦК партыі „Аб пачатковай і сярэдняй школе", ня гледзячы на спэцыяльныя задачы НКА БССР, школьны краязнаўчы рух у БССР застаецца неразгорнутым. Загадчыкі школ і інспэктары народнае асьветы ў раёнах яўна недаацэньваюць ролі школьнага краязнаўства ў політэхнізацыі школы і не дапамагаюць школьнаму краязнаўчаму руху. З боку ЦБК і райбюро краязнаўства таксама ня было дапамогі школьным краязнаўчым ячэйкам. Мэтодычных дапаможнікаў і інструкцый па рабоце школьных краязнаўчых ячэек мы яшчэ ня маем. У разгортваньні школьнага краязнаўства неабходна ў бліжэйшы час дабіцца рашучага пералому, як па лініі органаў народнае асьветы, так і па лініі краязнаўчых арганізацый Не застанаўліваючыся на ўсіх іншых буйных недахопах у краязнаўчай рабоце, адзначаных у заключэньні прэзыдыумам таварыства краяведаў-марксыстаў аб выніках соцспаборніцтва паміж ЦБК РСФСР і ЦБК БССР, трэба адзначыць, што ўсе яны зьяўляюцца вынікам таго, што краязнаўчая работа ня была перабудавана і не праводзілася на аснове 6 ўмоў тав. Сталіна. Раённае бюро краязнаўства і ячэйкі, ня гледзячы на ўсе захады і заклікі ЦБК, ня ўключыліся ў соцспаборніцтва, не разгарнулі ўдарніцтва ў сваіх організацыях. У гэтым адна з асноўных прычына таго, што мы ў БССР ня маем яшчэ належных посьпехаў у разгортваньні краязнаўчага руху.

ЦБК БССР у гэтым годзе заключыў соцумову з ЦБК РСФСР па бягучы 1932 г. з тым, каб на новай аснове і шляхам бальшавіцкага правядзеньня новых абязацельстваў, шляхам мобілізацыі сапраўды шырокіх мас працоўных краіны, шляхам укараненьня 6 ўмоў тав. Сталіна ва ўсю практыку краязнаўчага руху, шляхам яшчэ больш рашучай барацьбы з усякімі скрыўленьнямі ў тэорыі савецкага краязнаўтсва, барацьбы з правымі і левымі ўхіламі, прымірэнцтвам і гнілым лібэралізмам--дабіцца рашучага пералому ва ўсім краязнаўчым руху краіны. Усе раённыя бюро краязнаўства і ячэйкі павінны абгаварыць дагавор на соцспаборніцтва паміж ЦБК РСФСР і ЦБК БССР на 1932 г., высунуць свае сустрэчныя пляны і соцыялістычнымі мэтодамі работы поўнасьцю забясьпечыць выкананьне і перавыкананьне ўсіх пунктаў соцумовы. Кожная краязнаўчая організацыя павінна ўсю сваю работу праводзіць соцыялістычнымі мэтодамі.

**В. Самцэвіч.**

## Дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва паміж Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук, Цэнтральным Бюро Краязнаўства РСФСР і Украінскім Камітэтам Краязнаўства на 1932 г.

Выходзячы з пастаноў XVII конфэрэнцыі, УсеКП(б) і XIV зьезду КП(б)Б, Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук усю сваю работу падпарадкоўвае задачам соцыялістычнага будаўніцтва чацьвертага заключнага году пяцігодкі, актыўнага ўдзелу ў складаньні пляваў другой пяцігодкі для ўтварэньня бясклясавае грамады.

У парадку соцыялістычнага спаборніцтва ЦБК БАН бярэ на сябе выкананьне наступных абавязацельстваў:

1. Організацыйна замацаваць існуючую сетку краязнаўчых організацый БССР і на працягу году дабіцца організацыі краязнаўчае сеткі ва ўсіх раёнах БССР, выходзячы з разьліку ня менш 10 дзейных краязнаўчых ячэек у кожным раёне (на заводах, фабрыках, колгасах, савгасах і МТС), у сярэднім ліку 15 членаў у ячэйцы, дабіваючыся, каб у складзе краязнаўчых організацый было 50 проц. рабочых і колгасьнікаў.
2. Разгарнуць сетку краязнаўчых ячэек пры ВНУ, тэхнікумах, ФЗС і ШКМ (з ахопам ня менш 40 проц апошніх) і масавых школ (з ахопам да 20 проц).
3. Рашуча праводзіць барацьбу за партыйнасьць у краязнаўстве, за марксысцка-ленінскую мэтодолёгію, супроць праяў вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі, супроць беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму і іншых мясцовых шовінізмаў, гнілога лібэралізму і інш., праз утварэньне спэцыяльнай брыгады праверыць краязнаўчую продукцыю за 1931 год. Разгарнуць шырокую крытыку і самакрытыку па ўсёй краязнаўчай рабоце,

4. Сумесна з НКА БССР рэорганізаваць існуючыя краязнаўчыя музэі, падпарадкаваўшы іх работу непасрэдна задачам соцыялістычнага будаўніцтва і на працягу году організаваць 8 новых краязнаўчых музэяў у раёне і 50 краязнаўчых куткоў на прадпрыемствах, колгасах, савгасах і МТС.

5. Правесьці поўны ўчот усёй краязнаўчай сеткі і яе работы.

6. Організаваць дзьве экспэдыцыі сіламі ЦБК і мясцовых краязнаўчых організацый па вывучэньню экономікі карысных выкапняў, колгаснага будаўніцтва і інш., выходзячы з заданьняў навукова-дасьледчых і гаспадарчых установ, а таксама давесьці да раёну пляны ўсіх навукова-дасьледчых экспэдыцый, якія будуць праводзіцца па БССР у бягучым годзе.

7. Уключыцца ў дасьледчы паход комсамолу і ТПТЭ па адшуканьню сыравіны для варштатаў прамысловасьці.

8. У мэтах падвышэньня кваліфікацыі краязнаўчых кадраў і кіраўнікоў краязнаўчых організацый організаваць курсы-сэмінары ў 10 раёнах, павялічыць лік завочнікаў да 40 чал., праз конфэрэнцыі-курсы пры ЦБК прапусьціць 100 чал. і на старонках часопісу „Савецкая Краіна" організаваць спэцыяльны аддзел консультацыі для нізавых краязнаўцаў і краязнаўчых організацый.

9. Правесьці па БССР месячнік краязнаўства.

10. Для ўсіх раённых краязнаўчых організацый выпрацаваць тэмы-заданьні па дасьледчай рабоце, выходзячы з спэцыялізацыі паасобных раёнаў мясцовых умоў і даць указаньні аб цесным контактаваньні краязнаўчай работы з плянамі раённых організацый і ўстаноў.

11. Забясьпечыць програмна-мэтодычнае організацыйнае кіраўніцтва па монографічнаму апісаньню 8 фабрык і заводаў, аднэй МТС і 7 колгасаў, комун і савгасаў, з якіх 1 яўрэйскі, 1 польскі, 1 літоўскі колгасы.

12. Выдаць зборнік па савецкаму краязнаўству, 13 програм і інструкцый і брошур па пытаньнях мэтодыкі краязнаўства.

13. Прымаць актыўны ўдзел ва ўсіх праходзячых політыка-гаспадарчых кампаніях (пасеўная, уборачная, загатоўчая і інш.).

14. Апаратам ЦБК абсьледваць краязнаўчыя організацыі 15 раёнаў і аказаць ім організацыйна-мэтодычную дапамогу ў рабоце.

15. Скласьці поўны бібліографічны даведчык краязнаўчае літаратуры БССР.

16. Увесьці ў работу ЦБК і краязнаўчых організацый колектыўныя мэтоды работы (брыгады, групы) і разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ў краязнаўчай рабоце.

17. Разгарнуць работу аб пропагандзе навукі і тэхнікі сярод працоўных мас праз організацыю спэцыяльных дакладаў, лекцый, перадачы па радыё, выданьня популярных брошур і популярызацыі ў цэнтральным мясцовым друку.

18. Да 15/X скласьці пяцігадовы плян работы па краязнаўству на другую пяцігодку. Аснову для складаньня другой краязнаўчай пяцігодкі павінен даць сваечасова ЦБК РСФСР.

19. ЦБК БССР, РСФСР і Украінскі Камітэт Краязнаўства ўзаемна інформуюць адзін другога аб праробленай рабоце рэгулярна праз кожныя 3 месяцы.

Супэр-арбітрам па выкананьню гэтага дагавору выбіраецца т-ва краязнаўцаў-марксыстаў пры Усесаюзнай Комуністычнай Акадэміі.

20. Дагавор мае моц да 1 студзеня 1933 году.

## Некаторыя заўвагі аб рабоце Бабруйскага краязнаўчага музэю

Бабруйскі краязнаўчы музэй зьяўляецца адным з буйнейшых і лепшых краязнаўчых музэяў у БССР. Музэй зьмяшчаецца ў асобным даволі добрым будынку, мае многа экспонатаў, якія характарызуюць наша соцыялістычнае будаўніцтва і выкарыстоўваюцца для мэт абсугоўваньня запатрабаваньняў масавае політыка-асьветнае работы сярод працоўных мас г. Бабруйску і яго раёну і для дапамогі політэхнізацыі масавай школы.

Асноўнымі тэмамі музэйнага паказу зьяўляецца: электрыфікацыя і мясцовая прамысловасьць, соцыялістычная сельская гаспадарка і прыродныя багацьці Бабруйшчыны, рэврух і грамадзянская вайна, культура і быт. Пры музэі ёсьць спэцыяльны невялікі халодны будынак, дзе знаходзяцца розныя с.-г. машыны. Невялічкі кавалачак зямлі (у двары) выкарыстаны для вырашчваньня і паказу новых с.-г. культур і дрэўных парод. Мясцовыя партыйныя, савецкія і грамадзкія організацыі цэняць работу музэю і дапамагаюць яго разьвіцьцю. Усе экспонаты, якія прыносяцца фабрыкамі і заводамі ў падарунак мясцовым партыйным, савецкім і профсаюзным зьездам, апошнімі перадаюцца музэю. Музэй адыгрывае вялікую ролю ў справе дапамогі школам у політэхнізацыі. Пры адным штатным працаўніку (загадчык) музэй правёў вялікую работу; энэргічна і аддана сваёй справе працуе загадчык музэю т. Славін.

Адзначаючы дадатныя бакі работы музэю, мы павінны адзначыць і тыя недахопы, якія, на нашу думку, маюцца ў рабоце музэю. На першым Усерасійскім музэйным зьезьдзе ў сваёй прамове т. Бубноў сказаў: „трэба зрабіць так, каб музэі ня толькі, калі можна так выразіцца, пасыўна ўспрымалі рэзультаты і продукцыю рухаючагася ўперад соцыялізму, а каб яны, убіраючы ў сябе ў выглядзе экспонатаў усё новае ў нашай вялізарнай соцыялістычнай будаўнічай рабоце, умелі-б, узмацняючы на гэтым новым свой фундамант, актыўна ўмешвацца ў самы працэс-

*соцыялістычнага будаўніцтва,* дапамагаючы яго размаху, дапамагаючы ўзацненьню пазыцый соцыялізму на кожным этапе его паступацельнага руху наперад (падкрэсьлена мною—В. С.). А для таго, каб актыўна ўмешвацца ў самы процэс соцыялістычнага будаўніцтва, музэю трэба дакладна ведаць пяцігадовы плян свайго раёну, конкрэтнае ажыцьцяўленьне гэтага пляну, найлепшыя дасягненьні барацьбы за якасьць продукцыі розных галін вытворчасьці і інш. Музэй павінен організаваць усебаковае вывучэньне свайго раёну, бо бяз веданьня конкрэтных задач і ўмоў соцыялістычнага будаўніцтва (прыродных багацьцяў і энэргетычных рэсурсаў карысных выкапняў, экономікі раёну і інш.) нельга весьці па-сапраўднаму актыўнай барацьбы за выкананьне конкрэтных задач соцбудаўніцтва. Вось гэтага дасьледваньня свайго раёну музэй належным чынам і не вядзе, краязнаўчая работа музэем не разгорнута. Музэй, напрыклад, ня ўключыўся ў падрыхтоўку да складаньня другой пяцігодкі раёну, у дасьледчы паход для вывучэньня сыравіны для прамысловасьці, не популярызуе гэтае надзвычайна вялікае справы. Паказваючы жывыя экспонаты соц. будаўніцтва, музэй усё-ж ня мае магчымасьці паказаць дынаміку соцбудаўніцтва свайго раёну, прыродныя багацьці і энэргетычныя рэсурсы раёну, выкананьне пяцігодкі па розных галінах народнае гаспадаркі і культуры. Вынікам таго, што музэем не разгорнута дасьледчая работа, зьяўляецца і другі вялікі недахоп у рабоце музэю—адсутнасьць работы па падрыхтоўцы кадраў і краязнаўча-музэйнага актыву. Музэй стаіць убаку ад краязнаўчай работы. Кіраўніцтва краязнаўчага музэю нават не рашаецца назваць свой музэй краязнаўчым. Зусім зразумела, што краязнаўчы музэй ня можа замкнуцца ў рамкі толькі свайго раёну, а павінен паказаць усе дасягненьні соцыялістычнага будаўніцтва свайго раёну ў непасрэднай сувязі з соцбудаўніцтвам усёй БССР і ўсяго СССР, але характэрныя асаблівасьці раёну, ва ўсёй яго конкрэтнасьці, павінны быць выяўлены асабліва яскрава.

На нашу думку музэю ў бліжэйшы час неабходна: а) разгортваючы і пашыраючы сваю работу, стаць на шлях актыўнае барацьбы за выкананьне *конкрэтных задач соцбудаўніцтва* ў сваім раёне, выходзячы з спэцыялізацыі раёну і плянавых заданьняў, дабіцца, каб у музэі больш поўна былі прадстаўлены „рэзультаты новых геолёгічных разьведак, новыя віды сыравіны, новая продукцыя заводаў соцыялістычнай індустрыі, савгасаў і перадавых колгасаў" (Бубноў).

б) разгарнуць дасьледчую работу і стварыць шырокі краязнаўча-музэйны актыў;

в) уключыцца ў падрыхтоўку да складаньня другой пяцігодкі раёну і організацыю масавага дасьледчага паходу за сыравінай для прамысловасьці;

г) шырэй разгарнуць работу па вывучэньню гісторыі рэвруху, грамадзянскай вайны і клясавай барацьбы на розных этапах соцбудаўніцтва і організацыі адпаведнага разьдзелу ў музэі;

д) асноўны тэкставы матар'ял даць на беларускай мове.

*В. С.*

## У масавым сэктары БАН

Для правядзеньня плянавай і сыстэматычнай масавай навукова-дасьледчай работы на фабрыках і заводах, да сямі наступных прадпрыемстваў гор. Менску: зав. Варашылава, Бальшавік, Полымя рэволюцыі, зав. Молатава, Комунар і Эльвод прымацаваны сталыя брыгады навуковых працаўнікоў БАН. Брыгады ўжо распачалі сваю работу. На працягу студзеня-красавіка бяг. году на рабочых сходах і нарадах прачытана 80 масавых дакладаў на навуковыя тэмы. Брыгады прымаюць удзел у організацыі і правядзеньні культурна-масавай работы: кіруюць гурткамі па аўладаньню тэхнікай, па вывучэньню белмовы, экономікі, і гісторыі Беларусі, мобілізуюць брыгады з рабочых па напісаньню гісторыі заводаў і інш.

Для сувязі БАН з раёнамі і дапамогі апошнім у справе разгортваньня і наладжваньня масавай навукова-дасьледчай работы да 20 наступных раёнаў БССР: Аршанскі, Бабруйскі, Барысаўскі, Віцебскі, Гомельскі, Горацкі, Койданаўскі, Крычаўскі, Лепельскі, Магілеўскі, Мсьціслаўскі, Мазырскі, Полацкі. Петрыкаўскі, Слуцкі, Рагачэўскі, Рэчыцкі, Хойніцкі, Чэрвеньскі і Чэчэрскі прымацаваны акад. і навуковыя працаўнікі БАН, якія пэрыодычна павінны будуць рабіць выезды ў раёны для правядзеньня адпаведнае работы. Таксама ўсім навуковым працаўнікам, якія выяжджаюць у раёны па службовых справах, даюцца па лініі Масавага сэктару пэўныя заданьні па правядзеньню масавае навукова-дасьледчае работы на фабрыках, заводах, у савгасах, колгасах і МТС.

Масавым сэктарам БАН організавана выданьне популярных масавых брошур да трэцяй бальшавіцкай вясны. Ужо вышлі з друку і распаўсюджваюцца: 1) „Хваробы садова-гародных культур БССР і спосабы змаганьня з імі"—Н. Дарожкіна.

2) „За культуру соі ў БССР"—М. Ганчарыка.

3) „На барацьбу за ахову азімых" (Інстытут біолёгіі).

4) „Лес і ўраджай"—Міхневіча.

5) „Шкоднікі сельска-гаспадарчай жывёлы і барацьба з імі"—Сяргеява.

6) „Краязнаўчыя музэі ў пасяўной кампаніі"—Грынблят і Ляўданскі.

7) „Організацыя працы ў колгасах БССР"—Н. Фішар.

8) „Вапняковыя пароды БССР"—С. Булыга.

9) „Дзіцячыя сады і ясьлі ў пасяўной кампаніі“—А. Поляк.

Вышла таксама з друку брошура „Першае мая на Беларусі“—С. Баркоўскага.

Т. К.

## У біолёгічным інстытуце БАН

Праведзена шырокая нарада па арганізацыі досьледаў культуры соі ў БССР. Асноўныя досьледы над культурай соі праводзяцца ў Ботанічным садзе БАН (Менск) і ў Горках пры Сельска-гаспадарчай Акадэміі. Досьледы праводзяцца ў кірунку сортаапрабаваньня, яравізацыі соі і агротэхнікі, у першым пункце над 150 гатункамі і ў другім над 364. Апрача таго, арганізаваны досьледы ў Камарыне, Жлобіне, Віцебску, Гомелі і пры 17 школах БССР, а таксама пры некаторых прыгарадных гаспадарках. Інстытут біолёгіі зьвярнуўся праз ЦБК да краязнаўчых організацый тых мясцовасьцяў, дзе арганізаваны досьледы над культурай соі, прыняць актыўны ўдзел ў організацыі гэтае справы. 11 мая бяг. году па лініі Біолёгічнага ін-ту выехала экспэдыцыя ў Брагіншчыну (Паганое) па вывучэньню шкоднікаў сельскае гаспадаркі, жывёлы і барацьбы з імі і падрыхтоўваецца выезд другое экспэдыцыі ў сьвінаводчыя гаспадаркі. У часе правядзеньня экспэдыцыі будзе праводзіцца ўдзельнікамі апошняй масавая работа ў колгасах, савгасах і МТС.

Выдавецт.—**Беларуская Акадэмія Навук.**

Рэдколегія:
**Гершэнбаўм І. Л.**
**Крукоўскі А. Я.**
**Садоўскі Ф. П.**
**Самцэвіч В. А.**
**Серафімаў В. С.**
**Шчарбакоў В. К.**

Друкарня БАН. Галоўлітбел № 682. Заказ № 823 Тыраж 1.200 экз. $6^1/_4$ арк.

# Зьмест

*Стар.*



### Бібліографія



### Офіцыйны аддзел

**Хроніка**

Цана 50 к.